29 жніўня 2014 | № 32 (401)

# Новы час

novychas.info

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
•ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144
9 772218 214401 10032

**Пра што кажа недакурак, кінуты міма сметніцы** стар.4







# Чужы сярод сваіх

## На мінскім саміце Пуцін застаўся ў адзіноце



Сяргей ПУЛЬША

Пуцін заўсёды спазняецца на міжнародныя сустрэчы. Журналісты ўжо звыкліся з тым, што самалёта расійскага прэзідэнта даводзіцца чакаць, іншым разам — даволі доўга. Не стаў выключэннем і мінскі саміт.

Але чаканне Пуціна дазволіла ўсім зацікаўленым бакам правесці невялікія перамовы «сам-насам». Асабліва шчыраваў кіраўнік Украіны, які не губляў, падаецца, ані секунды часу. Ён паспеў правесці сустрэчу з прадстаўніком Еўрасаюза па замежных справах і палітыцы бяспекі Кэтрын Эштан, а таксама паразмаўляць з Нурсултанам Назарбаевым. Не губляў часу і Аляксандр Рыгоравіч, які таксама пагутарыў з Эштан. Дарэчы, раней такая гутарка не планавалася: напярэдадні саміту афіцыйны прадстаўнік Эштан Мая Качыянчыч абвяргала магчымасці яе размовы з Лукашэнкам сам-насам. «Гэта не двухбаковая сустрэча», — казала пра мерапрыемства ў Мінску Качыянчыч. Спазненне Пуціна зрабіла сустрэчу магчымай.

Адразу пасля прыбыцця і пратакольных фотак кіраўнік Расіі паспрабаваў узяць быка за рогі. Ён паведаміў, што сукупны ўрон эканоміцы Расіі ад рэалізацыі пагаднення аб асацыяцыі Украіны з ЕС можа скласці больш як 100 млрд. расійскіх рублёў. Пуцін таксама заявіў, што з-за абнулення Украінай пошлін на імпарт з ЕС адбудзецца значны рост паставак еўрапейскіх тавараў на украінскі рынак, размова ідзе пра 98% таварнай наменклатуры. З-за рээкспарту еўрапейскіх тавараў і з-за пераходу ўкраінскіх тавараў на расійскі рынак «пад ударам будуць цэлыя сектары нашай прамысловасці і АПК», — падкрэсліў кіраўнік Расіі. На яго думку, страты будуць таксама ў Беларусі і Казахстана.

І вось тут ён магутна пракалоўся. Пакуль расійскі прэзідэнт «спазняўся», Назарбаеў ужо паспеў сказаць Парашэнку, што Казахстану ад асацыяцыі Украіны і ЕС ні халодна, ні горача. «Для Казахстана пагадненне аб асацыяцыі паміж Украінай і Еўрапейскім Саюзам не з'яўляецца перашкодай», — адзначыў Назарбаеў, і дадаў, што яговая рэспубліка скіраваная на развіццё двухбаковага супрацоўніцтва з Украінай. А Аляксандр Рыгоравіч ужо запэўніў Пятра Аляксеевіча, што Беларусь «тым больш» зацікаўленая ў тым, «каб на ўкраінскай зямлі, у цэнтры Еўропы была нармальная сітуацыя і становішча».

Пуцін казаў, што пасля імплементацыі эканамічнай часткі пагаднення «Украіна—ЕС» усе перамовы стануць бессэнсоўнымі, Расія павінна будзе ўключыць абаронны механізм сваёй эканомікі, адменіць усе прэферэнцыі для ўкраінскага імпарту і ўвядзе стандартны рэжым гандлю. Але ён, у выніку, вымушаны быў казаць гэта без ранейшага імпэту і толькі «за Расію», пакінуўшы ўбаку Беларусь, Казахстан, Мытны саюз і ЕАЭС. Пуцін не дачакаўся падтрымкі сваіх патрабаванняў ані ад Аляксандра Рыгоравіча, ані ад Нурсултана Абішавіча. «Насесці ўтраіх» на Пятра Аляксеевіча не атрымалася.

Парашэнка выказаў сябе сапраўдным дыпламатам. Па ідэі, пасля такога «развалу Мытнай кааліцыі» ён павінен быў вяроўкі віць з Пуціна. Аднак ён заклікаў «краіны Мытнага саюза» (чытай — Пуціна) «адысці ад супярэчнасцяў і засяродзіцца на механізмах узаемадзеяння ў рамках стварэння зоны свабоднага гандлю «Украіна—ЕС». То бок, па-першае, даў зразумець, што стварэнне такой зоны — пытанне вырашанае,




няглездзячы на пазіцыю Пуціна. А па-другое, параіў лічыць не страты, а магчымыя прыбыткі. У выніку бакі дамовіліся, што існуючая працоўная група ў галіне гандлёва-эканамічных адносін «Украіна — Расія — ЕС» да 12 верасня распрацуе прапановы па зняцці заклапочанасці МС і РФ, якія тычацца пагаднення аб асацыяцыі Украіны з Еўрапейскім саюзам. Пра што і сказаў на выніковай прэс-канферэнцыі Аляксандр Лукашэнка.

Гэтым крокам Пётр Аляксеевіч даў магчымасць Уладзіміру Пуціну захаваць твар: хоць кіраўнік Расіі і застаўся ў адзіноце са сваімі патрабаваннямі, але, можна лічыць, што дамовіўся аб перамовах з Украінай па сумесным гандлі.

Што тычыцца сітуацыі на Данбасе, то і тут Парашэнка быў у выгадная пазіцыі. Зноў-такі, пакуль «спазняўся» Пуцін, украінскі лідар здолеў патлумачыць сітуацыю ўсім зацікаўленым бакам. Прынамсі, ужо па выніках перамоваў ён заявіў, што «логіка мірнага плана нарэшце была падтрымана ўсімі без выключэння кіраўнікамі дзяржаў». Зразумела, ён меў на ўвазе свой план, з якім пагадзіліся Назарбаеў і Лукашэнка, і вымушаны быў пагадзіцца Пуцін.

Пуцін зноў паспрабаваў захаваць твар, зрабіўшы стандартны выгляд: «Я — не я, і хата не мая». «Расія, не будучы бокам канфлікту, не можа абмяркоўваць з Украінай нейкія ўмовы спынення агню, магчымыя дамоўленасці паміж Кіевам, Данецкам і Луганскам. Мы можам толькі спрыяць таму, каб стварыць абстаноўку даверу ў ходзе гэтага магчымага і вельмі неабходнага, на мой погляд, перамоўнага працэсу», — сказаў Пуцін.

Але вось пра што дамовіліся Парашэнка і Пуцін, дык гэта пра тое, што памежныя службы і генеральныя штабы Украіны і РФ пачнуць кансультацыі з мэтай закрыцця мяжы для ўвозу зброі і ваеннай тэхнікі з Расіі. І гэта ўжо невялічкі, але крок наперад у спыненні ваенных дзеянняў.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ВІЦЕБСК. Ствараецца «Праметэй»



**Сябра Партыі БНФ Аляксандр Ільінец збірае дакументы для рэгістрацыі сацыяльна-прававой арганізацыі «Праметэй».**

Устаноўчы сход аднадумцы ўжо правялі і цяпер вызначаюцца з канкрэтнымі накірункамі працы.

«Мы хочам палепшыць жыццё, выкарыстоўваючы гарантаваныя Канстытуцыяй правы. Прыкладам, права на годнае жыццё. У гэтым рэчышчы праца ўжо распачалася: яшчэ год таму мы заняліся абсталяваннем дзіцячай пляцоўкі сіламі жыхароў аднаго канкрэтнага двара. І ў нас атрымалася прыцягнуць да гэтай справы нават дзяржаўныя структуры. Цяпер мы хочам падвышаць інфармаванасць насельніцтва ў прававой сферы. У тым ліку ў галіне працоўнага права. Бо неаднаразова даводзіцца сутыкацца з парушэннямі правоў на прадпрыемствах, з падманам і грубым стаўленнем з боку наймальнікаў і гэтак далей», — адзначыў Аляксандр Ільінец.

Ён завочна навучаецца на юрыдычным факультэце Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта. На сённяшні дзень ён беспрацоўны: яго звольнілі з пасады майстра ў брыгадзе цэха ўласнай вытворчасці крамы №139 гандлёвай сеткі «Веста». Здарылася гэта якраз пасля гісторыі з добраўпарадкаваннем дзіцячай пляцоўкі. Уладкавацца на іншую працу не ўдаецца. Паўсюль адмаўляюць.

«Верагодна, як толькі даведваюцца, што я «апазіцыянер», — адмаўляюць, на якую б пасаду я ні прэтэндаваў. Сутыкненні з такой дыскрымінацыяй, а таксама з іншымі парушэннямі правоў і прывялі мяне да думкі пра неабходнасць стварэння сацыяльна-прававой арганізацыі».

### ГОМЕЛЬ. Жукоўскага прысудзілі да...



**27 жніўня суд Цэнтральнага раёна Гомеля вызваліў Кастуся Жукоўскага з-пад варты і перанёс разгляд яго справы.**

Жукоўскі быў затрыманы вечарам 25 жніўня ва ўласным прыватным двары, а ў аддзел яго забралі супрацоўнікі міліцыі, якіх ён сам жа і выклікаў. Кастусь Жукоўскі, прыехаўшы дахаты, не здолеў трапіць у свой двор — дарогу перагарадзілі грузавікі з будоўлі па суседству. Кіроўцы грузавіка не было ў кабіне. Раней жонка актывіста таксама прасіла прыбраць грузавікі, каб трапіць дахаты, але яе просьбу не прынялі да ўвагі. Актывіст выклікаў міліцыю. Прыехалі супрацоўнікі ДАІ і АМАП. Міліцыянеры прапанавалі Кастусю Жукоўскаму прайсці ў службовы аўтамабіль, той адмовіўся. Канфлікт перамясціўся ў двор жыхара Гомеля. У выніку міліцыя адвезла актывіста ў Цэнтральны РАУС.

26 жніўня павінен быў адбыцца суд. Але Жукоўскі падаў шэраг хадайніцтваў: выклікаць у суд сведак, прадставіць яму магчымасць карыстацца паслугамі адваката і весці працэс на роднай беларускай мове. Суддзя задаволіла хадайніцтвы і перанесла разгляд справы.

«Гэта была абсалютная правакацыя. Калі я пад'ехаў да свайго двара, там ужо за грузавымі аўтамабілямі стаяў аўтамабіль «Газель» з супрацоўнікамі АМАП. Прычым, звычайна на выклік прыходзіць участковы міліцыянер, а тут прыехалі і ДАІ, і АМАП — цэлы двор міліцыі сабраўся. Будоўля каля майго дому ідзе са шматлікімі парушэннямі, я шмат разоў пісаў скаргі ва ўсе інстанцыі, але ніхто не рэагуе», — паведаміў Кастусь.

### БРЭСТ. Жыхары адстаялі свой дом



**Дзякуючы намаганням жыхароў будынак, што з'яўляецца гісторыка-культурнай каштоўнасцю, быў выключаны з праекту забудовы.**

Яшчэ ў траўні Брэсцкі аблвыканкам выступіў з ініцыятывай выключэння з інвестыцыйнай дамовы з ТАА «Эледы» дома №10 па вуліцы Астроўскага. Паводле словаў брэсцкага каардынатара Руху "За Свабоду" Дзяніса Турчаняка, які другі год дапамагае жыхарам гэтага дома адстойваць свае правы, звесткі пра тое, што інвестыцыйная дамова перагледжана, прыйшлі выпадкова, а самі грамадзян ніхто пра гэта не папярэдзіў.

Ад самага пачатку было зразумела, што ў справе з домам №10 па вуліцы Астроўскага аблвыканкам перавысіў паўнамоцтвы, якія прадстаўлены гэтай установе Законам «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні», бо чыноўнікі хацелі вырашыць лёс прыватнай уласнасці грамадзян без іх ведама і згоды.

Гісторыя гэтага дома стала падставай для зваротаў у пракуратуру і некалькіх судовых пасяджэнняў. Гэта нарэшце прынесла вынік. Аднак па-ранейшаму няма пэўнасці наконт гаспадарчых забудоў, што знаходзяцца побач з домам №10 і належаць жыхарам. Паводле апошніх звестак, інвестар хоча пачаць на гэтай тэрыторыі будаўніцтва шматпавярховага дома.

**Паводле spring96.org**

# Суд адхіліў скаргу журналіста

**26 жніўня суддзя Цэнтральнага раёна Гомеля Марына Дамненка адхіліла скаргу сябра ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» Міколы Бянько на дзеянні першага намесніка пракурора Гомельскай вобласці Вадзіма Сушчынскага.**

Сушчынскі вынес папярэджанне журналісту-фрылансеру за падрыхтоўку інфармацыйных матэрыялаў без акрэдытацыі на замежны СМІ — «Беларускае Радыё Рацыя».

Разгляд скаргі на дзеянні службовай асобы дзяржаўнага органа, якія абмяжоўваюць правы і законныя інтарэсы грамадзяніна, звёўся да высвятлення тэрміну падачы заявы ў суд.

Апрача таго, суддзя адмовілася весці судовае паседжанне на беларускай мове, як прасіў Мікалай Бянько. Яна не дазволіла Міколу як сябру ГА «БАЖ» мець у судзе свайго прадстаўніка, таксама сябра ГА «БАЖ», юрыста Леаніда Судаленку.

Прадстаўнік Гомельскай абласной пракуратуры, старшы памочнік пракурора Дзмітрый Дэбой (які, дарэчы, і рыхтаваў папярэджанне Міколу Бянько), таксама заявіў, што права на абскарджванне ў судзе журналіст атрымаў яшчэ 25 сакавіка, пасля пісьмовай адмовы пракурора вобласці скасаваць папярэджанне.

У выніку суддзя Марына Дамненка вырашыла адхіліць скаргу журналіста на дзеянні першага намесніка абласнога пракурора, палічыўшы, што месячны тэрмін для звароту ў суд прапушчаны.

«Тэрмін па дадзенай справе не прапушчаны. Папярэджанне вынесена Гомельскай абласной пракуратурай. Вышэйшым за яе дзяржаўным органам з'яўляецца Генеральная пракуратура, куды і звярнуўся Бянько. І пасля таго, як 6 мая ён атрымаў адказ з Генеральнай пракуратуры, ён цягам месяца, а дакладней 29 мая, і звярнуўся непасрэдна ў суд. Таму я і лічу, што ніякі тэрмін тут не прапушчаны», — сказаў юрыст Леанід Судаленка.

«Я абсалютна не згодны з папярэджаннем. Лічу, што пракуратура як орган нагляду за выкананнем законаў ды іншыя сілавыя структуры мусяць займацца сваёй непасрэднай працай, а не гойсаць у пошуках журналістаў і пераследаваць іх па абсалютна надуманых прычынах. Таму я спачатку звярнуўся са скаргай у абласную, у Генеральную пракуратуру, а потым уласна ў суд, каб прызналі папярэджанне неабгрунтаваным і незаконным», — адзначыў Мікола Бянько.

У скарзе ў суд Мікола Бянько ўказаў, што, выносячы папярэджанне за публікацыі на замежных сайтах, пракуратура абмяжоўвае яго правы на атрыманне і распаўсюд інфармацыі, гарантаваных грамадзянам Беларусі Канстытуцыяй і міжнароднымі пагадненнямі, якія Беларусь падпісала і абавязалася выконваць.

Рашэнне суда Цэнтральнага раёна Мікалай Бянько з юрыстам ГА «БАЖ» аспрэчаць у вышэйшай судовай інстанцыі.

**Паводле прэс-службы БАЖ**

# Белмова для замежнікаў

Марат ГАРАВЫ

**У Мінску адбылася прэзентацыя першых дзвюх кніг цыклу «Тэст па беларускай мове як замежнай» — па пачатковаму і базаваму ўзроўнях валодання беларускай мовай як замежнай.**

Кніжкі выданы рэспубліканскім грамадскім аб'яднаннем «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» невялікім накладам — па 100 паасобнікаў кожная.

Аўтары-складальнікі — выкладчыкі БДУ, МДЛУ і БДТУ Вольга Барысенка, Ларыса Кныш, Уладзімір Кулікові, Алеся Літвіноўская, Таццяна Рамза і Аксана Семяненькевіч. Яны падрыхтавалі выданні сумесна з сябрамі ТБМ, якое ініцыявала гэты праект.

Як адзначалася на прэзентацыі, кніжкі з'яўляюцца першай у Беларусі спробай стварэння цыклу з шасці пробных тэстаў для ацэнкі валодання беларускай мовай як замежнай на розных узроўнях — ад элементарнага, пабытавага да дасканалага. Выданні — складнік вялікага навучальна-метадычнага комплексу «Сертыфікат беларускай мовы як замежнай». Тэсты рыхтаваліся на аснове Агульнаеўрапейскіх кампетэнцый валодання замежнай мовай: вывучэнне, выкладанне, ацэнка (CEFR). У лістападзе 2001 года Савет Еўрасаюза прыняў рэзалюцыю, у якой рэкамендаваў CEFR у якасці асновы для стварэння нацыянальных сістэм ацэнкі моўнай кампетэнцыі.

На сёння ў многіх краінах свету ёсць распрацаваныя сістэмы ацэнкі ведаў нацыянальных моваў. Прычым гэта тычыцца не толькі краінаў — сяброў ЕС, але і іншых міждзяржаўных утварэнняў. Так, Расія, і Казахстан маюць распрацаваныя і зацверджаныя на дзяржаўным узроўні сертыфікаты нацыянальных моваў. Беларусь пакуль адстае.

Кніжкі накіроўваюць на апрабацыю, якая цягам навучальнага года будзе праводзіцца ў шэрагу сталічных ВНУ, у Беластоцкім і Варшаўскім універсітэтах (Польшча), у Пражскім універсітэце (Чэхія), а таксама ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце (Літва), дзе навучаюцца замежныя студэнты. Пасля ацэнкі тэстаў замежнымі экспертамі па гэтай праблеме запланавана правядзенне міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, а на працягу некалькіх наступных гадоў — падрыхтоўка і выпуск шэрагу падручнікаў па беларускай мове для іншаземцаў.

Мяркуецца, што тэсты стануць крытэрам для ацэнкі ўзроўню валодання беларускай мовай замежнымі дыпламатамі, гісторыкамі, бізнэсоўцамі, журналістамі, культуролагамі, палітолагамі, навукоўцамі-гуманітарыямі, каб яны маглі займаць пэўную пасаду, а таксама для замежных студэнтаў, якія вывучаюць беларускую мову, і мігрантаў, якія пасяліліся на Беларусі і хочуць атрымаць від на жыхарства ці грамадзянства.

Астатнія чатыры кніжкі тэстаў кіраўніцтва грамадскага аб'яднання збіраецца выдаць да XII з'езду ТБМ, які адбудзецца ў Мінску 26 кастрычніка бягучага года.

# 500 год бітвы пад Оршай. Новая версія

Марат ГАРАВЫ

**6 верасня ў Мінску адбудзецца навукова-практычная канферэнцыя «500 год бітвы пад Оршай», арганізаваная грамадскім Інстытутам беларускай гісторыі і культуры, зарэгістраваным у Рызе.**




У канферэнцыі возьмуць удзел гісторыкі, палітолагі, сацыёлагі, пісьменнікі і журналісты. Чакаюцца выступы 15 дакладчыкаў. Будзе прадстаўлена версія пра тое, што бітва адбылася не на левым, як агульнапрызнана, а на правым беразе ракі Крапіўна. Гэтая версія мае шмат прыхільнікаў. Калі яна пацвердзіцца, бітву можна называць не Аршанскай, а Дубровенскай. Бо ад гэтага месца бітвы да Дуброўна прыкладна 4 кіламетры, а да Оршы — каля 10 кіламетраў.

Па матэрыялах канферэнцыі будзе падрыхтаваны і выдадзены зборнік матэрыялаў.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Усім багатыя!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Цікава, што на мінскім саміце Аляксандр Рыгоравіч не скарыстаўся момантам, каб пагутарыць сам-насам з Уладзімірам Уладзіміравічам. Магчыма, беларускі правадыр разумеў, што ў Пуціна і без яго галава баліць. А шкада, можна было б паразмаўляць пра «абяцанкі-цацанкі».**




Пуцін зрабіў закідон у бок Беларусі — маўляў, ёсць факты рээкспарту забароненай у Расіі прадукцыі з Беларусі. «У нас нават у рамках Мытнага саюза ўжо ідзе забаронены сёння да ўвозу на тэрыторыі Федэрацыі з краін ЕС рээкспарт, у гэтым выпадку праз Беларусь», — заявіў ён. І падкрэсліў, што экспарцёры часта проста зрываюць з тавару налепку, дзе ўказана краіна паходжання тавару, і наклейваюць новую. «Вось, падпісана: краіна паходжання — Беларусь. Налепку сарвалі — Польшча», — сказаў Пуцін.

Аляксандр Рыгоравіч сціпла прамаўчаў. Падаецца, што выказацца больш грунтоўна яму не дазволіў фармат. Калі ты «прымаючы бок», то павінен быць стрыманым і не ладзіць скандалы. А тое і мы б маглі Расіі закінуць нешта кшталту: «Калі мы дамовіліся пра ЕАЭС, нам быў абяцаны крэдыт у два мільярды долараў. Ужо верасень, а дзе грошы? Таму мы і «адбіваем» ваш крэдыт такім чынам».

Сапраўды, абяцаныя грошы да нас не дайшлі. Але кіраўнік «сінявокай» нічога не сказаў з гэтай нагоды. Магчыма, таму, што, аказваецца, мы і самі багатыя, бо з папярэдніх крэдытаў яшчэ не ўсё патрацілі.

У панядзелак пад кіраўніцтвам Аляксандра Лукашэнкі прайшла нарада па пытанні выкарыстання кітайскіх крэдытных рэсурсаў. Аляксандр Рыгоравіч нагадаў, што ў свой час Кітайская Народная Рэспубліка выдзеліла Беларусі крэдытныя рэсурсы ў памеры $15–18 мільярдаў пад розныя працэнтныя стаўкі. Звяртаючыся да прысутных на нарадзе, ён адзначыў, што хацеў бы пачуць, як асвойваюцца гэтыя сродкі, у якім памеры яны ўжо атрыманыя і якія праекты рэалізуюцца.

«У нас ёсць добрыя рэшты крэдытных рэсурсаў, якія не выкарыстаны, пад 2–3% гадавых. Хацелася б ведаць, куды першапачаткова мы гатовыя накіраваць гэтыя крэдытныя рэсурсы, — сказаў ён. — Натуральна, што накіроўваць трэба выключна ў акупальныя праекты, і чым раней яны акупяцца, тым лепш».

Вось, аказваецца, у чым справа! Мы набралі столькі грошай у Кітая, што нават не ведаем, куды іх укласці! Таму, верагодна, і пытанне крэдыту ад Пуціна было праігнараванае — і яму зараз складана, і нам грошы не патрэбныя.

**І не лесам адзіным жыве краіна. Мы здольныя выжыць у любой сітуацыі, нават калі Расія ў адказ на нашыя «рээкспарты» спыніць нам пастаўку нафты. Будзем касіць...**

Але што прагучала — гэта пэўная заклапочанасць кіраўніка дзяржавы тым, што гэтыя грошы давядзецца вяртаць. Падаецца, упершыню мы пачулі такую заклапочанасць ад Аляксандра Рыгоравіча. Відаць, падыходзіць тэрмін расплаты па пазыках.

Частка крэдытаў была выкарыстаная на мадэрнізацыю аб'ектаў у энергетычнай і транспартнай сферах. Лукашэнка пацікавіўся, як працуюць мадэрнізаваныя прадпрыемствы. «Самае страшнае, калі мы мадэрнізуем вытворчасць, а затым, атрымаўшы прадукцыю, мы не будзем ведаць, куды яе падзець. Тады паўстане пытанне: а навошта мы бралі крэдыты, навошта выраблялі гэтую прадукцыю, і хто будзе вяртаць гэтыя крэдыты, калі прадукцыя не будзе знаходзіць збыту? Гэта, падобна, злачынства. І першы злачынец будзе міністр», — адразу знайшоў наш правадыр вінаватага.

Але, пэўна, кітайцам будзе фіялетава, злачынца міністр альбо не. Бо грошы вяртаць усё роўна давядзецца.

Вядома, знойдзем мы гэтыя рэсурсы. І без «рээкспарту харчоў» знойдзем. Бо ў нас раптам з'явілася проста казачная ніша экспарту ў Расію. Як паведамляе агенцтва «Інтэрфакс-Захад», Беларусь будзе завальваць Расію хваёвымі шышкамі.

Навошта Расіі нашы шышкі, калі ў яе ёсць Сібір? Але, напэўна, няма Сібіры — усё пасеклі. А таму беларускія лясгасы плануюць у бягучым годзе істотна нарасціць экспарт насення хвоі ў Расію. «Калі ў 2013 годзе ў Расію было рэалізавана 240 кілаграмаў насення хвоі, то ў першым паўгоддзі бягучага года — ужо 196 кілаграмаў», — праінфармавалі ў прэс-службе Міністэрства лясной гаспадаркі. «У рэспубліцы створана пастаянная база лесанасення, якая ўключае 1,4 тысячы гектараў элітных насаджэнняў, 3,5 тысячы найлепшых дрэваў, якія адбіраюцца для мэтаў насеннягадоўства і далейшай селекцыі, 1,8 тысячы гектараў лесанасенных плантацый. Гэта дае магчымасць не толькі забяспечыць Беларусь пасяўным матэрыялам, неабходным для якаснага ўзнаўлення лясоў у аб'ёме трохгадовай патрэбы, але і часткова рэалізаваць насенне на экспарт», — падкрэслілі ў Мінлясгасе.

Раней міністр лясной гаспадаркі Міхаіл Амельяновіч заявіў, што Беларусь гатова аказаць Расіі істотную дапамогу ў стварэнні лясоў і правядзенні лесаўзнаўляльных працэсаў.

Усяго за першае паўгоддзе 2014 года прадпрыемствамі Мінлясгаса было экспартавана лесапрадукцыі і паслуг на $90 мільёнаў, экспарт у параўнанні з першым паўгоддзем мінулага года вырас на 38,6%. Станоўчае сальда склала $86,9 мільёна.

Як тут не ўзгадаць выслоўе старога партызана: «Беларусы! Беражыце лес — ён вам яшчэ спатрэбіцца!». І спатрэбіўся — як аказалася, не толькі ў змрочныя часы.

І не лесам адзіным жыве краіна. Мы здольныя выжыць у любой сітуацыі, нават калі Расія ў адказ на нашыя «рээкспарты» спыніць нам пастаўку нафты. Пад Брэстам на тыдні ўпершыню ў Беларусі прайшоў чэмпіянат Еўропы па ручной касьбе.

Чэмпіянат прайшоў на самым высокім узроўні. Вытрымкі і перамогі ўдзельнікам жадалі міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Уладзімір Цалко, старшыня Бярозаўскага райвыканкама Юрый Наркевіч, дырэктар заказніка «Спораўскі» Вадзім Пратасевіч. Праўда, Еўропу прадстаўляла толькі адна польская каманда. Усяго ж на старт выйшла 25 каманд. Ім трэба было выкасіць па сто метраў, прычым суддзі ўлічвалі шырыню пракоса, яго чысціню і вышыню грывы: за кожныя 10 см дадавалі касцу па штрафной хвіліне.

Усе прызавыя месцы занялі беларусы, не пакінуўшы палякам аніводнага шанцу. Такім чынам, у нас ёсць на каго спадзявацца, нават калі ў калгасах скончацца паліва.

Галоўнае — разлічваць на ўласныя сілы. Тады нам не будзе патрэбная аніякая Расія. Мы здольныя ўсё зрабіць самі, і яшчэ суседзям дапамагчы.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Мікалай Ладуцька

**Мэр на чарговым пасяджэнні зрабіў выгляд, што ўсе праблемы ў Мінску скончыліся.**

У той час, як з пачаткам буйных дажджоў у горадзе і прыгарадах назіраліся перабоі з электразабеспячэннем, ён занепакоіўся вулічным гандлем.

На нарадзе ў Мінгарвыканкаме сталічны кіраўнік горада абмяркоўваў не экстраныя меры па ліквідацыі прычын адключэнняў, а навядзенне парадку ў падземных пераходах, у першую чаргу ў двух — на станцыях метро «Каменная горка» і «Інстытут культуры».

У прыватнасці, Ладуцька запатрабаваў прыбраць несанкцыянаваны гандаль таварамі, палепшыць рэкламнае афармленне пераходаў, а таксама праверыць санітарны стан размешчаных у пераходах аб'ектаў грамадскага харчавання. Навесці парадак у пераходах было прызначана тэрмінова — да суботы, 30 жніўня.

Канешне, трэба разабрацца з «несумленнай канкурэнцыяй» — вулічныя гандляры не залежаць ад наяўнасці электрычнасці так, як дзяржаўныя крамы.

## Павел Вінаградаў

**Кіраўнік маладзёжнай ініцыятывы «Zмена» 25 жніўня быў у чарговы раз асуджаны на 10 сутак адміністрацыйнага арышту.**



Каля 12.30 міліцыянты з'явіліся да Паўла дадому, каб «пагутарыць». Гутаркі не атрымалася — Вінаградаў паведаміў, што будзе чакаць іх праз дзве гадзіны ля пад'езду з торбай рэчаў, неабходных для адміністрацыйнага арышту. І ён меў рацыю: ад пад'езда яго забралі «на гутарку» ў РУУС Маскоўскага раёна Мінска, а потым высветлілася, што Вінаградаў на ганку гэтага ж РУУС нечакана пачаў «лаяцца матам».

Вінаградаў напярэдадні прысуду нагадаў, што гэта ягоная 16-я адміністрацыйная справа і 9-я з іх па абвінавачванні ў лаянцы. Але яму складана было патлумачыць, з чым звязаны арышт. Альбо з тым, што актывісты «Zмены» 24 жніўня адзначылі Дзень незалежнасці Беларусі вывешваннем сотні бел-чырвона-белых сцягоў у Мінску, альбо гэта «прафілактычная дзея» напярэдадні візіту ў Мінск Пуціна, Парашэнкі і Эштан.

Вінаградаў зазначыў, што ў акцыі па вывешванні сцягоў ён не ўдзельнічаў. Але ўсе звыкліся да таго, што, як толькі ў Мінску з'яўляюцца сцягі альбо ўлёткі ад імя «Zмены», Вінаградава традыцыйна арыштоўваюць і прысуджаюць да адміністрацыйнага арышту.

## Уладзімір Самсонаў

**Знакаміты айчынны спартсмен стаў пераможцам міжнароднага турніру па настольным тэнісе з серыі «Сусветны тур» Belarus Open 2014 (адкрытага чэмпіянату Беларусі) у адзіночным разрадзе.**



Дабраўшыся па турнірнай сетцы да паўфінальнага паядынку, Уладзімір Самсонаў (першы нумар пасеву) атрымаў у суперніка на гэтай стадыі расіяніна Васіля Лакеева. Пры поўных трыбунах Палаца тэніса Самсонаў прайграў першы сэт (9-11), але далей беларус дадаў у атацы і ўпэўнена выйграў наступныя чатыры партыі (11-4, 11-1, 11-4, 11-8). Выніковую перамогу ў матчы ён атрымаў з лікам 4:1.

Супернікам Самсонава ў фінале стаў прадстаўнік Польшчы Зенгі Ванг, які ў паўфінале адолеў тэнісіста з Рэспублікі Карэя Сангсу Лі (4:3). У ходзе фінальнага матчу перавага Уладзіміра Самсонава над Зенгі Вангам была бясспрэчнай. Яна вылілася ў перамогу з традыцыйным агульным лікам — 4:1 (11-6, 11-4, 8-11, 11-3, 11-6). Да поспеху на адкрытым чэмпіянаце Беларусі Уладзімір Самсонаў некалькі гадоў не выйграваў турніры з серыі «Сусветны тур».

Адкрыты чэмпіянат Беларусі па настольным тэнісе праводзіцца з 2008 года. Прызавы фонд турніру гэтага года склаў $30 тысяч. У ім паўдзельнічалі больш за паўтары сотняў спартсменаў з 18 краін свету.

29 жніўня 2014 | № 32 (401) Новы Час

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Пра што кажа недакурак, кінуты міма сметніцы

**Сучасны варвар — гэта чалавек, які не здатны асвойваць каштоўнасці заходняй цывілізацыі, але з задавальненнем спажывае яе матэрыяльныя даброты.**

У Мінску на праспекце Дзяржынскага каля станцыі метро Міхалова пабудавалі чарговую офісную вежу. Усё як належыць: суцэльнае шкло. Але вось на днях, калі я праязджаў на аўтобусе па паралельнай вуліцы, звярнуў увагу на высокі шэры будынак, што сваім убогім выглядам нагадвае турму. Гэта і была тая самая офісная вежа, але не яе галоўны фасад, а фасад, што выходзіў у двор.

Прызнаюся, мне спатрэбіліся час і дапамога гісторыка Андрэя Буроўскага, каб усвядоміць гэта дыялектычнае адзінства супрацьлегласцяў: «Наяўнасць фасадаў, якія адрозніваюцца, — галоўнага і дваровага — атрыбут створанага варварам асяроддзя. Позні варвар засвойвае, што галоўны фасад трэба зрабіць прыгожым, але ніякая сіла на Зямлі не прымусіць яго стварыць (і падтрымліваць) увесь аб'ект, цэласнае асяроддзе на адным узроўні, у стане ўпарадкаванасці і гармоніі. Варвар творыць для «начальства», гледача, але не для Бога».

Мяркую, чытач ужо здагадаўся, што ключавым паняццем гэтай «Азбукі паліталогіі» будзе паняцце «варвар».

## Навошта яны ўсюды лезуць?

Традыцыйная трактоўка гэтага паняцця пададзена ў Вікіпедыі. Аднак нам яна не спатрэбіцца. Згодна культуролагу Ігару Якавенку, прынцыповае адрозненне архаічнай культуры ад цывілізацыі выяўляецца ў стаўленні да інавацый. У архаічнай культуры аб'ём культурнага рэсурсу на працягу жыцця аднаго пакалення змяняецца нязначна. Яе культурны суб'ект — архаічны чалавек, арыентаваны на самыя прымітыўныя формы гаспадарання і пастаяннае іх узнаўленне.

Для чалавека цывілізацыі наяўнасць бесперапынна зменлівага асяроддзя пражывання — натуральная ўмова існавання.

Архаічны чалавек, які жыве ў сваім архаічным свеце, не з'яўляецца варварам. Варварам ён становіцца падчас кантактаў з цывілізацыяй. «Самая яркая характэрная рыса варвара, — піша Якавенка, — амбівалентнае стаўленне да цывілізацыі. Варвар не можа жыць без цывілізацыі, але ў яшчэ меншай ступені ён здольны (і хоча) жыць у цывілізацыі».

Варвара прыцягвае да цывілізацыі тое, што можна абагульніць словам «карысць». Але выгоды цывілізацыі варвар выкарыстоўвае выбарачна. Напрыклад, з усіх выгод цывілізацыі афганскія маджахеды аддавалі перавагу амерыканскім пераносным зенітным комплексам «Стынгер».

З маджахедамі мне сустракацца не даводзілася, але я ведаю беларускіх пенсіянераў, чыё даўгалецце не ў апошнюю чаргу забяспечваецца заходнімі лекамі. Аднак гэта не перашкаджае ім асуджаць амерыканцаў за тое, што яны «ўсюды лезуць».

А яны сапраўды «ўсюды лезуць». Я пішу артыкул, лежачы на канапе. Над галавой у мяне гарыць лямпачка Эдысана. На століку стаіць тэлефон Бэла. На жываце ляжыць ноўтбук, начынены стандартным софтам і падлучаны да «спецпраектаў ЦРУ» (такое вызначэнне інтэрнэту даў Уладзімір Пуцін). Працягваць у тым жа духу можна да бясконцасці.

Цывілізацыя жаданая. Яна нараджае жаданыя выгоды, але адначасова яна смяротна небяспечная. Справа ў тым, што цывілізацыя нясе смерць варвару. Яна знішчае варвара як культурны тып, разбурае варварскі свет. Таму варвары, поўныя нянавісці да сваёй гістарычнай альтэрнатывы, актыўна асвойваюць «Стынгер» і інтэрнэт. Яны спрабуюць з іх дапамогай супрацьстаяць чужым культурным каштоўнасцям, што не перашкаджае ім абклейваць асабістыя фазэнды нямецкімі шпалерамі і замяняць беларускую сантэхніку на італьянскую.

## Не горш, чым у краінах Захаду

Стаўленне ўлады і большасці беларусаў да Еўропы было і застаецца амбівалентным (дваістым). Ніхто ў нас не супраць еўрарамонту ва ўласнай кватэры, але ідэю правядзення еўрарамонту ў маштабах краіны сёння падтрымлівае толькі трэцяя частка насельніцтва. Калі б у чэрвені бягучага года беларусам далі магчымасць выбіраць паміж аб'яднаннем з Расіяй і ўступленнем у Еўрапейскі саюз, то аб'яднанне з Расіяй выбралі б 47%, уступленне ў ЕС — 33% (НІСЭПД)




Для адзінага беларускага палітыка (АП) Еўропа — гэта сіла, якая марыць, *«как удавкой, задушить нашу страну, нашу независимость»*. Задушыць для таго, каб *«заставить быть такими, как все вокруг нас, как они, в конце концов»* (Пасланне–2011).

Але гэта цёмны бок Месяца. Калі ж зазірнуць на яго светлы бок, то нечакана высвеціцца, што і сам кіраўнік дзяржавы марыць бачыць беларусаў такімі, «як яны». Адкрыем яго перадвыбарчую праграму ўзору 2006 года: *«Основная задача на ближайшие пять лет — довести качество жизни наших граждан до уровня, сравнимого с западноевропейским. Причем мы понимаем качество жизни не только как уровень зарплаты, но и доступные жилье, образование, медицинская помощь, гарантированные рабочие места, экология и многое другое»*.

Ну што тут скажаш? Калі палітык хоча размаўляць з беларускімі выбаршчыкамі на зразумелай мове, то свае абяцанні ён вымушаны прывязваць да еўрапейскіх стандартаў. Іншых стандартаў у сучасным свеце не існуе.

Дасягнуць якасці жыцця, *«сравнимого с западноевропейским»*, да абяцанага тэрміну не ўдалося. Таму ў чарговай перадвыбарчай праграме мы чытаем: *«К 2015 году уровень жизни в Беларуси приблизится к европейскому»*.

Для 31% беларусаў гэта расплывістае абяцанне *«приблизиться»* аказалася перакрытым ужо ў бягучым годзе (гл. табліцу). Рэкордная колькасць аптымістаў (53%) была зарэгістраваная ва ўзроставай групе 60 гадоў і старэй, г. зн. сярод пенсіянераў. Не выключана, што гэтаму спрыяў сярэдні памер пенсій, які склаў у траўні 232,4 долара ў эквіваленце.

Сярод прыхільнікаў АП жывуць не горш, чым у краінах Захаду, 49%! Як тут ні прыгадаць калегаў-аналітыкаў, якія рэкамендуюць палітычным працаўнікам кіраўніка дзяржавы «выйсці з апазіцыйнага гета». Навошта? За межамі гета палова беларусаў, па іх уласным прызнанні, дасягнула еўрапейскага ўзроўню спажывання, і гэты ўзровень забяспечваецца роднай эканамічнай мадэллю. Пра якую альтэрнатыву тут можна весці размову?

## Хаатызацыя прасторы

У ноч на 20 жніўня невядомыя пафарбавалі сіняй фарбай верхнюю частку зоркі на шпілі высоткі на Кацельнічаскай набярэжнай у Маскве і замацавалі сцяг Украіны. 21 жніўня па абвінавачванні ў вандалізме былі затрыманыя чацвёра маладых людзей.

Пасля апаратыўнага ўмяшання Генеральнай пракуратуры абвінавачванне па арт. 214 КК РФ (вандалізм) апаратыўна замянілі на абвінавачванне па ч. 2 арт. 213 КК РФ (хуліганства). Зараз, у выпадку перадачы справы ў суд і прызнання падазраваных вінаватымі, ім можа пагражаць не тры гады, а сем гадоў пазбаўлення волі. Пры гэтым пастановай пракурора Масквы справа забраная з вытворчасці аддзела дазнання Таганскага АМУС і перададзена ў Галоўнае следчае ўпраўленне МУС Расіі. Вось як усё сур'ёзна!

Але мы жывем у век інтэрнэту, і таму маем магчымасць зірнуць на задні фасад высотак на Кацельнічаскай набярэжнай. Мясцовымі Сікейрасамі (мексіканскі мастак-манументаліст) ён багата пакрыты фрэскамі. Асабіста мне сярод шматлікіх абстрактных сюжэтаў спадабалася рэалістычная выява чэрапа і перакрыжаваных костак.

Няцяжка здагадацца, што ні Таганскі АМУС, ні тым больш Галоўнае следчае ўпраўленне МУС Расіі фрэскі на заднім фасадзе высотак не цікавяць. Іх аўтары могуць спаць спакойна.

Звернемся да нядаўняга мінулага. Кожны савецкі чалавек ведаў, што зона вышэйшай упарадкаванасці распаўсюджвалася толькі на асаблівы, вузкі клас аб'ектаў. У тыпавы набор уваходзілі абкам, аблвыканкам, будынак дзяржбяспекі, рытуальная плошча з помнікам правадыру. Толькі гэтыя аб'екты былі бездакорна па савецкіх мерках пабудаваныя і эксплуатаваліся, уяўляючы сабой асабліва дагледжаную прастору. Усё ж астатняе, у тым ліку і тэатры, музеі, стадыёны, санаторыі, было фатальна дэфектнымі. Перш за ўсё, гэтыя аб'екты мелі два вельмі адрозныя галоўныя фасады — фасад галоўны і фасад дваровы.

Як адзначаў гісторык, якога я цытаваў вышэй, асяроддзе навакол чалавека арганізоўвалася (яно працягвае так арганізоўвацца. — С.Н.) такім чынам, каб элемент неўладкаванасці і бязладдзіцы заўсёды знаходзіўся ў полі зроку.

На кожным прыпынку грамадскага транспарту ў Мінску ўстаноўлены сметніцы, але сучасныя варвары штодня пакрываюць пластом недакуркаў усю вольную прастору вакол прыпынкаў. Тут мы маем справу з фундаментальнай культурнай нормай. Варвар, сутыкнуўшыся з акультуранай прасторай, успрымае яе як «чужую», і таму ў яго ўзнікае патрэба «апусціць» (хаатызаваць) прастору да прымальнага ўзроўню.

## Кароткія высновы

Сучасны варвар — гэта чалавек, які не здатны асвойваць каштоўнасці заходняй цывілізацыі, але з задавальненнем спажывае яе матэрыяльныя даброты.

Варвар насцярожана ставіцца да любых наваўвядзенняў, і гэта мякка сказана. Як тут ні прыгадаць бульбяныя бунты XVIII стагоддзя ў Расіі. Між тым, без бульбы поспех прамысловай рэвалюцыі ў Еўропе быў бы не такі пераканаўчы. Бульба стала таннай крыніцай калорый, і яе было лёгка вырошчваць, што дазволіла вызваліць працоўныя рукі, раней занятыя працай на зямлі. Фрыдрых Энгельс лічыў, што бульба была падобнай да жалеза паводле сваёй «гістарычнай рэвалюцыйнай ролі».

Рэдкае наведванне АП прамысловых або сельскагаспадарчых прадпрыемстваў абыходзіцца без патрабавання ўзмацніць тэхналагічную дысцыпліну. 70 гадоў таталітарная дзяржава прывучала «чалавека савецкага» да асноў тэхналагічнай культуры. Таталітарызм трансфармаваўся ў аўтарытарызм, але «воз і зараз там». Варвар трансфармацыі не падлягае. Татальныя парушэнні тэхналагічнай дысцыпліны, незлічоныя адступленні ад стандартаў і нарматываў невынішчальныя.

Спіс характарыстык сучаснага варвара можна працягнуць. Аднак фармат артыкула патрабуе паставіць кропку.

**Ці лічыце Вы, што ў Беларусі людзі жывуць горш, чым у краінах Захаду? * (У працэнтах ад колькасці апытаных)**

| Варыянт адказу | Усе апытаныя | Стаўленне да Лукашэнкі | |
|---|---|---|---|
| | | Давяраю | Не давяраю |
| Так | 60 | 40 | 82 |
| Не | 31 | 49 | 12 |
| Няма адказу/ цяжка адказаць | 9 | 11 | 6 |

НІСЭПД, чэрвень 2014

# Шчасце прываліла

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Урад Беларусі вырашыў ашчасліўіць самых бюджэтных працаўнікоў. Паводле афіцыйных паведамленняў, з 1 верасня будуць «істотна павышаныя» заробкі настаўнікам і педагагічным працаўнікам, а таксама медыкам розных катэгорый.**



### Ці істотнае павышэнне?

Павышаюцца тарыфныя стаўкі шэрагу катэгорый медработнікаў. Для ўчастковых лекараў-тэрапеўтаў і лекараў-педыятраў, лекараў агульнай практыкі, а таксама лекараў-спецыялістаў, якія аказваюць хуткую медыцынскую дапамогу, тарыфныя стаўкі павялічаны на 60%. Для ўчастковых медсясцёр, памочнікаў лекараў амбулаторна-паліклінічнай дапамогі, медсясцёр агульнай практыкі, фельчараў, медработнікаў фельчарска-акушэрскіх пунктаў і медыцынскіх работнікаў, якія маюць сярэднюю медыцынскую адукацыю, і якія аказваюць хуткую дапамогу, павышэнне складзе 50%. На 40% будуць павялічаны тарыфныя стаўкі санітаркам хуткай меддапамогі.

Астатнім спецыялістам тарыфныя стаўкі павысяцца на 50%, медработнікам, якія маюць сярэднюю спецыяльную медыцынскую адукацыю і не пазначаныя вышэй, — на 40%, малодшым медсёстрам па догляду за хворымі, нянькам, сёстрам-гаспадыням, санітаркам — на 30%.

Урад таксама паведамляе, што павышаецца заработная плата педагагічных і іншых работнікаў устаноў дашкольнай, агульнай сярэдняй, спецыяльнай, прафесійна-тэхнічнай, сярэдняй спецыяльнай адукацыі, сацыяльна-педагагічных устаноў, установ дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі. Тут прадугледжваецца «дыферэнцыяванае павелічэнне надбавак педработнікаў за наяўнасць кваліфікацыйных катэгорый». Так, з 1 верасня за другую кваліфікацыйную катэгорыю надбаўка складзе 30% ад тарыфнага акладу (стаўкі) замест 15%, за першую катэгорыю — 55% замест 20%, за вышэйшую катэгорыю — 90% замест 30%, за катэгорыю «настаўнік-метадыст» — 120% замест 40%.

Кіраўнікам устаноў, педработнікам, якія не маюць кваліфікацыйнай катэгорыі, кіраўнікам фізічнага выхавання ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі, прыёмным бацькам, бацькам-выхавальнікам прадугледжваецца павышэнне тарыфнага акладу на 10%, памочнікам выхавальнікаў — на 20%, работнікам кухні — на 10%.

Але давайце разбярэмся, ці насамрэч адбудзецца істотнае, як кажа ўрад, павышэнне заробкаў.

### Нуль без палачкі

Пачнём з педагогаў. Насуперак бравурным заявам ураду, насамрэч, павышэнне заробкаў педагогаў не плануецца. «Павышэнне надбавак» педработнікаў за наяўнасць кваліфікацыйных катэгорый не ёсць павышэннем акладаў. То бок, асноўны аклад настаўнікаў застаецца ранейшым.

Ва ўрадзе спадзяюцца, што шляхам павышэння надбавак яны прымусяць настаўнікаў самаўдасканальвацца і атрымліваць вышэйшыя катэгорыі. Але на павышэнне кваліфікацыі трэба час. Так што збольшага з заробкамі настаўнікаў анічога істотнага не зменіцца.

Дарэчы, гэта разумеюць і ва ўрадзе. Згодна паведамленню ўрада, павелічэнне надбавак за кваліфікацыйныя катэгорыі дасць магчымасць павысіць сярэднюю заработную плату настаўнікаў на 18%, работнікаў галіны ў цэлым — на 7%.

Настаўнікі (асабліва настаўнікі матэматыкі) таксама разумеюць, што ніякага павелічэння заробку чакаць не прыходзіцца. Такое павелічэнне «якраз кампенсуе ўзровень інфляцыі аж да канца года», — прыкра жартуе «Блог настаўнікаў Беларусі». Сапраўды, інфляцыя ўжо перасягнула 11%, а павышэнне заробку «ў сярэднім па галіне» — толькі 7%. Згодна з красавіцкай ацэнкай Нацбанка, інфляцыя ў бягучым годзе ў Беларусі можа скласці 16–17%, што абсалютна нівелюе «павышэнне заробку» настаўнікам на 18%.

Між тым, напачатку года сярэдняя зарплата ў адукацыі складала Br 3 млн. 657,7 тыс., у тым ліку настаўнікаў — Br 4 млн. 305,6 тыс. Дый столькі зараблялі далёка не ўсе — у маладых спецыялістаў зарплата недацягвала і да трох мільёнаў. Так што настаўнікі застануцца такімі ж жабракамі, як былі.

### Медыкам больш?

Не нашмат разбагацеюць і медыкі. Па стане на чэрвень гэтага года, сярэднямесячная зарплата медыкаў складала Br 4 млн. 290 тыс. Дактароў — Br 6 млн. 400 тыс., сярэдніх медработнікаў з улікам сумяшчэнняў — Br 4 млн. 300 тыс. Гэта пасля таго, як з 1 красавіка па рашэнні ўрада выраслі на 40% аклады некаторых катэгорый работнікаў, занятых у ахове здароўя. Павышэнне зарплаты тады закранула ўчастковых тэрапеўтаў і педыятраў, лекараў агульнай практыкі, лекараў і фельчараў хуткай дапамогі.

Варта разумець, што гэты «сярэдні заробак» у Br 4 300 000 не з'яўляецца «голым акладам» (паглядзіце на прыкладзе настаўнікаў — «надбаўкі за катэгорыі» ўрад таксама ўключыў у заробак). То бок, ад «сярэдняга заробку медыкаў» трэба спачатку адняць траціну, ці нават палову, — «сумяшчальніцтва» «прэміяльныя», даплаты за катэгорыі і інш. І ўжо пасля гэтага «адмінусаванняя» дадаць 30–60% «павышэння акладу». І пасля зноўку дадаць «іншыя выплаты».

Як прагназаваў 1 ліпеня прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч, у выніку падвышэння акладаў заробак лекараў вырасце на 15–18%. Што таксама сумяшчальна з прагнозным паказчыкам інфляцыі.

### Павышэнне без павышэння

У выніку, як мы бачым, плануецца «павышэнне без павышэння». Нават урад, які рапартуе пра тое, як ён «ашчасліўіў» педагогаў і медыкаў, прызнае: павышэнне заробкаў медработнікам і настаўнікам толькі-толькі кампенсуе ўзровень інфляцыі. Канешне, сума грошай і лічбы ў разліковых лістках пабольшаюць. Але набыць за гэты «ўзрослы» заробак можна будзе роўна тое ж самае, што і зараз.

У мінулым годзе таксама 1 верасня былі павышаныя на 25% тарыфныя стаўкі (аклады) настаўнікаў, педагогаў дадатковай адукацыі, выкладчыкаў устаноў прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Але адначасова павялічылася і норма педагагічнай нагрузкі за стаўку: для настаўнікаў і педагогаў дадатковай адукацыі — з 18 да 20 гадзін у тыдзень, для выкладчыкаў устаноў прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі — з 720 да 800 гадзін у год.

У выніку павышэнне тарыфных ставак для некаторых катэгорый педработнікаў прывяло да павелічэння іх заробкаў у сярэднім толькі на 3%, што прызнаў нават міністр адукацыі Сяргей Маскевіч. А інфляцыя ў 2013 годзе склала 16,5%.

Пытанне ў сувязі з гэтым толькі адно: навошта заяўляць пра «істотнае павышэнне заробку»? Ці сапраўды ва ўрадзе спадзяюцца, што настаўнікі матэматыкі не ўмеюць лічыць?

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# Ініцыятыва самаадданага рупліўца



**Усе ведаюць, што без грошай цяжка жыць. Але і з грашыма таксама цяжка. Як кажуць, у аднаго суп рэдкі, у другога жэмчуг дробны.**

Грошы — гэта не тэма для мастацкай літаратуры, гэта сюжэтны перпетум мобіле, які струніць інтрыгу твора. Страсці, пачуцці, каханне... Кахаюць і бедныя, і багатыя. І плачуць. Бо, як вызначыла палітэканомія, грошы ёсць асаблівым таварам, за які можна купіць усе іншыя тавары, але самыя вялікія грошы заўсёды абмежаваныя. У якасным сэнсе бясконцыя, яны заканчваюцца ў самы патрэбны момант.

Цяжка беднаму чалавеку, якому вызначана лёсам жыць і памыляцца, як змагацца з гэтым грашовым фетышам? Маралісты лічаць, што нейкае ратаванне дае выхаванне. Прыкладам, дзецям трэба даваць кішэнныя грошы, каб яны вучыліся культурна абыходзіцца з імі.

Бывае і такое, дарослы чалавек літаральна сядзіць на чужых грошах і распараджаецца імі як сваімі. Маем на ўвазе шматгадовага старшыню Нацбанка Пятра Пракаповіча, які аднойчы правёў трайную дэвальвацыю беларускага рубля. З кожнага ўзятага ў пазыку мільёна аддаў сваім крэдыторам толькі 300 тысяч.

Не ведаю, ці памятае спадар Пракаповіч пра той прыкры выпадак, але нашае грашовае пытанне яго зноў турбуе. Аб чым ён сам і распавёў. На яго думку, Расія і Беларусь павінна скарыстацца заходнімі санкцыямі, каб саскочыць з «доларавай іголкі» і перайсці ва ўзаемных разліках на расійскія рублі. Мауляў, калі Расія зробіць правільны крок, каб рэсурсы ў расійскіх рублях «крыху патаннелі», то неабходнасць у доларавых разліках істотна зменшыцца. На думку Пракаповіча, так з'явіцца магчымасць пашырыць узаемаразлікі не толькі ў гандлі нафтай і газам, але і цалкам змяніць сістэму фінансавання.

Атрымліваецца, што для ўзаемаразлікаў у сустрэчным гандлі Беларусь можа перайсці і да аплаты расійскай нафты беларускімі кавунамі і дынямі, якія вырастуць праз год (бо грошы — катэгорыя абстрактная). І (што праўда) гэта ніяк не паўплывае на прыроду долара — універсальнай свабодна канвертаванай валюты (СКВ) свету. Хай Бог дае, каб беларускія кавуны сталі лепшымі, чым астраханскія, але яны не стануць ні СКВ, ні той тавáрнай экзістэнцыяй, на аснове якой заводзяцца свае нацыянальныя грошы.




Расійскі рубель, у адрозненне ад долара, з'яўляецца «мяккай валютай», што каціруецца галоўнымі партнёрамі Расіі, якія ў асноўным купляюць у яе сыравіну. Але разлік робіцца ў сапраўднай СКВ. Некалі савецкі рубель лічыўся «цвёрдай валютай» для краін СЭУ, якія куплялі ў СССР энерганосьбіты за цалкам умоўныя пераводныя рублі — за савецкую СКВ, у якой улічвалася колькасць выкарыстанай сацлагерам нафты і колькасць пастаўленага ў СССР харчавання і прамысловага шырспажыву. Ад такога братэрскага (на самай справе, бартэрнага) гандлю валюты ніколі не было ні ў Варшаве, ні ў Маскве. Таму савецкія рублі пачалі лічыцца «драўлянымі», «рэзаная паперай».

Зразумела, што з эканомікі, калі ёсць улада, можна зрабіць што заўгодна, і нават нешта людскае. Але справа ў тым, што эканамічнае супрацоўніцтва нашых краін нераўнапраўнае. Калі Расія робіць зніжкі Беларусі, яна тым самым патрабуе сабе і частку яе паўнамоцтваў. А сваімі паўнамоцтвамі яна не з кім не дзеліцца.

Цывілізаванаму свету, які насамрэч «падсеў на рускую нафтагазавую іголку», даўно надакучылі шэкспіраўскія страсці, якія Пуцін спрабуе рэалізаваць у выключна гаспадарчых абставінах. І вывесці яго з гульні вельмі проста. Дастаткова выключыць расійскі рубель з сусветнага фінансавага звароту і пачакаць, пакуль ён не сканае.

Асобныя еўрапейскія палітыкі-радыкалы лічаць такую санкцыю саспелай і слушнай. І я добра ведаю, што адчуе Беларусь, калі рэалізуецца ініцыятыва яе самаадданага рупліўца Пракаповіча.

# Забытыя героі Заслаўя

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Былую казарму памежнікаў у Заслаўі, якая знаходзіцца ля чыгуначнага вакзала, пазбавілі статуса гісторыка-культурнай каштоўнасці. Будынак, хутчэй за ўсё, знясуць. Відавочна, нехта прыглядзеў удалае месца для свайго новабуду. Між тым, у чэрвені 1941 года, у тым ліку ля гэтых казармаў, савецкія памежнікі супрацьстаялі наступаючаму на Мінск ворагу.**

## Пасля рыжскай дамовы

У сакавіку 1921 года на мяжы з «панскай Польшчай» на тэрыторыі Беларусі былі створаны 6-я, 10-я і 21-я асобныя памежныя брыгады. Загадам Аб'яднанага Дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (АДПУ) ад 14 студзеня 1925 года ў Заслаўі быў створаны 15-ты Заслаўскі памежны атрад, штаб якога размясціўся непасрэдна ў старажытным беларускім горадзе. Дарэчы, штабны будынак захаваўся да нашых дзён. Зараз тут знаходзіцца спажывецкая крама «Апельсін». Адным з першых начальнікаў Заслаўскага памежатраду быў выхадзец з беларускага мястэчка Чэрыкаў, будучы начальнік памежных войскаў НКУС СССР Аляксандр Кавалёў. У верасні 1939 года жаўнеры ў зялёных фуражках з Заслаўя ўдзельнічалі ў «вызвольным паходзе ў Заходнюю Беларусь».

20 верасня 1939 года ў складзе 15-га Заслаўскага памежнага атраду было тры памежных камендатуры, узвод сувязі, камендацкі ўзвод, гаспадарчы і аўтамабільны ўзвод. У жніўні 1940 года загадам НКУС гэтая частка была расфарміраваная, а яе асабісты склад перададзены 16-му Дзяржынскаму памежнаму атраду. У былых казармах памежнікаў у Заслаўі была створана Міжакружная артылерыйска-зброевая майстэрня №88 памежных войскаў НКУС СССР, а таксама вайскова-тэхнічны склад №11.

## Бескарысныя ДАКі

Як вядома, да верасня 1939 года мяжу з Польшчай прыкрывалі ДАКі «Лініі Сталіна», аднак пасля «ўз'яднання» рашэннем Галоўнага вайсковага савета РСЧА ад 15 лістапада 1939 года мінскія ўмацаванні былі «закансерваваныя», а зброя з іх знятая. На момант пачатку Вялікай Айчыннай на ўчастку 63-га Мінскага ўмацаванага раёну знаходзіліся падраздзяленні 44-га стралковага корпусу РСЧА.

Планавалася, што гэтыя падраздзяленні будуць змагацца ў ДАКах, аднак з-за непрыгоднасці бетонных каробак да баявых дзеянняў ад гэтай ідэі давялося адмовіцца. 64-я стралковая дывізія Чырвонай Арміі, узмоцненая 49-м карпусным артылерыйскім палком, заняла абарону на лініі Стайкі—Заслаўе—Чырвонае. У сваю чаргу 108-я стралковая дывізія абараняла пазіцыі ля Чырвонага—Дзяржынска—Станькава. Боепрыпасы гэтыя падраздзяленні павінны былі атрымаць на складзе НКУС у Заслаўі. Адпаведны загад атрымаў начальнік склада №11 маёр Пётр Собалеў.

## На старой мяжы

Савецкія памежнікі на заставах у Новым Полі, Меткаве, Філіповічах амаль з першых дзён нямецкага ўварвання змагаліся супраць варожых дэсантаў. Начальнік упраўлення камендатуры 1-га памежнага ўчастку ў Радашковічах капітан Павел Ломцеў спрабаваў арганізаваць абарону на даручаным яму ўчастку. 25 чэрвеня ён разам з памежнікамі выехаў на 2-ю заставу, каб узмоцніць яе гарнізон. У выніку ўдала праведзенай атакі гэты атрад дэблакаваў акружаных немцамі на заставе байцоў. Адыходзячы ў бок Радашковічаў, памежнікі ўступілі ў бой і знішчылі групу нямецкіх дыверсантаў у савецкай вайсковай форме.

26 чэрвеня 1941 года 20-я нямецкая танкавая дывізія захапіла Радашковічы. Атрад капітана Ломцева з баямі вымушаны быў адыходзіць да Заслаўя. Ля вёскі Хмелеўка атрад папоўніўся байцамі 3-й заставы пад камандаваннем малодшага лейтэнанта Топчыя і 26 чэрвеня прарваўся ў Заслаўе, дзе злучыўся з падраздзяленнямі 159-га стралковага палка 64-й дывізіі РСЧА.

Мужна змагаўся з нацыстамі і гарнізон 5-й заставы пад камандаваннем лейтэнанта Трыгубава.



Нямецкая калонна рухаецца на Мінск




Ахоўная шыльда на адной з памежных казармаў у Заслаўі




Помнік на заслаўскіх могілках

Салдаты ў «зялёных фуражках» абаранялі аўтамабільны мост праз Свіслач ля вёскі Векшыцы. Выратавала зброя, атрыманая на складзе ў Заслаўі. 25 чэрвеня 1941 года памежнікі знішчылі танк і некалькі матацыклістаў праціўніка. Немцы амаль 12 гадзін, пры падтрымцы бамбардзіроўшчыкаў, штурмавалі іх пазіцыі. Падчас адной з найбольш жорсткіх атак абаронцы вымушаны былі выкарыстаць свой апошні рэзерв — службовых сабак. Іх любімцы, абвязаныя гранатамі, кідаліся пад танкі. 26 чэрвеня Трыгубаву і яго салдатам удалося вырвацца з акружэння і накіравацца ў бок Заслаўя.

## Бітва за Заслаўе

Галоўным савецкім апорным пунктам старажытнага Заслаўя быў склад №11, які прыкрывалі кулямётныя гнёзды і дзве 45-міліметровыя гарматы. 25 чэрвеня нямецкія матацыклісты паспрабавалі сходу ўварвацца ў горад з боку Дзехнаўкі, аднак былі сустрэтыя чырвонаармейцамі 2-га батальёну 159-га палка РСЧА, якія адбілі некалькі атак.

Праз дзень артылерыя 219-га гаўбічнага артпалка Чырвонай Арміі накрыла групу нямецкай ваеннай тэхнікі, якая рыхтавалася да штурму. Знішчылі каля 20 адзінак нямецкай бронетэхнікі. Аднак немцы перагрупіраваліся і аднавілі атакі. На працягу дня падраздзяленні вермахта зрабілі чатыры спробы ўзяць горад Ізяслава, аднак беспаспяхова. Увечары атрымалі рэзервы і пайшлі ў чарговы наступ. Уперадзе ішло пяць танкаў, якім удалося змяць першую лінію абароны чырвонаармейцаў.

Але тут адбылося нечаканае: у тыл наступаючым ударылі памежнікі з 5-й заставы, якія ў гэты момант якраз падыходзілі да горада. Байцы лейтэнанта Трыгубава агнём кулямётаў адсеклі нямецкую пяхоту ад танкаў, а чырвонаармейцы, якія абараняліся ў Заслаўі, закідалі танкі гранатамі і бутэлькамі з «кактэйлямі Молатава». Тры машыны ўдалося знішчыць, але дзве ўсе ж прарваліся і пранесліся праз увесь горад у бок Ратамкі.

Яшчэ два танкі спрабавалі прарвацца ў горад з боку чыгуначнага вакзала. Іх сустрэлі вайсковыя курсанты з Гомеля. Адзін знішчылі, другі — адступіў. Немцам удалося захапіць паўночна-ўсходнюю частку Заслаўя, аднак чырвонаармейцы і памежнікі не збіраліся здавацца. Неверагодна, але іх контратакі прымусілі прафесійных салдат вермахта адступіць да касцёла і там заняць абарону. З боку станцыі «Беларусь» немцаў атакавалі памежнікі пад камандаваннем капітана Паўла Ломцева. Хутка «зялёным фуражкам» удалося выбіць ворага. Заслаўе першы раз на працягу Вялікай Айчыннай вайны было вызвалена.

## Баі на могілках

27 чэрвеня немцы аднавілі атакі на горад. З «саракапятак» памежнікам удалося падбіць яшчэ некалькі танкаў. Аднак сілы былі няроўныя. Частка абаронцаў адышла на Поўнач ад Заслаўя, другая, у асноўным памежнікі пад камандаваннем капітана Ломцева, заняла абарону ля заслаўскіх могілак. У гэтай безвыходнай сітуацыі перайшлі ў штыкавую і адкінулі праціўніка. Чарговую танкавую атаку памежнікі сустрэлі агнём апошняй гарматы. Тры танкі былі знішчаны.

Што маглі адчуваць абаронцы Заслаўя ў гэты момант? Уначы здзейснілі ўдалую выведку ў горад, падчас якой знішчылі некалькі нямецкіх танкаў. 28 чэрвеня іх пазіцыі на могілках немцы накрылі жорсткай артылерыйскай бамбардзіроўкай. Тыя, што засталіся ў жывых, мусілі адступаць. З баямі, у прыватнасці, пад Ратамкай і Тарасава, і 1 ліпеня 1941 года ўсё ж прарвацца ў месцазнаходжанне Чырвонай Арміі. У канцы ліпеня героі абароны Заслаўя ўліліся ў склад 16-га памежнага палка НКУС СССР, які быў створаны на базе 16-га Дзяржынскага памежнага атрада.

Па інфармацыі Цэнтральнага памежнага архіва ФСБ Расіі, падчас баёў у чэрвені 1941 года ў Заслаўі загінулі: начальнік 1-й Радашковіцкай камендатуры памежнага ўчастку, капітан Павел Нікіфаравіч Ломцеў, начальнік 2-й памежнай заставы, лейтэнант Скурыхін, начальнік 3-й заставы, лейтэнант Топчы, начальнік 5-й заставы, лейтэнант Трыгубаў, байцы ўзгаданых застаў, а таксама супрацоўнікі Міжакружной артылерыйска-зброевай майстэрні №88 і склада №11.

## Стварыць музей

Усе памежнікі, а таксама чырвонаармейцы, якія загінулі пры абароне Заслаўя ў чэрвені 1941 года, пахаваныя на старых заслаўскіх могілках. Тых самых, на якіх яны трымалі бой. Зараз на магіле стаіць помнік з імёнамі загінулых. Аднак пра гэтае пахаванне мала хто ведае.

Няма ў горадзе і памятнага знака ў гонар савецкіх памежнікаў, якія мужна змагаліся ў чэрвені 1941-га. Чаму б ні зрабіць у казармах 15-га Заслаўскага памежнага атраду, што захаваліся, музей памежнай гісторыі Беларусі і адвесці асобную залу гераічнай абароне горада, названага ў гонар Ізяслава.

Калі няма сродкаў у гарадскіх уладаў, за гэта мог бы ўзяцца Дзяржпамежкамітэт Беларусі. Для іх гэта павінна стаць справай гонару. Навошта прыдумваць легенды пра «Лінію Сталіна», калі ёсць сапраўдная гісторыя гераізму савецкіх памежнікаў і захаваліся аб'екты, звязаныя з ёй.

Шчыра спадзяюся, што сучасныя беларускія памежнікі звярнуць увагу на старажытнае Заслаўе і ўратуюць казармы ад зносу.

TV

## 1 ВЕРАСНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00** (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00 Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Серыял «Сямейныя меладрамы» (Украіна).
**11.00** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг» (Расія).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.15** Меладрама «Тэрмінова! Шукаю мужа» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Кінааповесць «Паненка-сялянка» (Расія).
**17.25** Нашы.
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Арэна.
**19.40, 23.45** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.30** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.20** Дзень спорту.
**00.30** Рамантычная камедыя «Лары Краўн» (ЗША).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здарова!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Позняе раскаянне». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «След».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Добры дзень».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**18.50** «Пусть говорят».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Настаўнікі». Шматсерыйны фільм.
**22.05** Легенды Live.
**22.50** Прэм'ера «Першая сусветная».
**23.55** Мастацкі фільм «Выдуманае жыццё Эбатаў».
**01.55** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень».
**09.45** «Чыстая праца».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.40** Фільм «Аднойчы дваццаць гадоў пасля» (СССР, 1980 г.).
**13.10** «Глядзець усім!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** СТВ прадстаўляе: Музычны фестываль.
**15.50** «Сусветны іспыт». Фільм.
**16.20** «Наша справа».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Дзіўная справа».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** Фільм «Прыманка» (Канада - Аўстралія - ЗША, 2000 г.).
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка».
**10.00** Тэлебарометр.
**10.35** Мастацкі фільм «Казка пра страчаны час» (СССР).
**11.55** Крымінальны дэтэктыў «Марыя Верн: таямніца мёртвых птушак» (Швецыя). 1-я - 4-я серыі.
**15.20** Гумарыстычная шоу-праграма «Comedy Баттл. Без межаў» (Расія).
**16.20** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**16.40** Меладраматычны серыял «Сашка».
**17.50** Камедыйны серыял «Сцервы, або Дзівацтвы кахання» (Расія).
**18.50** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**19.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**20.55** Мазгавы штурм.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**22.45** Вострасюжэтны дэтэктыў «Кулінар» (Расія).
**23.45** Хачу ў тэлевізар!
**23.50** Камедыйны серыял «Сцервы, або Дзівацтвы кахання» (Расія).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** Дзіцячы фільм. «Дзе ты, Багіра?».
**09.25** «Размаўляем па-беларуску».
**09.30** «Участак лейтэнанта Качуры». «Смяротны танец». 4-я серыя, закл. Мастацкі фільм.
**10.20** «Камертон». Дзмітрый Салярцінскі.
**10.50** «Размаўляем па-беларуску».
**10.55** «Маленькая чорная кніжка». Маст. фільм.
**12.35** «Калейдаскоп».
**12.45** Серыял. «Мегрэ».
**17.05** «Размаўляем па-беларуску».
**17.10** «Песня пра долю». Рок-опера.
**18.10** «Калейдаскоп».
**18.20** «Помнім, любім, спяваем..» Канцэрт памяці Уладзіміра Мулявіна.
**19.05** «Без сонца». Мастацкі фільм.
**20.45** Калыханка.
**21.15** «Калейдаскоп».
**21.25** «Паляванне на апошняга жураўля». Мастацкі фільм.
**23.05** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**00.00** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**08.10** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Лестэр» - «Арсенал».
**10.00** Гандбол. SEHA-ліга. БГК ім. Мяшкова - «Борац».
**11.30** Хакей. Кубак Руслана Салея. Фінал.
**13.45** Баскетбол. ЧЕ-2015. Кваліфікацыя. Мужчыны. Македонія - Беларусь.
**15.25** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. «Тарпеда-БелАЗ» - «Гомель».
**17.15** Футбол. Суперкубак УЕФА. «Рэал» - «Севілья».
**19.20** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Тотэнхэм» - «Ліверпуль».
**21.10** Час футболу.
**21.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**22.50** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Латвія - Беларусь.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**07.15** Свабода без гальштукаў! (аналітычная праграма).
**07.40** «Амазонкі глыбокіх крыніц», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**08.05** «Дыягназ: Бісмарк», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**08.30** «Новая Польшча», дак. фільм, 2010 г., Польшча – ЗША.
**09.25** «Парад пераможцаў», дак. фільм, 2007 г., Польшча.
**10.15** «Паход вызваляльнікаў», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**11.15** «Верасень 1939. Як нас вызвалялі», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**11.45** «Адважныя», драма, 1997 г., ЗША.
**17.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.25** «ГУЛаг», дак. фільм, 2000 г., Францыя – Расія: ч. 4.
**18.25** Моўнік (лінгвістычная праграма): Сапернік ці супернік?
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**19.15** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**19.35** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавачая праграма): Францішак Савіч.
**20.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Навіны.
**20.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Агляд медыяў.
**20.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Дэвайс.
**20.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Адважныя», драма, 1997 г., ЗША.
**23.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.25** Аб'ектыў.

## 2 ВЕРАСНЯ, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00** (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05 Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг» (Расія).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.10** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**14.05** Біяграфічны серыял «Фурцава» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прыгодніцкі дэтэктыў «Логава Змея» (Расія).
**16.30** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.30** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.50** Сфера інтарэсаў.
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Дэтэктыў «Турэцкі гамбіт» (Расія - Балгарыя). 1-я серыя.

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Позняе раскаянне». Шматсер. фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Смак».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Добры дзень».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Зайцаў + 1».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Настаўнікі». Шматсерыйны фільм.
**23.05** Прэм'ера «Першая сусветная».
**00.05** Прыгодніцкі фільм «Палёт Фенікса».
**02.00** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Дзіўная справа».
**10.00** «Цэнтральны рэгіён».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Фантомны боль» (Германія, 2009 г.).
**15.35** «Мае цудоўныя..».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** Фільм «Паліцэйская акадэмія-3: паўторнае навучанне» (ЗША, 1986 г.).
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** СТВ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Баец». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка» (Украіна).
**10.15** «Два з паловай кухары» Кулінарны майстар-клас (Расія).
**10.45** Вострасюжэтны дэтэктыў «Кулінар» (Расія).
**11.55** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**13.25** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**13.45** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**14.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**16.00** Вышэй за дах.
**16.40** Меладраматычны серыял «Сашка» (Украіна).
**17.50** Камедыйны серыял «Сцервы, або Дзівацтвы кахання» (Расія).
**18.50** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**19.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**20.55** Мазгавы штурм.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**22.45** Вострасюжэтны дэтэктыў «Кулінар» (Расія).
**23.50** Хачу ў тэлевізар!
**23.55** Камедыйны серыял «Сцервы, або Дзівацтвы кахання» (Расія).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Паляванне на апошняга жураўля». Мастацкі фільм.
**09.50** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**10.15** «Без сонца». Мастацкі фільм.
**12.00** «Размаўляем па-беларуску».
**12.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці кампазітара Уладзіміра Дамарацкага.
**12.30** «Калейдаскоп».
**12.40** «Маладзечна-2014». Спадчына «Песняроў». Канцэрт, прысвечаны 45-годдзю дзяржаўнага ансамбля «Песняры».
**14.05** «Размаўляем па-беларуску».
**14.10** Серыял. «Мегрэ».
**18.55** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**19.25** «Калейдаскоп».
**19.35** «Размаўляем па-беларуску».
**19.40** «Ехалі ў трамваі Ільф і Пятроў». Мастацкі фільм.
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Калейдаскоп».
**21.25** «Жорсткі раманс». Мастацкі фільм. 1-я серыя.
**22.35** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**23.00** «Жорсткі раманс». Мастацкі фільм. 2-я серыя.
**00.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці кампазітара Уладзіміра Дамарацкага.
**00.35** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**08.10** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**09.00** Час футболу.
**09.45** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Плэй-оф. БАТЭ (Беларусь) - «Слован» (Славакія).
**11.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Раўнд плэй-оф. «Зеніт» (Расія) - «Стандард» (Бельгія).
**13.30** Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат Еўропы. Вячэрняя сесія.
**16.05** Тэніс. Турнір ВТА. Нью-Хэйвен. Паўфіналы.
**19.15** Спорт-кадр.
**19.45** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Расія - Беларусь.
**22.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Тотэнхэм» - «Ліверпуль».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.00** Аб'ектыў.
**08.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.50** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**09.10** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**09.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавачая праграма): Францішак Савіч.
**09.35** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 13 серыя.
**10.20** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**10.35** МакраФон: «Права быць свабодным» (канцэрт альтэрнатыўнай музыкі «Луцк-2007»): выступ гуртоў «Індыга», «Крама», «Уліс».
**11.30** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 13 серыя.
**17.00** Басаном па свеце (спазнавачая праграма).
**17.25** Беларусы ў Польшчы.
**17.40** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 13 серыя.
**18.30** Моўнік (лінгвістычная праграма): Беларушчына на з'ездах славістаў.
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Чатыры бакі казак», мульсерыял.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**19.15** Аўтаспынам па Беларусі.
**19.30** «Аляксандр Вайтовіч», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавачая праграма): Тэадор Нарбут.
**20.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Навіны.
**20.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Агляд медыяў.
**20.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Дэвайс.
**20.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.45** «Курапаты – шлях сумлення», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**22.20** «Лонданцы», серыял: 13 серыя.
**23.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.00** Аб'ектыў.

TV

## 3 ВЕРАСНЯ, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг» (Расія).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.10** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**14.00** Біяграфічны серыял «Фурцава» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прыгодніцкі дэтэктыў «Логава Змея» (Расія). Заключная серыя.
**16.30** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Спецыяльны рэпартаж.
**19.40, 23.45** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Серыял «Земскі доктар. Працяг».
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.30** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.20** Дзень спорту.
**00.30** Дэтэктыў «Турэцкі гамбіт» (Расія - Балгарыя). 2-я серыя.

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Позняе раскаянне». Шматсер. фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Смак».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Добры дзень».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Зайцаў + 1».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Настаўнікі». Шматсерыйны фільм.
**23.05** Прэм'ера «Першая сусветная».
**00.05** Мастацкі фільм.
**01.45** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Нам і не снілася».
**09.55** «Чыста па жыцці». Камедыйны серыял.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Паліцэйская акадэмія-3: паўторнае навучанне» (ЗША, 1986 г.).
**15.30** «Мае цудоўныя..».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** Фільм «Вам ліст» (ЗША, 1998 г.).
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Сардэчна паскардзіцца».
**00.15** «Баец». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Сашка» (Украіна).
**10.10** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**10.45** Вострасюжэтны дэтэктыў «Кулінар» (Расія).
**11.55** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**13.35** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**14.40** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**15.50** Рэпарцёр.
**16.40** Меладраматычны серыял «Сашка» (Украіна).
**17.50** Камедыйны серыял «Сцэрвы, або Дзівацтвы кахання» (Расія).
**18.50** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**19.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**20.55** Мазгавы штурм.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Тэлебарометр.
**21.40** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія). Заключная серыя.
**22.50** Вострасюжэтны дэтэктыў «Кулінар» (Расія).
**23.55** Хачу ў тэлевізар!
**00.00** Камедыйны серыял «Сцэрвы, або Дзівацтвы кахання» (Расія).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Ехалі ў трамваі Ільф і Пятроў». Мастацкі фільм.
**09.20** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**09.45** «Жорсткі раманс». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**12.00** «Размаўляем па-беларуску».
**12.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці кампазітара і дырыжора Барыса Райскага.
**12.30** «Калейдаскоп».
**12.45** «Званы часу. Сяргей Давідовіч». Дакументальны фільм пра беларускага пісьменніка і мастака.
**13.10** «Размаўляем па-беларуску».
**13.15** «Запаведнымі сцежкамі беларускай зямлі». Дакументальны фільм.
**14.05** «Містыка ўлады». «Пасля параду». Дакументальны фільм.
**14.35** «Містыка ўлады». «Мара імперыі». Дакументальны фільм.
**15.00** «Размаўляем па-беларуску».
**15.05** «Небяспечны талент». Жыццёвы і творчы шлях паэтэсы Яўгеніі Янішчыц.
**15.30** «Верасень 1943. Недзіцячы дзённік». Дакументальны фільм.
**15.55** Серыял. «Пракляты ўтульны дом». 25-серыя.
**16.40** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**17.05** «Размаўляем па-беларуску».
**17.10** «Правінцыйны анекдот». Кароткаметражны фільм.
**17.45** «Пачынаецца ўсё з любві». Канцэрт Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра імя І.Жыновіча.
**19.05** «Калейдаскоп».
**19.15** «Размаўляем па-беларуску».
**19.20** «Пунсовыя ветразі». Мастацкі фільм.
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Калейдаскоп».
**21.25** «Некалькі дзён з жыцця І.І.Абломава». Мастацкі фільм. 1-я серыя.
**22.30** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**23.00** «Некалькі дзён з жыцця І.І.Абломава». Мастацкі фільм. 2-я серыя.
**00.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці кампазітара і дырыжора Барыса Райскага.
**00.30** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**08.10** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Плэй-офф. «Насьонал» (Партугалія) - «Дынама» (Мінск).
**10.05** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Плэй-оф. «Шахцёр» (Расія) - ПСВ (Нідэрланды).
**12.00** Гандбол. SEHA-ліга. БГК ім. Мяшкова - «Борац».
**13.30** Спорт-кадр.
**14.00** Козел пра футбол.
**14.15** Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат Еўропы. Вячэрняя сесія.
**16.25** Тэніс. Турнір ВТА. Нью-Хэйвен. Фінал.
**18.10** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. «Тарпеда-БелАЗ» - «Гомель».
**20.00** Баскетбол. ЧЕ-2015. Кваліфікацыя. Беларусь - Бельгія.
**21.50** Хакей. Чэмпіянат свету-2014. Беларусь - Германія.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.00** Аб'ектыў.
**08.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.45** Аўтаспынам па Беларусі.
**09.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Тэадор Нарбут.
**09.10** Басанож па свеце.
**09.40** Назад у будучыню.
**09.50** «Дом ля поплаву», тэлесерыял: 13 серыя.
**10.35** «Курапаты – шлях сумлення», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**11.10** «Лонданцы», серыял: 13 серыя.
**17.00** Басанож па свеце.
**17.25** «Апантаныя», дак. цыкл: Апантаныя мастацтвам.
**17.35** «Пекла. Неба», драма, 2005 г., Польшча.
**18.30** Моўнік (лінгвістычная праграма): Пытаецеся – адказваем!
**18.45** Англійская для дзяцей.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** «Прывід з Давыд-Гарадка», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**19.20** «Сабачая будка», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Канстанцін Тышкевіч.
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Дэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Свята на нашай вуліцы», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**21.45** «Белая візітоўка», серыял: 6 серыя.
**23.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**23.45** Аб'ектыў.

## 4 ВЕРАСНЯ, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг» (Расія).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.10** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**14.00** Біяграфічны серыял «Фурцава» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Ваенны дэтэктыў «Лета Валкоў» (Расія). 1-я серыя.
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.30** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.50** Сфера інтарэсаў.
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Дэтэктыў «Турэцкі гамбіт» (Расія - Балгарыя). 3. Серыя.

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Позняе раскаянне». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Смак».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Добры дзень».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Зайцаў + 1».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Настаўнікі». Шматсерыйны фільм.
**23.00** Прэм'ера «Першая сусветная».
**00.05** Мастацкі фільм «Ундзіна».
**01.50** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Нам і не снілася».
**09.55** «Чыста па жыцці». Камедыйны серыял.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Вам ліст» (ЗША, 1998 г.).
**16.00** «Уявіце сабе».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** Фільм «Вавілон-5. Легенда аб рэйнджарах: жыць і памерці ўззянні зорак» (ЗША, 2002 г.).
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Баец». Серыял. Заключныя серыі.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Сашка» (Украіна).
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** Вострасюжэтны дэтэктыў «Кулінар» (Расія).
**11.55** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія). Закл. серыя.
**13.30** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**13.50** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**14.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**16.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**16.40** Серыял «Сашка» (Украіна).
**17.50** Камедыйны серыял «Сцэрвы, або Дзівацтвы кахання» (Расія).
**18.55** Футбол. Таварыскі матч. Беларусь - Таджыкістан. Прамая трансляцыя.
**20.55** Мазгавы штурм.
**21.25** КЕНО.
**21.35** Тэлебарометр.
**21.40** Прэм'ера. Авантурна-камедыйны серыял «Віртуозы» (Вялікабрытанія). 1-я серыя.
**22.50** Дэтэктыў «Кулінар» (Расія).
**23.55** Хакей. КХЛ. «Йокерыт» - «Дынама» (Мінск).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Пунсовыя ветразі». Мастацкі фільм.
**09.35** «Культурныя коды». Дак. фільм, прысвечаны ўзнікненню славянскага пісьменства.
**10.00** «Некалькі дзён з жыцця І.І.Абломава». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**12.15** «Размаўляем па-беларуску».
**12.20** «Святло далёкай зоркі». Памяці паэта-песенніка Адама Русака.
**12.50** «Калейдаскоп».
**13.00** «Вытокі. Эпімах-Шыпіла». Дакументальны фільм пра вядомага дзеяча беларускага нацыянальнага адраджэння.
**13.30** «Размаўляем па-беларуску».
**13.35** «Скарбніца Гомельшчыны». Драўляныя святыні палескіх балот.
**14.00** Канцэрт Акадэмічнага ансамбля песні і танца Расійскай Арміі імя А.В.Аляксандрава.
**15.15** «Размаўляем па-беларуску».
**15.20** «Наперад у мінулае».
**15.45** «Размаўляем па-беларуску».
**15.50** Серыял «Пракляты ўтульны дом». 26-я серыя.
**16.35** «Містыка ўлады». «Імператарскі асяродак». Дакументальны фільм.
**17.00** «Містыка ўлады». Блазны і каралі». Дакументальны фільм.
**17.25** «Размаўляем па-беларуску».
**17.30** «Шведская запалка». Кароткаметражны фільм.
**18.25** «Пра тое, што памятаю і люблю. Ніна Ургант». Творчасць народнай артысткі Расіі.
**18.45** «Калейдаскоп».
**18.55** «Размаўляем па-беларуску».
**19.00** «Мой ласкавы і пяшчотны звер». Мастацкі фільм.
**20.45** Калыханка.
**21.15** «Калейдаскоп».
**21.25** «Князь Юрый Даўгарукі». Маст. фільм.
**23.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці паэта-песенніка Адама Русака.
**23.35** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.10** Аўтаспорт. Драг-рэйсінг. Этап чэмпіянату Беларусі і Кубка Расіі «burn драг».
**08.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Плэй-оф. «Атлетыка» (Іспанія) - «Напалі» (Італія).
**10.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Плэй-оф. «Зеніт» (Расія) - «Стандард» (Бельгія).
**12.30** Хакей. Кубак Руслана Салея. Групавы этап.
**14.25** Більярд. Чэмпіянат Еўропы.
**17.55** Авертайм.
**18.25** Хакей. КХЛ. «Йокерыт» - «Дынама» (Мінск). Прамая трансляцыя.
**20.50** Хакей. Чэмпіянат Беларусі.
**22.45** Футбол. Таварыскі матч. Беларусь - Таджыкістан.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.00** Аб'ектыў.
**08.25** «Свята на нашай вуліцы», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**08.50** «Сабачая будка», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**09.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Канстанцін Тышкевіч.
**09.30** Басанож па свеце.
**09.55** «Прывід з Давыд-Гарадка», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**10.15** «Апантаныя», дак. цыкл: Апантаныя мастацтвам.
**10.25** «Пекла. Неба», драма, 2005 г., Польшча.
**11.15** Невядомая Беларусь: «Гуканне вясны», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**11.55** «Белая візітоўка», серыял: 6 серыя.
**17.00** Аўтаспынам па Беларусі.
**17.25** «Апантаныя», дак. цыкл: Студэнцкае жыццё.
**17.35** «Прыехалі ўланы», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**18.25** Моўнік: Трасянка.
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** «Старыя Кросны», дак. фільм.
**19.20** Чорным па белым: Грамадзянская пазіцыя: выбар і шляхі яе праяўлення.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Станіслаў Манюшка.
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Дэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Два на два (тэледыскусія): Усевалад Сцебурака і Юрась Беленькі.
**21.55** «Двое на Лысай гары», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**22.25** «Акварыум», серыял: 4 серыя.
**23.35** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.20** Аб'ектыў.

**Літаратурная Беларусь**

Выпуск №8 (96)
(жнівень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas. info

## Змест



# Літаратура — без чытача

**На замову Саюза беларускіх пісьменнікаў Лабараторыя аксіяметрычных даследаванняў «Новак» у чэрвені 2014 года правяла вывучэнне практыкі чытання і літаратурных зацікаўленнасцяў беларусаў. Вынікі атрымаліся, мякка гаворачы, несуцяшальнымі...**



### Літаратурныя перавагі

У межах даследавання культуры чытання беларусаў метадам тэлефоннага інтэрв'ю ЛАД «Новак» апытала 1000 рэспандэнтаў розных узростаў і з розных рэгіёнаў пражывання. 44% апытаных склалі мужчыны, 56% — жанчыны. Па адукацыі выбарку склалі наступныя групы: сярэдняя адукацыя — 17,9%, сярэдняя спецыяльная — 27,9, вышэйшая і няскончаная вышэйшая — 48,8. Беларусамі па нацыянальнасці назваліся 81,5 %.

Мастацкую літаратуру (раманы, п'есы, вершы і г.д.) хоць бы раз у месяц чытаюць каля 57,9% беларусаў. Некалькі меней папулярная нон-фікшн літаратура — навукова-папулярныя выданні і публіцыстыку хоць бы раз у месяц чытаюць каля 53,2 % апытаных рэспандэнтаў. У той жа час, сярод аўдыёкніг больш папулярныя кнігі дакументальных жанраў. Колькасць рэспандэнтаў, якія ў прынцыпе не чытаюць кніг, — ні мастацкіх, ні навукова-папулярных ці дакументальных, — складае каля 19%.

Найбольш папулярнымі жанрамі мастацкай літаратуры рэспандэнты называюць класічную і дэтэктыўную літаратуру — па 34,4%. Паэзія з'яўляецца любімым жанрам для 12,2% апытаных.

З жанраў немастацкай літаратуры найбольшай папулярнасцю ў рэспандэнтаў карыстаюцца навукова-папулярныя (31,9%), а таксама гістарычныя выданні (24,2%).

На пытанне «На якой мове Вы чытаеце мастацкую літаратуру?», які даваў магчымасць выбару некалькіх варыянтаў, 99,4% рэспандэнтаў назвала расійскую, і 27,7% — расійскую і беларускую мовы. Калі рэспандэнтам прапанавалася абраць толькі адзін варыянт адказу, на пытанне «Літаратуры на якой мове вы аддаяце перавагу?», 93,7% адказалі «На расійскай» і толькі 5% — «На беларускай мове».

Такім чынам, можна гаварыць пра татальнае дамінаванне сярод беларускіх чытачоў расійскай мовы, якой аддаюць перавагу нават тыя, хто здольны чытаць і часта чытаюць на іншых мовах.

У адказе на пытанне «Калі вы наогул не чытаеце на беларускай мове, то чаму?» 38,7% рэспандэнтаў адзначылі, што «недастаткова добра чытаюць па-беларуску», а 17,2% спасылаюцца на «нязвыкласць», адсутнасць сямейнай традыцыі чытаць па-беларуску.

Фактары, звязаныя з даступнасцю беларускай літаратуры, на думку рэспандэнтаў, не занадта істотна ўплываюць на адсутнасць у іх цікавасці чытаць яе. Толькі 9,3% спасылаюцца на недахоп беларускіх кніг у продажы, і 4,9% — у бібліятэках. А незадаволенасць беларускай літаратурай пасля знаёмства з яе творамі выказваюць толькі 7,2% рэспандэнтаў.

### Кніжны рынак і літаратурны працэс

Папяровая кніга ўсё яшчэ з'яўляецца папулярнейшай у параўнанні з электроннай. На пытанне пра тое, кнігу ў якім выглядзе яны хочуць купіць, 82,4% рэспандэнтаў адказалі: «Папяровую». Электроннай кнізе аддадуць перавагу 7% рэспандэнтаў, але толькі ў тым выпадку, калі магчымасць спампаваць яе ў інтэрнэце будзе бясплатнай.

42% рэспандэнтаў часцей за ўсё бяруць кнігі ў бібліятэцы, а 32,8% — купляюць у кнігарні. Праз інтэрнэт-крамы кнігі купляюць 9,8% рэспандэнтаў.

Для тых, хто купляе кнігі, частата паходаў у кнігарні размяркоўваецца наступным чынам: часцей, чым раз у месяц, кнігі купляюць 30,3% апытаных, некалькі разоў у год — 49,5%, радзей, чым раз у год — 17,5%.

Дасведчанасць рэспандэнтаў пра дзейнасць Саюза беларускіх пісьменнікаў досыць высокая. 24% адказалі, што ведаюць пра яго існаванне. Пры гэтым 67,6% высока ацэньваюць дзейнасць СБП, і толькі 4,6% — адмоўна.

Беларускія літаратурныя перыядычныя выданні чытаюць 21,3% рэспандэнтаў. Сярод найбольш папулярных — расійскамоўны часопіс «Нёман» (яго чытаюць 5,7% рэспандэнтаў), беларускамоўныя часопісы «Полымя» — 5,4%, «Маладосць» — 4,9% рэспандэнтаў. 1,4% адзначылі, што чытаюць часопіс «Дзеяслоў», а «новачасаўскі» дадатак «Літаратурная Беларусь» — 1, 1%.

### Літдасведчанасць беларусаў

Адказваючы на пытанне «Якіх сучасных беларускіх пісьменнікаў вы ведаеце?», большасць апытаных не змагло назваць якія-небудзь вядомыя ім імёны. Тых, хто ў прынцыпе не змог назваць ніводнага пісьменніка — 69,7%! Сярод найбольш папулярных імёнаў пералічаных сучасных аўтараў — Васіль Быкаў (17,4%), Іван Шамякін (7,6%), Іван Мележ (3,3%), Рыгор Барадулін (2,7%).

Паказальна, што на пытанне «Якіх беларускіх пісьменнікаў вы любіце чытаць?» адказы зрушыліся ў бок «школьнай» беларускай класікі. Выключэннем тут выступае Васіль Быкаў, якога назвалі і сярод «вядомых сучасных», і сярод «любімых» аўтараў прыкладна аднолькавы лік рэспандэнтаў: яго ведаюць і прылічваюць да сучасных 17,4%, а называюць сярод любімых 17,9%. А 45% рэспандэнтаў наогул не змагло адказаць на гэтае пытанне.

Амаль палова рэспандэнтаў не змагла адказаць і на пытанне «Якіх небеларускіх пісьменнікаў вы любіце чытаць?». 46,7% апытаных не назвалі ніводнага пісьменніка. Сярод небеларускіх літаратараў, якіх рэспандэнты любяць чытаць, таксама больш класічнай літаратуры са «школьнай праграмы», а таксама класічны і сучасны дэтэктыў, жаночы раман і фантастыка. Сярод сваіх любімых небеларускіх аўтараў Пушкіна назвалі 7,5%, Дар'ю Данцову — 6,3%, Дастаеўскага — 4,5%, Льва Талстога — 4,5%, Лермантава — 3,2%, Булгакава — 2,5%, Рэмарка — 2,5%, Агату Крысці — 2,3%.

Ацэньваючы дзейнасць дзяржавы ў развіцці культуры чытання, больш траціны рэспандэнтаў — 33% — адзначылі, што дзяржава робіць недастаткова, і ёй варта ўзмацніць сваю падтрымку ў гэтым пытанні. Яшчэ 15 % высока ацэньваюць высілкі дзяржавы, але ўсё ж лічаць, што яна магла б рабіць дзеля папулярызацыі мастацтва слова і значна больш.

Паказальным момантам з'яўляецца і тое, што пераважная колькасць рэспандэнтаў — 68,6% — мяркуюць, што ў літаратуры павінна быць цэнзура. Толькі 22,8% супраць цэнзуры ў літаратуры, і 8,6% не змаглі адказаць на гэтае пытанне.

Вось такія атрымаліся вынікі апытання грамадзянаў колісь «самай чытальнай» і самай падцэнзурнай краіны, якая сёння мае гонар называцца беларускай...

# «Маркотныя зоркі»

**У Мінску ў выдавецтве «Кнігазбор» пабачыў свет першы зборнік вершаў паэта «нашаніўскага» перыяду Янука Дарашкевіча (1890–1943). Зборнік мае назву «Маркотныя зоркі».**



Выданне склаў, напісаў прадмову і каментар, а таксама прафінансаваў выданне пісьменнік і літаратуразнавец са Слоніма Сяргей Чыгрын.

З нагоды выхаду кнігі Янука Дарашкевіча ён адзначыў, што гэты невялікі зборнік вершаў адкрывае новае імя ў гісторыі беларускай літаратуры і культуры «нашаніўскага» перыяду.

«Янук Дарашкевіч нарадзіўся ў вёсцы Меляшкі на Беласточчыне ў 1890 годзе. А не стала яго ў 1943 годзе. Ён загінуў падчас Другой сусветнай вайны ў Арлоўскай вобласці ў Расіі. У 1909 годзе ў «Нашай ніве» былі надрукаваныя першыя вершы паэта пад псеўданімам В. Каршун. Потым вершы гэтага аўтара рэгулярна друкаваліся ў «Нашай ніве» ў 1910–1914 гадах, але пад іншымі псеўданімамі: Янук Д., Янук Д-іч. Вершы Янука Дарашкевіча, што ўвайшлі ў гэту кніжку, паходзяць з розных друкаваных і архіўных крыніц. Асноўныя з іх захоўваюцца ў рукапісным аддзеле Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Летувы, а таксама тыя, якія друкаваліся на старонках «Нашай нівы» ў 1909–1914 гадах і ў іншых беларускіх выданнях», — сказаў Сяргей Чыгрын.

Янук Дарашкевіч, творчасць якога высока цаніў Максім Багдановіч, з'яўляецца адным з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры ХХ стагоддзя. Таму выхад першага зборніка вершаў паэта «Маркотныя зоркі» — падзея ў гісторыі беларускай літаратуры.

# «Дзяцел, лісіца і варона»

**Падарунак для маленькіх чытачоў падрыхтавалі актывісты берасцейскага гісторыка-культурнага аб'яднання «Харугва» і агенцтва рэгіянальнага развіцця «Дзедзіч» у межах кампаніі «Наша мова».**

У стварэнні дзіцячай кніжкі «Дзяцел, лісіца і варона» дапамагла берасцейскі дызайнер Ганна Яцкевіч. У кніжцы дзеткам прапанавалі пазнаёміцца з жыхарамі лесу: дзятлам-балбатуном, хітрай лісіцай і шэрай мудрай варонай.

Адна з каардынатараў кампаніі «Наша мова» спадарыня Таццяна распавяла пра тое, з якой мэтай стваралася дзіцячая кніга: «Мы хацелі зрабіць цікавы прадукт, але скіраваны не толькі на дарослых і моладзь, а таксама на дзетак, каб яны цікавіліся беларускай мовай не ў сталым узросце, а з дзяцінства. Спачатку яна просценькая, то бок яе могуць чытаць дзеткам бацькі. Будзе мець цікавы дызайн. Спадзяюся, усім будзе цікава паглядзець».

Асноўная мэта кампаніі «Наша мова» — папулярызацыя беларускай мовы сярод жыхароў Берасця. Стварэнне дзіцячай кнігі — гэта толькі адзін з першых крокаў кампаніі.

# Успаміны Мікалая Маліноўскага

Выйшла новая кніга «Беларускай мемуарнай бібліятэкі», якая змяшчае ўспаміны Мікалая Маліноўскага (1799–1865) — гісторыка, архівіста, бібліёграфа, журналіста і актыўнага грамадскага дзеяча (пераклад тэкстаў Я. Кісялёвай, уступны артыкул і каментар — А. Фядуты).

М. Маліноўскі быў удзельнікам таварыства філарэтаў, сябраваў з Адамам Міцкевічам, публікаваўся ў віленскіх выданнях Адама-Ганорыя Кіркора. Яго мемуары дапамагаюць убачыць найважнейшыя падзеі XIX стагоддзя вачыма ўраджэнца ўкраінскіх земляў, які ўсведамляў сябе ліцвінам, а таму не быў абыякавым да гісторыі Літвы і Беларусі.

## ВЕРАСНЁЎСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



Янкута Ганна Валер'еўна (нар. 04.09.1984)
Казыра Леанід Аляксеевіч (нар. 12.09.1949)
Мельнічук Іван Міхайлавіч (нар. 15.09.1939)
Дубавец Сяргей Іванавіч (нар. 17.09.1959)
Жуковіч Васіль Аляксеевіч (нар. 21.09.1939)
Суднік Станіслаў Вацлававіч (нар. 21.09.1954)

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

# Кніжны форум у Львове

**11–14 верасня адбудзецца ХХ Міжнародны кніжны «Форум выдаўцоў у Львове» — найгалоўная і самая чаканая ва Украіне кніжная, літаратурная, культурная падзея года.**

У межах «Форума выдаўцоў у Львове», як заўсёды, — і любімыя традыцыйныя мерапрыемствы, і шмат навацый.

Асобны стэнд на «Форуме выдаўцоў у Львове» ў верасні гэтага года будзе мець Саюз беларускіх пісьменнікаў — і прэзентаваць сваю выдавецкую серыю «Кнігарня пісьменніка».

Мэта Форума — прыцягнуць увагу грамадскасці да актуальных праблем сучаснага кнігавыдання, падтрымаць традыцыю прафесійных дыскусій і семінараў.

Да супрацоўніцтва з Форумам актыўна прыцягваюцца не толькі вядомыя ўкраінскія і замежныя пісьменнікі і выдаўцы, але і зоркі спорта і шоў-бізнэса, прадстаўнікі розных галінаў улады (напрыклад, львоўскія кніжныя кірмашы штогод наведваў прэзідэнт Віктар Ючшанка), грамадскія, дабрачынныя і камерцыйныя структуры.




Як стала вядома за паўтары месяцы да мерапрыемства, прысутнасць расійскіх выдаўцоў прызнана непажаданай, а таму іх на кірмашы не будзе. Такую заяву апублікавалі на сайце «Форума выдаўцоў у Львове».

«На форуме не будзе байкота і нават пікетавання расійскіх кніг, аблівання іх чырвонай фарбай, спальвання, боек ды іншых правакацый. Так, не будзе і выдавецтваў з Расіі», — адзначыў прэзідэнт Форума выдаўцоў Аляксандр Коваль.

«Усе расійскія выдавецтвы нясуць адказнасць за інфармацыйны «беспредел» супраць нас. Хлусам не падаюць рукі нават у мірны час. Хацелася б запрасіць на Форум тых расійскіх выдаўцоў, якія публічна падтрымалі Украіну. Але мы іх там не ўбачым, бо такіх няма. А значыць, прадукцыя іх заражаная. Трэба ўводзіць ліцэнзаванне расійскіх кніг і глядзець, што яны сюды вязуць. У час вайны купіць нават добрую расійскую кнігу — грэх. У мірны час — не. Уявіце, мы на вуліцы бачым, як двое гопнікаў гвалтуюць жанчыну. І кажам: гвалціць — гэта дрэнна, але хлопцы такія прыгожыя. Людзі да гэтага часу не разумеюць, што ідзе вайна. Адшуміць парад перамогі ўкраінскіх войскаў у Маскве, тады можна будзе іх кнігі чытаць», — сказаў у інтэрв'ю для Gazeta.ua выдавец Дзмітрый Капранаў.

А ўкраінскі пісьменнік Сцяпан Працюк прызнаўся: «У краіне ідзе вайна. Зараз не час для бяззубай і хрысціянскай любові да ворагаў. Расія дэманструе сваю чалавеканенавісніцкую сутнасць. Ёсць і іншая Расія — выдатныя мастакі, разумныя людзі. Я б з радасцю купіў кнігу Навадворскай. Яшчэ будзе час... Папракаць сёння ўкраінскія выдавецтвы, якія не маюць такога асартыменту, як расійскія, — гэта дыверсія. Хай нашыя прачытаюць тое, што па-ўкраінску выдадзена. Расійскія фантасты з 2006 года пішуць кнігі пра вайну з Украінай. А слова — рэч містычная, яно прыцягвае. Таму адмова ад іх кніг — гэта звычайная гігіена. Трэба толькі сачыць, каб з вадой не выплюхнуць дзіця».




# Начныя чытанні ў «Логвінаве»

**У летнія спякотныя дні рэдакцыя літаратурна-мастацкага часопіса «Макулатура» правяла прэзентацыю свайго шостага нумара ўночы.**

Новы нумар тэматычны — ён прысвечаны славацкай літаратуры. «Ад шостага нумара ў нас змянілася вёрстка. З намі супрацоўнічае мастачка Даша Зайчанка, якая нанова пераглядзела выгляд часопіса... Будзе вельмі цікава паглядзець, як выглядае шостая «Макулатура», і паслухаць асобныя тэксты, якія нумар аб'ядноўвае пад сваёй вокладкай», — сказаў галоўны рэдактар «Макулатуры» Сяргей Календа.

У новым нумары «Макулатуры» сучасная проза на ўсе густы — ад містыкі і эротыкі да трэшу і панку. У імпрэзе ўзяў удзел перакладчык з чэшскай і славацкай моў Сяргей Сматрычэнка.

**Беларускае Радыё Рацыя**

# Вечная памяць

**30 ліпеня на 64-м годзе жыцця памёр вядомы ўкраінскі пісьменнік, старшыня Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны (з кастрычніка 2011 г.) Віктар Баранаў.**



Віктар Фёдаравіч Баранаў (1950–2014) — паэт, празаік, перакладчык, галоўны рэдактар літаратурнага часопіса «Кіеў», віцэ-прэзідэнт Таварыства «Украіна-Румынія», аўтар шматлікіх кніг паэзіі, прозы, перакладаў, літаратурна-крытычных, публіцыстычных і мастацтвазнаўчых публікацый, лаўрэат мастацкай прэміі «Кіеў» у галіне літаратуры ім. Я. Плужніка, міжнароднай літаратурнай прэміі «Трыумф», літаратурна-мастацкай прэміі імя М. Кацюбінскага і інш., узнагароджаны ордэнам «За заслугі» III ст.

Летась у «Літаратурнай Беларусі» (ва ўрыўках) і ў часопісе «Дзеяслоў» друкавалася аповесць Віктара Баранава «Прытула» ў перакладзе на беларускую мову Валерыя Стралко.

Пісьменнік Сяргей Панцюк на сваёй старонцы ў Facebook, даведаўшыся пра смерць свайго калегі, напісаў: «Ён цяжка хварэў, але не звяртаў увагі на гэта — практычна да апошняга месяца свайго жыцця імкнуўся працаваць. Ён ведаў аб сваёй невылечнай хваробе, але я ні разу не бачыў яго засмучаным, дэпрэсіўным. Наадварот — гаварыў пра гэта з іроніяй... Ён быў добрым пісьменнікам, яго раманы «Пойма» і «Не вер, не бойся, не прасі» закранулі за жывое. А верш «Да ўкраінцаў» стаў песняй, якую спявалі, мабыць, усе патрыёты...»

Саюз беларускіх пісьменнікаў смуткуе разам з украінскімі калегамі і выказвае спачуванні родным і блізкім Віктара Фёдаравіча.

# «Маё мястэчка»

У Доме культуры вёскі Лужкі Шаркаўшчынскага раёна Віцебскай вобласці з ініцыятывы Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў партнёрстве з кампаніяй «Будзьма беларусамі» адбылася прэзентацыя кнігі беларуса-эмігранта Васіля Стомы (1911—1992) «Маё мястэчка», якая сёлета пабачыла свет у серыі «Беларуская мемуарная бібліятэка» выдавецтва «Лімарыус».

У імпрэзе бралі ўдзел рэдактары выдання Наталля Гардзіенка і Зміцер Саўка, а таксама вяскоўцы, якія дзяліліся ўспамінамі пра аўтара і ўражаннямі ад кнігі. Спецыяльна запрошаным на імпрэзу госцем быў бард Алесь Камоцкі.

# Лідзія Арабей: «Я ніколі не старалася дагадзіць начальству»

**Летам споўнілася 89 гадоў адной з найстарэйшых беларускіх пісьменніц Лідзіі Арабей. «ЛБ» знаёміць сваіх чытачоў з фрагментам нядаўняй гутаркі з Лідзіяй Львоўнай (запіс ажыццёўлены ў межах сумеснага праекта Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускага архіва вуснай гісторыі).**



### «І ваўкі цябе ня зьелі!»

***Лідзія Арабей:*** Я нарадзілася ў вёсцы Нізок. Гэта знакамітая вёска, дзе нарадзіўся Кандрат Крапіва, дзе нарадзіўся Паўлюк Трус. Але я там толькі нарадзілася. Бацька мой памёр, калі мне было два гады, я пра яго нічога не ведаю і яго не памятаю. А мама мяне прывезла ў Мінск, і ўсё маё далейшае жыццё было ў Мінску. Мая мама Марыя Антонаўна Махнач, калі памёр бацька, выйшла замуж за другога. Мала таго, што ён любіў гарэлку, дык яшчэ, калі я дзяўчынкай бралася чытаць якую кніжку, дык вырываў з рук ды кідаў на падлогу. Нарадзілі яны многа дзяцей, так што маме было ўжо не да мяне...

Вучылася я ў Мінску, у трэцяй школе на Грушаўскім пасёлку. Скончыла восем класаў, а тады пачалася вайна. Бачыла, як немцы гналі калоны палонных, нашых чырвонаармейцаў, і як віселі людзі на слупах, на дрэвах, тыя, што супраціўляліся немцам у самым пачатку вайны. Потым быў голад, і людзі ратаваліся тым, што хадзілі з мяшэчкам у вёску, прадавалі нейкія свае транты, мянялі на прадукты якія, на што-небудзь, і так выжывалі. Колькі і я пахадзіла з торбачкаю за плячыма... У той жа Нізок хадзіла. І калі аднойчы прыйшла ўжо позна вечарам, мая цётка там жыла, яна кажа: «Або, дзіця, адкуль ты ўзялося? І ваўкі цябе ня зьелі!» А я сапраўды ішла позна вечарам цераз лес. І цяпер праз шмат гадоў праўда дзіўлюся, як гэта мяне ваўкі не з'елі.

***Наталля Гардзіенка: У часе вайны Вы апынуліся ў Шчучыне. Як гэта адбылося і чаму менавіта там?***

***Л.А.:*** У сям'і маці я адчувала сябе чужой, непатрэбнай. А вайна, а голад... І я паехала ў Шчучын. У Заходняй Беларусі людзі жылі лепш, то я туды паехала, ратуючыся ад голаду. Паехала ні да каго, у свет, як у капейку. І Бог яго ведае, чаму менавіта туды. Калі жыла ў Шчучыне, па маладосці, па адзіноце, бо я там была адзінокая, выйшла замуж. Такі быў хлопец Аляксей Аляксеевіч Арабей. Ён савецкі, я савецкая. Былі звязаны з партызанамі, і яго потым расстралялі за гэта. А я нашу яго прозвішча.

***Н.Г.: У той час у Заходняй Беларусі дзейнічалі польскія партызаны, Армія Краёвая. Ці Вы штосьці пра іх ведалі?***

***Л.А.:*** Калі мы жылі ў Шчучыне, там, канечне, сітуацыя была жахлівая. Там былі савецкія партызаны, і былі гэтыя акаўцы. І акаўцы гэтыя ваявалі і з немцамі, і з савецкімі партызанамі. І часта забівалі менавіта савецкіх. І ўжо нават не партызан, а простых людзей, якія, таксама ратуючыся ад голада, прыехалі і жылі ў Шчучыне. Аднойчы мы былі ў хаце: я, маці майго мужа і яго сястра, а самога якраз не было дома. І зайшоў да нас нейкі п'яны чалавек, мы яго не ведалі, ніколі не бачылі. І ў яго яўна быў намер нас пастраляць, бо мы «з Саветаў». Ён усё ў кішэню лез, але нешта ў яго п'яным мазгу не спрацавала, як гэта кажуць, і ён павярнуўся і пайшоў. Аднак намер у яго быў яўна агрэсіўны.

Усе ўражанні вайны перайшлі потым у мае аповесці, апавяданні. Нават два раманы напісала пра вайну.

### Крапіва, Лынькоў, Колас

***Н.Г.: Калі Вы вярнуліся ў Мінск?***

***Л.А.:*** Вярнулася я ў Мінск, як толькі яго вызвалілі. А не мела ніякай ні адукацыі, ні прафесіі, нічога... То я патупала да Крапівы. Ён зямляк, прытым яшчэ быў знаёмы з маёю мамаю. Я пайшла, каб дзе мяне на работу якую ўладзіў. І Крапіва дапамог мне ўладзіцца сакратаркаю да Міхася Лынькова, які тады быў старшынёй Саюза пісьменнікаў.

І я працавала ў Лынькова. Калі ён некуды адыходзіў, ад'язджаў, я павінна была адказваць па тэлефоне. Мне было цікава. Калі я ў Лынькова працавала, тады ж у Саюза пісьменнікаў не было будынка, і яго кантора была на вуліцы Берсана. Туды прыходзілі людзі, прыходзілі пісьменнікі па нейкіх сваіх справах. І цікава было на іх паглядзець. І жонкі пісьменнікаў прыходзілі.

***Н.Г.: Вы ў той час пазнаёміліся і з Якубам Коласам і нават маеце здымак. Як гэта адбылося?***

***Л.А.:*** Гэта быў недзе 1945 год. Калі я працавала ў Міхася Лынькова, туды прыходзіў і Якуб Колас па сваіх справах. А Лынькоў вельмі любіў фатаграфаваць. І аднойчы кажа Коласу: «Вось я Вас, дзядзька, зараз сфатаграфую». А Якуб Колас паказвае на мяне і адказвае: «А ты мяне сфатаграфуй з гэтаю дзяўчынаю». А потым сказаў: «Калі яна скончыць работу ў цябе, няхай прыйдзе да мяне, няхай навядзе парадак у маім архіве». Так я апынулася ў Коласа.

Я тады была вельмі маладая і зусім дурная, і я не разумела, што мяне дапусціў да свайго архіва сам Якуб Колас. Не разумела, да якога багацця мяне дапусцілі. Канечне, я вельмі мала магла яму дапамагчы. Але я сваім маладым яшчэ тады сэрцам адчула, як звязаны Якуб Колас з народам. Ні ў аднаго пісьменніка, якіх я потым ведала, не было такой сувязі...

***Н.Г.: Праца ў часопісе «Вожык» была пасля таго, як скончылі з паперамі Коласа?***

***Л.А.:*** Так, пасля Коласа я працавала ў «Вожыку». У той час там працавалі вельмі цікавыя пісьменнікі. Працаваў Макаёнак, працаваў Танк, Брыль, па-мойму, таксама працаваў. І спачатку рэдактарам у «Вожыку» быў Кандрат Крапіва. Гэта потым яму надакучыла, бо як які-небудзь матэрыял, што крытыкуе начальства, дык гэта начальства бяжыць у ЦК і скардзіцца на Крапіву, на «Вожык». Дык ужо Крапіве надакучыла, мусіць, усё гэта, і ён пайшоў з работы. І паставілі там такога рэдактара Чавускага. А гэты Чавускі нават беларускай мовы не ведаў. І калі ён пісаў свае гумарэскі, то даваў, каб я іх перакладала. А я па маладосці і па дурасці не толькі перакладала, але і нешта рэдагавала ў гэтых гумарэсках. А ён так злаваўся, так крычаў, і мяне звольнілі. Тады я пайшла вучыцца. Спачатку вячэрняя школа, потым універсітэт, потым аспірантура...

### Жыццё і творчасць Цёткі

***Н.Г.: Выбар філалагічнага факультэта для навучання быў свядомы?***

***Л.А.:*** Я хацела ісці на факультэт журналістыкі, і падала заяву. Але паколькі гэта быў яшчэ 1946 год, адразу пасля вайны, то была нейкая абмежаванасць: тых, хто быў у акупацыі, на факультэт журналістыкі не вельмі ахвотна бралі. І я пайшла на філалогію. Таму што мне бліжэй за ўсё была літаратура.

***Н.Г.: Вы пачалі пісаць менавіта ў гэты час?***

***Л.А.:*** Ой не, пісаць я пачала пазней, ужо калі скончыла аспірантуру. Там трэба было браць тэму для дысертацыі. І я ўзяла «Жыццё і творчасць Цёткі». І прысвяціла гэтай сваёй рабоце, можна сказаць, усё жыццё. Была дысертацыя, якую я абараніла, а далей я ўвесь час... мяне гэтая тэма не пакідала, і я ўсё новыя і новыя знаходзіла матэрыялы.

***Н.Г.: У часе працы над гэтай тэмай Вы нават сваякоў Цёткі — Алаізы Пашкевіч — знайшлі. Як гэта атрымалася?***

***Л.А.:*** Ой, таксама цікавая гісторыя. Было стагоддзе з дня нараджэння Цёткі. Яно святкавалася ў Старым Двары, у вёсцы, дзе пісьменніца нарадзілася. І туды з'ехалася многа людзей. І гэтае стагоддзе адзначалася так шырока, што пра свята дайшло да Польшчы. А ў Польшчы яшчэ жылі людзі, якія былі нейкімі нават сваяцкімі сувязямі звязаныя з Цёткай. І я атрымала пісьмо ад Станіслава Вызго з Польшчы. Вызго — было прозвішча маці Цёткі. Так што ён яўна быў з роду паэткі. Ён напісаў, што чуў пра стагоддзе, і што ў яго ёсць фатаграфіі сям'і Цёткі і яшчэ нейкія фатаграфіі сямейныя, і ён мог бы мне іх прывезці з Польшчы... І мне прывёз фатаграфіі сапраўды. А потым мы пачалі з ім перапісвацца патроху. І ён у адным пісьме напісаў, што яшчэ жыве родная сястра Цёткі Караліна Пашкевіч, яна жыве таксама ў Польшчы, недалёка ад Лодзі ў вёсачцы Франін. Ну і я зноў загарэлася, і зрабіла сабе туды камандзіроўку. Пабыла ў гэтай сястры, пабачылася з ёю, пагаварыла. У яе там віселі такія, як яны называлі, кілімы, габеленчыкі, якія яшчэ віселі ў Старым Двары пры маці Цёткі. І я гэтыя габеленчыкі адтуль выцарапала і перадала іх у музей літаратуры, які на Нямізе...

### «Полымя» і творчасць

***Н.Г.: Вы працавалі ў выдавецтве «Беларусь». А затым — рэдакцыя часопіса «Полымя». Якая там была атмасфера? Як Вам працавалася?***

***Л.А.:*** У «Полымі» мне працавалася добра. Я там літсупрацоўнікам была. Але там сталася такая нядобрая гісторыя. Паставілі рэдактарам Кавалёва, па-мойму. Але там заядлыя хлопцы такія працавалі: Пташнікаў, Чыгрынаў, якія лічылі сябе ўжо класікамі. І ім здавалася, што яны вартыя лепшага рэдактара. А той Кавалёў хацеў неяк зблізіцца калектыў. Сакратаром працаваў Бачыла. І ён прасіў тых аўтараў, якія друкуюць вялікія творы ў «Полымі» і вялікія ганарары атрымліваюць, каб яны трошкі адшчыквалі на карысць часопіса. І я таксама, між іншым, тады надрукавала там свой раман, і мне таксама сказаў: 10% ці колькі дай у карысць «Полымя». Я прыйшла і алоўкам вылічвала, колькі я павінна даць. І на гэтыя грошы, калі прыязджаў аднекуль які госць, дык устройвалі сабантуйчыкі. Потым калі якое свята, дык Кавалёў таксама збіраў рэдакцыю і які-небудзь сабантуйчык устройваў. І нехта з гэтых геніяў, як яны сябе лічылі, напісалі ў ЦК данос, што рэдактар абірае аўтараў. Мяне таксама выклікалі ў ЦК. Там былі Савіцкі і Гніламёдаў тады ў кабінеце, пачалі пытаць: «Вы давалі грошы?» Я гавару: «Ну, давала». — «Напішыце нам пра гэта!» Я гавару: «Нічога я вам пісаць не буду». Яны троху там заяршыліся, што яны ж работнікі ЦК, а я тут з імі так... Але я сказала: «Пісаць я вам нічога не буду».

Карацей кажучы, гэтага беднага Кавалёва, не даўшы яму да пенсіі дажыць два месяцы, звольнілі з работы. І паставілі Кірэенку. А Кірэенка чалавек быў вельмі кепскі. Першае, што ён зрабіў, гэта звольніў з работы Бачылу. А чаму звольніў? Бо перад гэтым прыносіў ён нейкі нарыс, і бачыла як сакратар рэдакцыі рабіў яму заўвагі...

***Н.Г.: З таго, што Вы самі напісалі, якія творы Вам падаюцца найбольш важнымі?***

***Л.А.:*** Ведаеце, у жанчыны пытаюць: «Якое дзіця Вы больш за ўсё любіце?» А яна кажа: «А, міленькі, які палец не парэж — дык баліць». Так і тут, я скажу. Гэта няхай крытыка, ці той, хто чытае, скажа, што важнейшае.

***Н.Г.: А крытыкі Вас любілі?***

***Л.А.:*** Вы ведаеце, мяне крытыкі абміналі чамусьці. Вот нядаўна ў мяне адзін чалавек браў інтэрв'ю і пытаўся: «Калі Вам лягчэй пісалася: тады, ці цяпер?» Дык я Вам, калі б мне такое пытанне задалі, адкажу, што мне аднолькава пісалася і тады, і цяпер, бо я ніколі не старалася дагадзіць начальству. Ніколі не старалася ісці ў той плыні, якую патрабавалі. Я пісала пра тое, што ведала, што сама перажыла.

### Саюз беларускіх пісьменнікаў

***Н.Г.: Вы вельмі даўно ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў і бачылі розных кіраўнікоў, розныя этапы жыцця гэтага Саюза. Што найбольш змянілася за гэты час?***

***Л.А.:*** Так, я ў Саюзе з 1958 года. За гэты час змянілася вельмі многа, і вельмі ў кепскі бок. Па-першае, таму, што Саюз раздзялілі на Саюз, так сказаць, «чэсны» і нячэсны. Падзялілі пісьменнікаў, нацкавалі пісьменнікаў... У нас усё адабралі... і «Полымя», і «Маладосць», і «ЛіМ». Нам нічога не засталося.

Я ў «Полымі» ўсё жыццё друкавалася, я ў «Полымі» працавала. Калі гады два ці тры таму прапанавала «Полымю» свой матэрыял, мне тадышні рэдактар сказаў, што тых, хто мае дачыненне да газеты «Народная воля», у «Полымі» не друкуюць. Дзякуй Богу, што існуе «Дзеяслоў», у якім можна нешта надрукаваць. Але ён выходзіць раз на два месяцы... Карацей кажучы, ніколі не было такога цяжкага становішча для беларускіх пісьменнікаў, як цяпер.

***Н.Г.: А ў савецкія часы Саюз пісьменнікаў што Вам даваў?***

***Л.А.:*** Даваў магчымасць друкавацца. Канечне, была цэнзура, канечне, патрабавалася ідэалогія. А што ён мог даць? Праўда, была ў нас свая паліклініка... Саюз даваў пісьменнікам некаторым кватэры. Мне не даваў... Я ад Саюза на той час нічога не хацела і не патрабавала. Сядзі і пішы. Напішаш, надрукуеш, вось табе і ганарар будзе. А цяпер ведаеце што? Таксама можа смешна, мне прыслалі па пошце ганарар за мой тэкст 2,5 тысячы рублёў. Гэта нешта невялікае маё было надрукавана ў «Вожыку». Ну я вырашыла, што «Вожык» — гэта ж гумар. Тады мне сяброўкі казалі, што на гэтыя грошы можаш на дзяржаўным аўтобусе некуды заехаць, але назад ужо не вярнуцца. А цяпер, як падаражаў праезд, дык і туды не заедзеш. Так што цяпер... адбілі ахвоту пісаць. Перабіваюся сваімі каракулькамі «Пошукі ісціны». Але так яе і не знайду.

**Гутарыла Наталля Гардзіенка**

# Запісы Мікалая Улашчыка



У Інстытуце гісторыі АН СССР у Маскве ён меў сталае навуковае становішча, яго цанілі калегі па працы на чале з дырэкратам інстытута Буганавым. Але навуковы інтарэс М. Улашчыка цалкам палягаў у гісторыі яго радзімы Беларусі. Кожная чарговая праца ягоная працягвала дапытлівыя пошукі рупліўца беларушчыны, выяўленне і вырашэнне нейкіх істотных праблем мінулага беларускага народа, выдання беларускай гістарычнай спадчыны.

Так склалася, што, пэўна, у кожны прыезд у Мінск, а наведваўся да нас Мікалай Мікалаевіч не менш, як два разы ў год, спыніўшыся ў сястры Вольгі, ён тэлефанаваў, што «вось, маўляў, я тут, загляніце…»

У міжчасе я атрымаў ад Мікалая Улашчыка яго «Очерки по археографии и источниковедению истории Беларуси феодального периода» 1973 г. выдання. Для акадэмічнага выдання Поўнага збору рускіх летапісаў М. Улашчык паспеў падрыхтаваць, пракаментаваць і адрэдагаваць 32-і і 35-ы тамы, літоўска-беларускія летапісы, настольнае выданне для беларусазнаўцаў усіх профіляў.

Незадоўга да сыходу з жыцця Мікалай Мікалаевіч пакінуў мне рукапіс сваіх мемуарных запісаў, зробленых у чатырох агульных і дзевяці звычайных школьных сшытках. Як вынікае з запіскі, прыкладзенай да рукапісу, успаміны запісваліся нашым гісторыкам у 1937–19379 гг. у Ульянаўску, часткова ў 1940 годзе ў Маскве. У цэлым жа натаваліся яны ў перапынках паміж чарговымі арыштамі і высылкамі іх аўтара. А ўсіх тых арыштаў і высылак Мікалая Улашчыка было ажно чатыры. Толькі ў другой палове 1950-х гадоў ён здолеў вярнуцца да нармальнага жыцця. Упадабанай гісторыяграфіяй патрапіў стала навукова заняцца толькі маючы пяцьдзесят гадоў. Але ж колькі яшчэ паспеў зрабіць у навуцы. Які дар, творчы патэнцыял меў, каб нягледзячы на перажываныя цягам чвэрці веку рэпрэсіі, пакінуць нашчадкам такую багатую, каштоўную навуковую спадчыну.

Што да мемуарыстыкі Мікалая Мікалаевіча Улашчыка, то яна, на жаль, засталася ў фрагментах. Прынамсі, запісы ахопліваюць час 1918–1921 гг., перыяд вельмі складаны ў жыцці Беларусі. Адна акупацыя на нашых землях змянялася другой, і кожная мела сваю спецыфіку. Аўтар за́пісаў фіксаваў усё, як было, без аглядкі на нейкія ідэалагічныя арыенцыры.

Калі ўдалося з большага расчытаць рукапіс мемуараў, уразіла, як схоплены, перададзены ў іх атмасфера, дух часу і дасканаласць пісьма сталага літаратара, пісьменніка.

**Арсень Ліс**

# Віцкаўшчына. Рэвалюцыя ў мяне

На сьвеце адбываюцца грандыёзныя падзеі. Стварающца і гінуць цэлыя дзяржавы, бальшавікі ў сябе будуюць зусім новы сьвет, але ў нас зьмен няма. Людзі жывуць тым, чым жылі і да вайны. Вайна, рэвалюцыя толькі затрымліваюць ці паскараюць набліжэнне да мэтаў, калі яны ў каго былі. Мэты больш энергічныя ў сялян — купіць большы і лепшы кавалак зямлі, меншыя — набыць харошыя боты, добра паесьці, менш рабіць.

Няма зьмен і ў мяне. Я яшчэ ня думаю, хто я буду. Больш схіляюся ісьці за братам па лясной часьці. Лес вабіць заўсёды і ўсякі. Хваёвы лес улетку мае адну прывабнасьць: пахне смалою, стукае дзяцел; увосень — другую — ціха шумяць вяршыны хвоек, нікне трава. У полі сьвішча асенні вецер, а тут ціха. На душы адразу робіцца таксама ціха, спакойна. Узімку, засыпаны сьнегам, ён захоўвае цішу нават тады, калі за лесам круціць мяцеліца. Сьвішча вецер, круціцца сьнег, сыпле з усіх бакоў у твар, а ў лесе толькі вярхі хвоек калышуцца і ціха-ціха падае сьнег. Здаецца, што трапіш у хату. Нага правальваецца ў глыбокі чысты сьнег. Маленькія елачкі ўсе абсыпаны сьнегам. Хораша ў такім лесе <…>

У лесе можна жыць аднаму і так, як жыве Ваня. Стаіць сярод вялікага лесу дом, прад домам бэз, ружы, арэлі, за домам сад. У канцы сада рэчка, а далей на дзясяткі, сотні кіламетраў лес. Ніколі б я ня выходзіў з лесу. Ваня расказвае, што старыя лесьнікі, якія ўсе жыцьцё пражылі ў лесе і зволненыя з работы, скора паміраюць — нуда па лесе заядае іх. Так і павінна быць. Вырваць чалавека з лесу — гэта значыць адарваць яго ад зямлі. Чалавек у паветры жыць ня можа. Але зараз сьвет зьмяніўся.

Дзень я іду вучыцца на лясьнічага, ды мне пакуль толькі 13 год. Лес застаўся мілы сэрцу на ўсё жыцьцё, аднак у гэтым годзе адбываюцца падзеі, якія ставяць мяне зусім на іншыя рэйкі. У мяне адбываецца рэвалюцыя, я ўспрыймаю маё новае вучэньне і адразу захапляюся ім увесь. Мяне расьпірае ад новых ідэй, хочацца, каб усе думалі і рабілі тое ж, што і я. Рэвалюцыя гэтая нацыянальная.

<…> Першы раз я пачуў, як чытаюць беларускую кніжку, у дзяцінстве. Дзед па нейкім выпадку запрасіў да сябе гасьцей, якіх набралася поўная хата. Была, здаецца, Сёмуха. Калі я, учапіўшыся за маміну руку, увайшоў у нову хату дзеда, то ўбачыў хлопца, які ў сьвяточным адзеньні, у шапцы сядзеў каля вакна на лаве і чытаў кнігу. Каля яго стаяла яшчэ некалькі хлопцаў, якія час ад часу рагаталі. Гэты хлопец чытаў па-просту, утрыруючы словы. Ён вымаўляў словы «узноў, зноўу, паднюў», што ў нас лічылася крайняю ступенью простасьці. Хлопцы рагаталі з таго, што былі людзі яшчэ больш простыя, чым яны, пра якіх пішацца ў гэтай кнізе.

Ад'язджаючы першы раз у Самахвалавічы, ма́ю загад ад мамы: «Глядзі, каб ты навучыўся там гаварыць хораша па-руску». Успрымаю гэты загад, стараюся з усіх сілаў, але ў Самахвалавічах гэта выходзіла кепска. У нас па-руску гаварылі толькі настаўнікі, ды на гэтай на мове напісаны кнігі, а мы ўсе ў школе і ўсе за школаю гаварылі па-просту. <…>

Гэта ў Самахвалавічах, але ў Менску сталася больш складана. У Менску ўсе гавораць па-руску, усе былі паны. У кроў прасочвалася разуменьне, што гарадзскія лепш за вясковых: усякі гарадзкі вышэй за ўсякага вясковага.

«У Менску нават сын дворніка ці ізвозчыка будзе сьмяяцца з цябе, бо ты з вёскі», — казала мне Ніна перад ад'ездам. І гэта сапраўды было так.

Наша «простая» мова, нашы рудыя боты, шытыя Фядосам, польты скрозь выклікалі кпіны. У год рэвалюцыі гэта зьменшылася, бо ў нас быў хлеб, а паны сядзелі галодныя, але дух застаўся.

Аднак напляваць на ўсё сваё было ня так проста. Мы ўспаміналі апавяданьні свае самахвалавіцкае гаспадыні пра Пензенскую губэрню, і гэта губэрня, дзе ўсе гаварылі па-руску, была нібы дзікунскім краем, дзе ня ўмеюць ні адзецца, ні есьці, дзе ўсе п'яніцы. За час вайны шмат хто пабыў у Расіі. Мой адзін прыяцель жыў у Разані і расказваў пра яе прыблізна тое ж, што і пра Пензенскую губэрню — таксама нейкі дзікунскі край. <…>

Узімку 1919 г. у нас у школе пачаліся зьмены. У праграму была ўведзена польская мова. Праўда, гэта ж было зроблена і ў другіх школах. Нават нашы «палякі» кепска разумелі па-польску, а мы тым больш. Другою навіною ў школе быў ксёндз. Поп у нас выкладаў закон божы з першай клясы. Гэта для нас здавалася нармальна. Ды і поп тут проці самахвалаўскага быў ня кепскі. Малады, прыгожы, ён нікога ня біў і ня лаяў, як самахвалаўскі вядзьмак, а тут раз перад урокам закона божага ў клясу ўвайшоў ксёндз. З нас шмат хто, у тым ліку і я, ніколі ня бачылі ксяндза, і таму з цікавасьцю ўставіліся на гэту фігуру. Ксёндз быў такі, якіх іх звычайна малюе літаратура: малады, ружовы, апрануты амаль так, як і поп, але валасы былі кароткія, а на галаве быў выгалены кружок… Адначасна, калі мы праходзілі закон божы з папом, нашы «палякі» праходзілі свой польскі закон у другой клясе.

Пасьля ўсяго гэтага ў нас пранеслася чутка, што старыя настаўнікі адменены і ў школу назначаны новыя настаўнікі — беларусы, якія будуць вучыць нас па-просту, што зараз завецца па-беларуску. Вучэньне і простая мова ў нашым разуменьні наогул былі такія розьніцы, якія ніяк не сумяшчаліся ў нашай галаве. Ніколі мы наогул ня чулі, што ёсьць такія школы і што можна вучыцца па-просту.

Празьвінеў званок, усе селі на месцы, чакаючы новага, невядомага настаўніка-беларуса, і ў клясу ўвайшоў малады высокі русы настаўнік. Кляса напружылася, чакаючы, што будзе, а настаўнік на дзіва ўсім нам загаварыў зусім проста і па-просту. <…> На вялікае наша зьдзіўленьне настаўнік кажа, што ён не адзін такі, што такіх шмат, што на простай мове друкуюцца кнігі, газэты. Для ўсіх нас гэта было Амэрыка. На першы раз настаўнік надта не закідаў нас новымі ідэямі. Выклаўшы асноўнае, што гаварыць «па-просту» зусім ня брыдка, ён рэшту часу гутарыў з намі пра вясковае жыцьцё, пры гэтым не глуміўся з вёскі, не сьмяяўся з простых людзей, мужыкоў, але даводзіў, што яны лепш за іншых. Гэта таксама Амэрыка.

Гэта першы раз за ўсё жыцьцё наша не высьмейвалі, не зьдзекаваліся, ня кпілі, а спачувалі, разумелі. Чалавек ведаў вёску і ведаў, якія струны зачапіць у нас. Гэта было іншае, чым польская мова, чым усе іншыя. Гэта была рэвалюцыя. <…>

І так дзень за днём. Прыходзілі настаўнікі, сьцьвярджаючы старую тэзу, што простая мова ня горшая за рускую і штодня высоўваючы новыя і новыя тэзы.

Настаўнікі казалі, што нас шмат — дзесяць міліёнаў, мы цэлы асобны народ. Наша тэрыторыя большая, чым тэрыторыя Польшчы, Літвы, Бельгіі, Швейцарыі, у нас вялікая, слаўная гісторыя. І ўсё гэта было страчана, калі народ зрокся свае мовы. Уласна зрокся не народ, а паны. І тая акалічнасьць, што ў нас некалі былі вялікія паны, якія гутарылі па-беларуску, робіць вялізнае ўражаньне…

Першаю кнігаю, якая трапіла да нас у школе, была «Родныя зьявы» Гушчы-Коласа. Гэта была наша хрэстаматыя. Мы чыталі яе, разьбіралі творы, адначасна разьбіраючы ўсё жыцьцё вёскі. Працэнтаў на восемдзесят школа была з вясковых, гутарылі ўсе на тую ж тэму пра простую і ня простую мову, і тыдні праз два-тры большасьць школы выразна перайшла на бок новых настаўнікаў. Школа на вачах рабілася ня толькі па назве, але і па духу беларускай. <…>

Віцкоўцы чакалі ў свой час палякаў, як збаўвеньня і рады ім былі бязьмежна, рады былі яшчэ некалькі часу пасьля прыходу, але чым далей, тым больш гэта радасьць пачынае гаснуць. Новыя прыяцелі аказаліся не такімі ўжо дабрадзеямі. Яно ведама, вайна ёсьць вайна. Гэта разумелі нават і вяскоўцы. Ня ўсё ж прадаць хлеб, сала, сыры па дарагой цане, а купляць усё іншае па таннай. На вайне даводзіцца несьці і страты. Гэта няўхільна. Усякая ўлада, што была тут, брала, брала, мала саромячыся і мала зважаючы на лямант, сьлёзы. Брала царская армія, бралі немцы, бралі бальшавікі. У віцкоўцаў бальшавікі бралі найбольш. Вёска, якая сваім дабрабытам выдаецца сярод усіх ваколічных вёсак, ведама, не магла не прыцягваць увагу ўсіх, каму трэба было што-небудзь узяць.

У хатах гарэла лучына, а каб не застацца без сьвятла, людзі запальвалі кавалак торфу ці вяроўкі, якая пакрысе і курыла. Калі трэба было здабыць агонь, то гэты торф раздувалі ў полымя. Чалавек едзе ў поле араць, на возе ляжыць цагліна сухога торфу, разносячы пах гарэлага торфу — калі трэба будзе закурыць, то прыкурваюць ад гэтае цагліны. З гэтым торфам ідуць на сенакос. Перапрасаліся старыя куфры, адкуль выцягвалі дзядоўскія красала, шукалі ў полі крэмень і высякалі агонь. Палатно фарбавалі ў бочках з жалезам.

Людзі варачаліся на стагодзьдзі назад.

На бальшавікоў найбольш крыўда была за тое, што яны толькі бралі, а ўзамен нічога не давалі. Зразумела, не ўзамен таго, што бралі. Падатак, кантрыбуцыя — гэта другое. Гэта бярэцца дзяржаваю на сваю карысьць, без усялякага эквіваленту, але крыўда была на тое,

што і на рэшту вольных сродкаў купіць было нельга. Найперш таму, што няма дзе купіць — няма солі, газы, мануфактуры, абутку, запалак, наогул німа нічога, а па-другое, што і нельга. Была эпоха вайсковага камунізму, купляць-прадаваць было нельга.

Цяпер, калі прыйшлі палякі, зьявілася шмат тавару, праўда, не ўсё, што трэба, але галоўнае было. Палякі прынесьлі з сабою грошы «касьцюшкі» — папяровыя грошы, на якіх быў партрэт Тадэвуша Касьцюшкі. «Касьцюшкі» былі мала мацнейшыя за бальшавіцкія грошы і цана іх няўхільна падала. Апроч «касьцюшак» былі яшчэ грошы, і якіх тады толькі не было грошай — і нямецкія маркі, і керанкі, і царскія, і думскія, і нават час ад часу амэрыканскія даляры. На ўсе гэтыя грошы быў асобы курс і на ўсім гэтым нажываліся спэкулянты ў Менску. У Менску была чорная біржа, дзе спэкулянтам грошы цяклі ў кішэню ракою. <…>

Бальшавікі, адышоўшы да Бярозы, спыніліся, у палякаў сіл было ня надта шмат, і перайсьці за раку яны не змаглі. Што тварылася на другіх франтах, было ў нас невядома. Што будзе далей, так само было невядома. Менскія газэты, якія ў нас чыталіся, увесь час пісалі, што вось-вось бальшавікам будзе канец. Здаецца, увесну 1920 г. праехаў з Савецкай Расіі праз Менск на захад пісьменьнік Меражкоўскі. Урывак з яго рамана быў надрукован у «Минском курьере». Пісьменьнік расказваў пра Расію жудасныя рэчы. Віцкоўцам хацелася, каб бальшавікам быў канец, але заадно хай бы згінулі палякі і пачалося такое жыцьцё, як да вайны. Большага не хацелі.

Але бальшавікі, ведама, не хацелі паміраць. У чэрвені, калі буйна красавала жыта, у нас пайшлі чуткі, што паны прадаюць зямлю разам з жытам па надзвычайна выгадных умовах — зусім танна. Грошай зараз было даволі, але чутак, што хто-небудзь купляе панскую зямлю, не было. Толькі чуткі пра зямлю радзілі новыя чуткі, што, відаць, на фронце ня добра, калі паны прадаюць зямлю, відаць, скора палякам зьбірацца дамоў.

У нас скончылася вучэньне. Мы ўсе вярнуліся дамоў, а зьмен ніякіх не адбылося. Людзі хадзячы цмокалі — можа і кепска, што не купілі хутар у пана — сядзеў бы сабе зараз сам панам. <…>

Палякі адступаюць, ідуць бальшавікі. Палякі шукаюць коней і забіраюць…

Я кідаю плуг у полі, саджуся конна і лагчынаю еду ў лес. Лес — вомшар, але ў ім ёсьць асобныя густыя купкі бярэзьніку, зараз зялёнага, кучаравага. Тут наша ягадная месца. Як памятаю сябе, мы заўсюды хадзілі ў вомшар па ягады. Зараз тут трэба хавацца ад вайны. Што творыцца дома — невядома, але трывога скрозь. У вомшары я не адзін. Праехаўшы крыху ў лес, бачу пару коней, прывязаных да хвойкі, а побач сядзіць гаспадар. За кустамі яшчэ коні, далей коні дзядзькі. Дома з хутароў пазіраюць на дарогу і ў поле — ці няма нечаканых гасьцей. На выпадак трывогі будуць уцякаць адсюль у далейшыя большыя лясы.

Сядзець у лесе аднаму з канём нудна. Увесь час сядзіш напружаны. Трывожна. Нуда проста заядае. Там у полі на сонцы, дзе відаць што-небудзь — лепш. Тут бачыш вакол сябе бярозкі, хвойкі. Крычыць варона. Можа вось зараз падыдзе паляк, дасьць прыкладам і забярэ каня.

Як цяжко жыць на сьвеце: вайна і вайна. Калі-то пачалася яна, як быў яшчэ зусім дзіця, і з таго часу, як памятаю, усё ваююць і ваююць, і няведамо, калі яна скончыцца. А мы павінны працаваць — араць поле, жаць, малаціць, архаваць, а калі зерня пападае ў сьвіран ці яшчэ ляжыць у тарпах, яго трэба здаць.

Мы гадуем коней, даглядаем за жарабём з дня нараджэньня — кормім, чысьцім, любуемся, а як вырастае конь, прыходзіць чалавек з вінтоўкаю, якога мы ніколі ня бачылі і якога, пэўно, ня ўбачым, забірае каня, а пры гэтым яшчэ сьмяецца ці грозіць.

Мы робім упарта, цэлаю сям'ёю цэлымі днямі, мало адчуваючы сьвята, сеем і жнём ізноў жыта, гадуем новых жарабят, але прыходзяць новыя людзі з вінтоўкамі, гранатамі — і забіраюць ізноў. Вайна!

Вайна, калі яна пачыналася, здавалася нечым далёкім, прыгожым і геройскім. Міліёны маладых, вясёлых, прыгожых салдат ішлі на захад, а зараз вайна вось тут, у нас дома. Нічога ў вайне прыгожага няма. Ёсьць грабежніцтва, страх, бізуны. Людзі ходзяць баючыся, аглядаючыся, чакаючы толькі бяды. Я ўзненавідзеў вайну, і ніколі ня было такое вострае нянавісьці да яе, як улетку 1920 г.

У лесе я праседзеў нядоўга. Нехта з старэйшых забраў у мяне каня, я пашоў дадому. Палякі насіліся, як ашалелыя. З Марыполя праз Віцкаўшчыну гналі панскае быдла. За быдлам пацiху ехала брычка, у якой на фэст прывозілі з Менску архіерэя. Паны адусюль перад войскам уцякалі ў Польшчу. Вось чаму так танна прадавалася панская зямля ды і з жытам.

Па гасьцінцы яшчэ мала руху. Наш гасьцінец ідзе з Менску на Негарэлае, Стоўбцы, і па ім заўсёды ішлі асноўныя сілы арміі, але зараз яшчэ, відаць, яны не дакаціліся.

Здаецца, йдзе не армія, а нейкая дзікая навала, якая ўсё крышыць, усё паскудзіць. Усе адступаючы арміі бралі. Але тое, што паказала польская армія ў ліпені 1920 г., перавышала ўсё раней разам узятае. Ішлі гуны, якія мусілі пакінуць пасьля сябе нянавісьць і пустыню. <…>

На Пятра, на пяты дзень адступленьня, стала відаць, што канец блізкі. Ідзе менш, ідуць скарэй. Забягаюць у хату, сьпяшаючыся, рвуць, што пападзе, і далей. Далёка, у баку ад Менска, чуваць страляніна. Пад вечар пачуліся два цяжкія ўдары, адзін за другім: палякі рвалі масты на рацэ Пціч. Яшчэ было невядома, які будзе канец усяго, нехта сказаў, што блізка будзе бой. Трывога ўзрасла.

Сонца садзілася далёка крывава-чырвонае, і стары Рыжэўскі, пхаючы махорку ў сваю люльку, казаў: «Кепска будзе, вунь якое сонца, як у крыві».

Мы ізноў сядзелі далёка ад дому ў кустах. Надыходзіў вечар, пачало цямнець. Далёка ўбаку, на гасьцінцы, былі чутны крыкі і стрэлы. Скора нам сказалі, што палякаў прагналі, прыйшлі бальшавікі. Навучаныя людзі з коньмі засталіся ў лесе чакаць, што будзе далей. Я пайшоў дамоў і, залезшы ў салому, спаў у гумне да ўсходу сонца.

Пасьля ўжо нам перадавалі, што каля Воўчкавіч, дзе жалезная



**Шмат было ў нас зьмен, але такога яшчэ ніхто не бачыў. У людзей аж раты расчыніліся, але гэта на хвіліну. Дык ты, Фэлька, ужо бальшавік, а ўчора, ліха тваей матары, быў палякам!**

дарога ідзе па высокім насыпе, адбылося крушэньне двух цягнікоў. З Менску ішоў адзін цягнік, набіты бежанцамі палякамі, насустрач яму быў з Фаніпаля пушчаны другі, таварны. Машыніст, давёўшы свой паравік ледзьве ня ў лоб сустрэчнаму, скочыў з паравоза. На ўсім хаду трахнуліся абодва паравозы, і абодва цягнікі паляцелі ўніз.

У Грычыне апошніх палякаў-марадзёраў, якія яшчэ ў апошнія часы бегалі па хатах рабаваць, грычанцы перабілі. Некалькіх, казалі, пабілі бабы. Па́ра польскіх жаўнераў было забіта грычанцамі, калі тыя, адстаўшы ад сваіх, хаваліся ў кустах. Адзін прасіўся, стаўшы на калені. Яму прыкладам разьнесьлі чэрап. Бабы разьнесьлі палякаў на кавалкі матыкамі, лапатамі. Гэта не было вынікам асобнай лютасьці грычанскіх баб. Паводзіны палякаў пры адступленьні маглі прывесьці ў злосьць самую ціхую авечку.

Палякі, адыходзячы з Грычына, запалілі мост на нашай рачулцы. Мост гарэў як сьвечка. Першым увайшоў у Грычын кавалерыйскі разьдзел у пяць чалавек.

— Дзе палякі? — закрычалі кавалерысты.

— Вунь за могілкамі, — паказалі ім грычанцы.

Кавалерысты нашпорылі коней і паімчаліся туды.

Палякаў было шмат, але такая ўжо псіхалогія адступаючых, што яны кінуліся ўцякаць. У аднаго коньніка каля мосту забілі каня. Ён выхапіў шаблю і з ёю пабег уперад. Палякі ўцякалі далей.

Назаўтра рана, ідучы ў хату, я адскочыў убок, схаваўся за сьвіран: у нас на двары перад хатаю спалі тры палякі. Адкуль яны ўзяліся? Аднак зараз жа даведваюся, што гэта бальшавікі, толькі апранутыя ў шэра-зялёныя польскія мундзіры.

Бальшавікі скора прачнуліся і аказаліся здаровымі маладымі хлопцамі, апранутымі кожны на свой лад. Адзін быў у ботах, другі ў вялізных салдацкіх чаравіках. У аднаго быў наган, засунуты проста за папругу, у другога збоку вісела доўгая блішчастая польская шабля. Хлопцы былі суровыя. Яны зьелі крыху хлеба з малаком. Пра масла, яйкі, сала тут не было і гутаркі. Селі конна і паехалі.

З самай раніцы па гасьцінцы ішлі і ехалі бальшавікі. Іх спатыкалі з абразамі, цалавалі, несьлі з хат усё, што мелі. Плакалі з радасьці. Гэта ня толькі грычанцы. Багаты Войцік, уласьнік хутара ў 80 дзесяцін зямлі, чытаў бацьку Эвангельля і казаў: «Нявыпала брацьць, бальшавікі — гэта тыя, пра якіх тут пісана. А палякі — гэта злыдні, нячыстая сіла». Калі ў Войціка адрэзалі добры кавалак зямлі, ён погляды зьмяніў. <…>

Неўзабаве перад адыходам палякаў на Востраве быў абрабаваны Дубовік і краўцы, якія ў той час жылі ў яго. Увечары, калі яшчэ добра не сьцямнела, з лесу выйшла кучка людзей і пайшла пагонкаю да хаты. Здалёк не было відаць, хто яны такія, а калі тыя падышлі да дому, то ўцякаць было позна, а ўцякаць было, канешне, трэба, бо госьці былі ў масках, а ведама, якія людзі ходзяць увечары ў масках.

Бандыты скруцілі ўсіх, сьцягнулі ў хату, а самі пачалі гаспадарыць, ператрасаючы хату і складаючы ўсё дабро ў кучу. Каб гаспадары і краўцы гаварылі весялей дзе што ёсьць, ім пачалі падпякаць пяткі і калоць цела, а каб тыя не галасілі пры гэтай опэрацыі, ім заткнулі рот.

Аднак усё прадбачыць нельга і бандытам. Адна дзяўчына выскачыла з вакна, забегла да суседа і падняла гвалт. Народ замітусіўся, дарагія госьці, сьпяшаючыся, не маглі забраць усё, што хацелі.

У нас доўга і ўпарта казалі, што бандыты былі самахвалаўскія жандары і сярод іх Фэлька. Бліжэйшым прыяцелем Фэлькі некалі быў Міхась Шальковіч, віцкоўскі бальшавік. Яно раней, да прыходу палякаў, і Фэлька быў амаль бальшавік, але пасьля зьмяніўся. Міхасю стаць палякам было нельга. Паступова між імі вырасла варожасьць. Зараз, з прыходам бальшавікоў, Міхась спрыяў, а Фэлька зьнік. На яго помсьціліся, і нашы думалі, што ён сышоў з палякамі. Можа, Фэлька быў не такі.

Ужо ў першы ж дзень прыходу бальшавікоў грамада грычанцаў, сярод якіх быў і Міхась, стоячы на вуліцы, убачылі дзіва: па гасьцінцы ехала фурманка, а на возе сядзеў Фэлька. Фэлька быў адзеты чырвонаармейцам, у руках меў вінтоўку, на шапцы зьзяла чырвонаармейская зорка. На возе стаяла кадушка з маслам, ляжалі нейкія клумкі. Фэлька ўжо разжыўся зараз, як чырвонаармеец, наступаў на Варшаву. Глядзячы на натоўп, ён пасьмехваўся: вось які я!

Шмат было ў нас зьмен, але такога яшчэ ніхто не бачыў. У людзей аж раты расчыніліся, але гэта на хвіліну. Дык ты, Фэлька, ужо бальшавік, а ўчора, ліха тваей матары, быў палякам!

Падзеі разгарнуліся хутка. Прыяцель Міхась кінуўся да плоту, вырваў добры кол і гакнуў Фэльку па галаве раз, другі, трэці. Грычанцы памаглі. Праз хвіліну Фэльку з рашчэпленаю галавою, без усякіх адзнакаў жыцьця, выкінулі з фурманкі ў канаву, зброю і масла канфіскавалі.

Аднак праз некалькі часу Фэлька ажыў. Чыясь добрая душа прынесла яму вады. Фэлька выпіў і праскрыпеў, што будзе жыў. У гэты час ехаў па вуліцы коньнік і запытаў у грычанцаў, што гэта за хворы ў канаве. Яму сказалі. Грычанцы, не забіўшы адразу, лічылі, што чалавеку павязло, дык няхай ужо жыве. Міхась тымчасам некуды сышоў.

Пад'ехаўшы да Фэлькі, коньнік сказаў: «А ну падыміся». Той, стогнучы, пачаў станавіцца ракам, у той час коньнік шаблю ўдарыў яго з верху па шыі. Душа Фэлькі паляцела ў канаву. Маці забрала яго, закруціла ў коўдру і схавала не на могілках, але на канцах, за Станішэўскім.

У жыцьці пачынаецца новая эпоха. Бальшавіцкае войска коціцца на захад, на Варшаву. Чырвонаармейцы крычаць: «Даеш, пан, Варшаву!». Армія ідзе дзень і ноч, літаральна ідзе або едзе на фурманках. Чырвонаармейцы ўсе адзеты кепска. Поўны набор абмундзіроўкі мае мала хто. Шмат ідзе басяком ці ў лапцях. Амаль усе без прадуктаў і жывуць тым, што кормяць насельніцтва. Узброены разнастайна, нешта падобнае да чырвонае гвардыі 1918 г., але значна большай па колькасьці. Кожны атрад мае абоз з сялянскіх коней, але дадаткова яшчэ бяруць падводы, каб ісці ўперад і ўперад. Старэйшыя хлопцы зноў ідуць у армію, як у 1915 г. Дома застаемся з мужчын бацька і я. Цяпер я ўжо вырас, стаў амаль паўнацэнным работнікам. Мяне шанавалі ў сям'і. Як малодшаму, мне было менш работы, і нават араць я пачаў у 19 г., хоць брат Паўлік і другія хлопцы хадзілі за плугам у 11–12 год. Ідзе такі араты, і за плугам яго не відаць.

Цяпер найбольшая гаспадарская работа — гэта ехаць у абоз. Штодня, а то і некалькі раз у дзень рыпяць весьнікі — ідзе чырвонаармеец з членам сельсавета. «Хазяін, давай падводу». Ніколі яшчэ не было чаго-небудзь падобнага.

Тых, хто пайшоў у абоз у першыя дні, хто адразу вылез з лесу з коньмі, няма тыдзень, і два, і месяц. Трапіўшы амаль у першую лінію вайны, яны ішлі ды ішлі, пераплылі праз «раку Буху» (Буг) і набліжаліся да Варшавы. Віцкоўцы ледзьве не ўзялі гэты панскі горад, але палякі неяк выцерабіліся.

Да абозу для арміі далучаецца яшчэ бяда: трэба ўрабляць панскія двары. Паны паўцякалі, двары кінулі, забраўшы ўсю жывёлу, папсаваўшы машыны. Сяляне думалі, што як у 1918-м двары раздадуць ім, аднак выйшла інакш. Двары аб'явілі маёмасьцю дзяржавы і назвалі саўхозам, а паколькі там нічога з жывёлы не было, то ўрабляць зямлю давялося нам.

Першыя разы езьдзіў да адыходу ў армію Паўлік, а пасьля сеў на фурманку я, ды так і праезьдзіў да вясны 1921 года…

**Яшчэ больш мемуараў Мікалая Улашчыка — у новых нумарах часопіса «Дзеяслоў». Тэксты друкуюцца ў правапісе арыгінала.**

# Жнеяры мрояў



Антось УЛАСЕНКА

## Цмок над Вільняй, цмок пад Вільняй

Гэта будзе, напэўна, раніцай яснага мая. З далоні Тумаша Крыўца выпадзе пустая шклянка, гучна пракоціцца па маснічынах, і ён прачнецца ў крывавым поце. На вуснах ягоных зайграе ўсмешка. Ён павярне голаў і ўбачыць на падлозе два трактаты Транквіліёна-Стаўравецкага: «Люстра Багаслоўя» ды «Люстра Чарадзейніцтва». І прыгадае сон.

Цемра наперадзе, цемра наўкола. Праваруч — анёльская бытнасць. Серафімы смяюцца і кпяць з мяне, спрабуюць дастаць вогненымі мечамі. Ад анёлаў Сілы аніякае божае даброці; святло, што яны выпраменьваюць, адно прапальвае скуру да мяса. Леваруч — гідкія смуродлівыя д'яблы, цягнуць іклы, кіпцюры ды рогі, каб выдраць маю душу. Правальваюся ўніз у мора агню, дзе ваўтузяцца бязрукія і бязногія целы. Бачу Антыхрыста, але вось ён паварочвае голаў, і я разумею, што гэта сама Смерць. Увадначас ён ёсць і дробным плюгавым старэчам. У падзенні ў нябесным крузе заўважаю цмока, што параскінуў крылы над сусветам. З думкаю «А вось ты дзе, даражэнькі» падаю ў вогненыя плыні.

Тумаш Крывец прачнецца ўва сне.

Вільня ёсць ці не сама хітрамудраю задумай цмока. Больш удала пажартаваць ён бы проста не здолеў. Цэлы горад на ягонай спіне — ад велічнага чэрапа ўсцяж горнага валу хрыбта аж да самага зрагавелага хваста. І стагоддзі віленчукоў, якія разважаюць пра свабодную волю, а самі-ткі выгінаюцца пад кожным цмачыным рухам — тыя стагоддзі для яго не больш за хвілі. Цмок пазяхае і сніць горад на сваёй спіне.

Цераз прастору і час Тумаш Крывец пойдзе віленскімі вулкамі з Пагулянскае студыі. З кнігай у руках. У сваім снусвеце ён гаспадар. Шыльды на будынках па ягонай хадзе пачнуць неўзаметкі мяняцца: Pylimo gatvė зробіцца Завальнай вуліцаю, Pamėnkalnio — Партовай, а Islandijos gatvė пераўтворыцца ў Падвальны завулак. Жмудзінская балбатня сціхне і саступіць месца тутэйшай гаворцы. Тралейбусы і дымлівыя легкавікі зменяцца вазамі, конкамі ды тарадайкамі, колы якіх будуць грукацець па бруканаванцы.

Цмокі Бэль'квініта — ці не адзіная мэта і прычына ўсяго ў кожным з бязмеру сусветаў. Яны ўвасабляюць Прастору і Час, тое, чаго не было і што ніколі не адбудзецца, хоць бы і можа адбыцца. Яны перайтвараюць быццёвыя планы згодна за сваім густам. У нашай рэчаіснасці яны рэдкія госці. Зямныя нябёсы, вядома, не могуць вытрымаць шмат цмокаў. У нашым тут — толькі тры цмокі Бэль'квініта, прычым два з іх не ў нашым цяпер. Адзін гняздуе ў Бабілёнскай вежы. Другі спіць пад Камялотам. Ну а трэці нясе на сябе Вільню. Іхная рэчаіснасць — гэта наш сон.

Падгорная вуліца нарэшце выведзе Крыўца ў Пякелька — Адскі кут. Тут будзе даволі ціха і бязлюдна. Ён разгорне «Люстра Чарадзейніцтва» на шэсцьдзясят трэцяй старонцы і пачне ўслых зачытваць доўгую інкантацыю. Неўзабаве зямля перад ім разыдзецца, адкрыўшы чорные правалле, і для яго пачнецца апошняе сыходжанне.

— Падвышаю на тры. Выбіраю чырвань.

— Ён ужо ідзе. Хутка будзе тут.

— Ці паспеем давесці партыю?

— Вядома. Адказваю на пяць. Сінеча.

— Срэбралюбца?

— Не.

— Распуснік, крыважэр?

— Не.

— Хто ж ён гэткі?

— Тутэйшы. Патрыёт-рэваншыст.

— І з такімі дамаўляліся.

У пекле Тумаш Крывец пабачыць задымленую камору з пашмарганым сталом пасярэдзіне. За сталом сядзецьме старычына Сатана, перад ім будзе стаяць медны чэрап, а ў паветры між імі завіснуць дзіўнага выгляду рознакаляровыя карты. Чэрап шляхетна прадставіць Крыўцу старычыну Сатану.

— Я бачыў цябе. У вогненай Геене.

— Гэта быў сон.

— Сон ува сне.

— Тады ты ведаеш, чым я ёсць. Па што прыйшоў?

— А калі б я прыхапіў іншую кнігу, то пабачыў бы пана Бога?

— Няма аніякага бога. Дык чаго ты хочаш?

— То гэта ты так абышоўся з беларусамі? Ніколі я не верыў байкам, бы Усявышні мог абраць для нас гэткую долю.

— Трыкроць паўтараю: навошта ты прыйшоў?

— Хачу павярнуць нашую Вільню. Адабраць у цмока.

— Гатовы заплаціць цану?

— Табе патрэбна мая душа? Вазьмі наўзамен любую ў віленскіх жмудзінаў, дый сам Vilnius забірай.

— Яны даўно закладзеныя. За Vilnius. І належаць старажытным Багам Багны.

— То ж бяры тады маю. Не шкада. На маё месца прыйдуць іншыя.

— Хай будзе так.

І да сёння невядомая Гаспадыня, што трымае ў левай руцэ нябачны ланцуг, якім скутыя ўсе цмокі Бэль'квініта.

Душа выслізне з Крыўца глыбока пад Адскім кутом і са свістам уцягнецца ў рот меднага чэрапа, а цела Тумаша пачне дрыжэць, трэсціся, мяняць абрысы і форму, твар ягоны стане прытулкам безлічы выразаў, калейдаскопам вусоў, бародаў, рознага колеру вачэй. З крывых вуснаў вырвецца шматгалосы покліч «Мы Рада!», і цела знікне.

Старычына Сатана звернецца да тэрафіма:

— Нядрэнна прыдумана.

Чэрап выплюне залатую пластыну, адхаркнецца ды адкажа голасам Крыўца:

— Так. Але мяне тое больш не датычыць. Партыйку?

Гэта Вільня. Тут няма раней ці пазней, усе поры дня і года трываюць адначасова.

Тумаша-Раду пабачаць у Зарэччы. Там ён заменіць Устаўной граматаю БНР Зарачанскую канстытуцыю. Потым Тумаш-Рада, дзівіцьмуцца мінакі, пачне на розныя галасы размаўляць ці не сам з сабою на плошчы пад анёлам.

— Нарэшце набліжаемся да перамогі, спадарства! — уздыхне Тумаш-Рада-Тарашкевіч.

— Трэба як мага хутчэй выправіць дэлегатаў у Менск, — прапануе Тумаш-Рада-Варонка.

— Мусім кааптаваць у Раду новых сяброў, — прамовіць Тумаш-Рада-Серада.

— Мы не абмежаваныя прасторава-часавым чыннікам, — дадасць Тумаш-Рада-Мамонька.

— Найперш патрэбныя лепшыя беларускія сыны, — заўважыць Тумаш-Рада-Смоліч.

— Рушма на Замкавую гару, панове, — падсумуе Тумаш-Рада-Лёсік. — Будзьма сачыць за дзеямі адтуль.

У майскім небе над Лукішкамі возьме разгон прывідная Пагоня, якую ўзначаліць Кастусь Каліноўскі на белым адзінарозе — апошнім адзінарозе Вялікае Літвы. Пад гукі горна Пагоня скрышыцца за касцёлам святых Якуба і Піліпа; паляцце біць чужынцаў ды здраднікаў.

Гара магілы Гедыміна задрыжыць і разыдзецца, калі з ейных нетраў паўстане Вялікі князь, абуджаны горнамі Пагоні. Магутны волат з мечам і каронаю берагам Вілейкі пойдзе да Свінтарогавых пушчаў, каб абудзіць іншых.

І гады, напэўна, Тумаш Крывец прачнецца.

А старычына Сатана па-ранейшаму будзе перакідвацца з тэрафімам дзіўнымі рознакаляровымі картамі. Часу ў яго багата.

Цмок у паветры адно переваліцца на другі бок і працягне сніць Вільню. Цмока не абхітрыць.

> Вільня ёсць ці не сама хітрамудраю задумай цмока. Больш удала пажартаваць ён бы проста не здолеў. Цэлы горад на ягонай спіне — ад велічнага чэрапа ўсцяж горнага валу хрыбта аж да самага зрагавелага хваста. І стагоддзі віленчукоў, якія разважаюць пра свабодную волю, а самі-ткі выгінаюцца пад кожным цмачыным рухам — тыя стагоддзі для яго не больш за хвілі. Цмок пазяхае і сніць горад на сваёй спіне.

## Жнеяры мрояў

Калі мернаю ступой узыходзім на хісткі насціл, то адразу старыя дошкі пачынаюць рыпець пад ботамі, а мост ходзіць дагары ўніз. Тут і заўважаем русалку. Яна, відавочна спалоханая нашым з'яўленнем, адскоквае ад падножжа апоры, тулавам ажно ўзнімаецца ў паветра ды знікае ў віруючай вадзе, пляскаючы хвастом аб хвалі. Хутка, вядома ж, паразнясе чутку пра нашае прыбыццё па ўсім Зарэччы. Ды ці ж хто калі слухаў русалак?

Хваляванні на вадзе не знікаюць — то падаюць першыя кроплі дажджу, нават не дажджу пакуль, а ягонага прадчування. Але ўсё ідзе на вялікую непагадзь. Гэта нас не турбуе — мусім зрабіць сваю справу ў любое надвор'е.

Ідзем удзевяцёх. Чорныя кірэі, нешырокія нагавіцы, падперазаныя плеценымі паясамі, старэчыя торбы за спінамі, капелюшы — уся вопратка добра падагнаная і прыношаная, выгодная і някідкая. Аніякіх срэбных гузікаў і залачоных кнэблікаў; ані металічных пранізак, спіралек, бляшак ды гаплікаў, нават каўняроў няма. Ідзем здаўна, здалёк. Мы заўсёды ў дарозе.

Леваруч цягнецца глухі мур бернардынскага кляштара, праваруч грукочуць каралеўскія млыны. Бяжыць-ліецца вада, пахне спамолатым зернем, гамоняць наперадзе малыя — чумазыя, хваравітыя. Але нішто гэта нас не цікавіць, не кранаюць ні штодзённыя турботы, ні людская мітусня. Цалкам — думамі, пачуццямі, існаваннем — адданыя мы сваёй мэце. Паспаліты люд на нас быццам і не зважае. Гэтае шэрае гнятлівае месца ёсць прадмесцем галоты і рамеснікаў, тут заўжды патыхае пілаваным дрэвам, рачным глеем, сырымі скурамі і гноем. З комінаў майстэрняў падымаецца атрутны дым.

Скарачаем шлях і занырцоўваем з Млыновай вуліцы пад арку, крочым напрасткі праз двары і дворышчы, паўз мяшчанаў, занятых сваімі справамі, — нас для іх нібы і нямашака. Навошта ж ім бачыць, засяроджваць увагу на страшным і незразумелым — то бок неістотным? Дый хада ў нас лёгкая, нават звер не пачуе. Адно толькі каты сыкаюць ды выгінаюць спіны: ведаюць, хто мы такія. Баяцца.

Дождж пачынае на ўсю моц. Той, што крочыць наперадзе, шумліва ўцягвае паветра, вынюхвае мэту, пакуль макрэча не знесла ўсе пахі, ківае галавой, маўляў, недалёк засталося. Маўчым у адказ: хвалявацьца няма чаго. Мы заўсёды іх знаходзім. Раней ці пазней. Усіх.

...Ён праляжаў у зямлі шмат летаў і нікуды цяпер не падзенецца.

Наперадзе васкабойня. Заходзім у яе з веранды, што глядзіць на ўнутраны двор, праймаем наскрозь і па спарахнелых прыступках з лужынамі на маснічынах спускаемся да створкавых дзвярэй. Выходзім на Зарэчную вуліцу. Тут, нягледзячы на ўлеву, шматлюдна. Але нас натоўп мінае. Справа звіняць званы святога Барталамея. Паварочваем галовы на той звон — касцёлы заўсёды дапамагалі нам у працы і мелі да нас добрую схільнасць.

Падыходзім да гаманкога торгу, за якім дарога раздвойваецца. Мясніцкія рады, купецкія рамесныя ды жыдоўскія крамы — бруд і непатрэбства. Той, наперадзе, паварочвае галаву налева, да Папішак, і замірае; мы гэтаксама адчуваем: там непадалёк Гара магілы Гедыміна. Стары князь — таксама нашая мэта, мы па яго яшчэ вернемся, але не цяпер. Пакуль нам трэба ў іншы бок: Полацкім трактам на Жвіровую гару, да самотнага дуба на самым ейным версе.

Яго пахавалі менавіта тут, па-за касцёльнымі могілкамі, бо хрысціянін з яго быў дрэнны. Падчас набажэнстваў яго бачылі не перад казальніцай, а пад тым самым дубам, дзе ён сядзеў-глядзеў на Вільню, што параскінулася пад ім, ды мроіў у адзіноце. Круціў у руках жалуды і ператвараў іх у маленькія казачныя сусветы з цмокамі, аднарогамі ды гожымі прынцэсамі, тузінамі прыдумляў неймаверныя прыгоды, баяў байкі месяцу і зорам, вярозіў пра тое, што аніколі не адбывалася і не адбудзецца.

...Давялося папрацаваць рыдлёўкамі — карані не хацелі аддаваць ягоныя косткі.

Ён не дзяліўся мроямі ані з кім аніколі, пакідаючы ўсё пад улюбёным дрэвам. А колькі прадзіваў знёс з сабою, колькі ўсяго не паспеў прымроіць, калі стаміўся ад рэчаіснасці і канчаткова сышоў у пазасвет чысцюткае фантазіі?

Але то мы выправім. Няхай хтось назаве нас злодзеямі, гэта будзе ўсяго-ткі крык дурнога зайздросніка. Нашто яму тое? Нябожчыку не патрэбныя мары ані показкі. Памерлы летуценнік што той памерлы цясляр. Ён ужо не здолее выстругаць новыя творы. А жывыя так на іх чакаюць. І мы вяртаем ім іхную чаканку. Дабрадзеі, а не драпежнікі, як сёй-той хоча нас абразіць.

І ці ж не ёсць ён злодзеем — той, што скраў у вас столькі дзівоснага і чароўнага, пакінуўшы вам адно смурод сметнікаў ды бессэнсоўны шэраг аднолькавых дзён у гэтым нудлівым прадмесці?

...І вось ужо чорныя кірэі схіляюцца над белымі косткамі. Наўкол грукоча навальніца, ліе дажджышча, вые вятрыска, — але нас гэта не турбуе, мы робім тое, што патрабуецца.

Скончыўшы з гэтаю часткаю работы, рушым неўзабаве далей; не так лёгка цягнуць на сваім карку ўсё тое, што мы павярнулі. Дыбаем напрасткі коўзкім паўночным схілам да Панамарскага завулку, а па ім да Галандэрскага вуліцы, што брукаванкаю выводзіць нас да Віллі.

Нарэшце дасягаем берага — прыбалочанага, ветранага, хлюпотнага. Чарговы раз прыносім сваю ношу чарговай рацэ, якая панясе яе да сама Балтыйскага мора, дзе магутны Сівер-дзьмухавей падхопіць тыя мары, разарве на шматкі ды паразнясе па ўсім свеце.

Уздыхаем з палёгкаю. Справа зробленая. Але пра адпачынак не ідзецца. Разам паварочваем галовы ўбок Крывога Месца. Там, за покрываю залевы, ляжыць-чакае той, хто аднойчы прымроіў велізманага жалезнага ваўка да з часцінак лятункаў склаў найладнейшы ў свеце горад.

...Мы заўсёды ў дарозе.



# Вяртанне

Васіль ДЭБІШ

***Я зразумеў, чаму распялі***
***Хрыста... Ён паэтам быў.***
***Анатоль Дэбіш***

***Дзейныя асобы:*** *паэт, д'ябал*

***Паэт*** *(сам сабе)*
*Такая ноч. А зорак — што мякіны.*
*Блукаю па зямлі я шмат гадоў.*
*Даўным-даўно Радзіму я пакінуў,*
*А шчасця на чужыне не знайшоў.*
*Не радуе душу краса чужая,*
*Прайшоў і Крым, і Рым, і знаю я:*
*Няма мілей Радзімы, хай малая,*
*Хай бедная яна, але свая.*

***Д'ябал*** *(з'яўляецца неспадзявана)*
*Вітанне! Вас спаткаць якраз ахвочы.*
*Патрэбная, гляджу, вам дапамога.*
*Карчма далёка. Нам шчэ доўга крочыць.*
*Ды калі ўдвух, то весялей дарога.*

***Паэт***
*Вы хто, адкуль?*

***Д'ябал***
*Мо лепей вам не знаць,*
*Бо пра мяне ідзе дурная слава, —*
*Што душы я «прызначаны» купляць*
*Гаротныя, каб іх у пекла «сплавіць».*

***Паэт***
*Ты — д'ябал. Так, я пазнаю цябе.*
*Не раз ты да мяне ў часіны суму*
*Прыходзіў. І калі душа ў журбе*
*Сціскалася, пра непазбежнасць думаць*
*Мяне ты прымушаў.*

***Д'ябал***
*Мая віна?*
*У чым, скажы? За ўсіх гатовы сведчыць:*
*Жыццё — дурман, ілюзія, мана.*
*Свет у граху пагразнуў чалавечым.*
*У чым жа вінаваты я, паэт?*
*Што даў калісьці людзям плод пазнання*
*І музыкай напоўніў гэты свет,*
*І слодычу граху, святла, кахання?*
*Што вочы вам на рэчы я адкрыў?..*
*За гэта з Раю выгнаны я быў.*

***Паэт***
*Замоўкні. Згінь. Я слухаць не хачу.*

***Д'ябал***
*Баішся праўды ты, ці мне здаецца?*
*Душу прадай, я золатам плачу.*
*Чырвонцамі...*

***Паэт***
*Душа не прадаецца.*

***Д'ябал***
*У гэтым свеце прадаецца ўсё:*
*Маёмасць, і пасады, і газеты,*
*Жыццё, здароўе, бестурботны сон,*
*Віно, і прастытуткі, і паэты.*

***Паэт***
*Прыдворныя паэты. Я ж пяю*
*Пра свой народ, пра волю, пра Айчыну.*

***Д'ябал***
*Пра волю, ты гаворыш, а чыю?*
*Пустыя словы. Дым, туман нічыйны.*
*Яе і не было зусім ніколі.*

***Паэт***
*Без волі і не варта нават жыць.*

***Д'ябал***
*Не варта жыць? Навошта людзям воля?*
*Што з ёй рабіць, куды падзець, скажы?*
*Ну вось зруйнуеш турмы і астрогі,*
*Яны ж пачнуць саміх сябе караць,*
*Даць людзям волю, як пятлю ім даць.*

***Паэт***
*З няволі не народзіцца нічога.*
*Высокі, недасяжны — Духу ўзлёт.*

***Д'ябал***
*Пакуль абернецца ярмом на шыі?*

***Паэт***
*Ну а народ?*

***Д'ябал*** *(здзекліва)*
*Ды дзе ён, твой народ?*
*Куды ні глянь — сляпыя і глухія.*

***Паэт***
*Пакуль сляпы ён, бо вакол турма.*
*Ды прыйдзе час, калі прачнуцца людзі.*

***Д'ябал***
*Што твой народ, калі асоб няма.*
*Мільён нулёў адзінкаю не будзе.*
*Нікчэмныя кузуркі, цёмны край...*

***Паэт***
*Але таму, што светам не пазнаны.*
*Да быдла ўсіх прыпісваць пачакай.*
*Народ — нішто, пакуль ён раз'яднаны.*
*А з'едніцца....*

***Д'ябал***
*Наіўны ты, паэт:*
*Было і будзе так да скону веку.*
*Народ не перайначыш, як і свет.*
*Ты перайнач часцінку — чалавека.*
*Я ведаю даўно яго нутро:*
*Падманлівае і наскрозь гнілое.*
*Што чалавек? Што чалавечы род? —*
*Чарвяк, што точыць дрэва пад карою.*
*Маленькі чарвячок, не больш таго.*
*Яму не воля трэба, а ляйчына.*

***Паэт***
*Тады чаму баішся ты яго?*
*Баішся. Знаю. Мо таму прычына,*
*Што духам недасяжны ён...*

***Д'ябал***
*Чарвяк!*

***Паэт***
*Усё, што бачна тут, стварылі людзі.*

***Д'ябал*** *(здзекліва)*
*Атрутную салітру, аміяк?..*
*Народжаны сляпым, сляпым і будзе.*
*Бізун і меч...*

***Паэт***
*Спагада і дабро.*
*Дзіцяці, і жанчыне, і мужчыне*
*Любоў патрэбная, а не прымусу лёд.*
*Служыць сваёй жадаю я Айчыне,*
*Сваёй зямлі. Люблю я свой народ.*

***Д'ябал*** *(здзекліва)*
*І без яго няблага можна жыць.*
*Народ ён любіць! Як хваробу хворы...*
*За што, за што, скажы, яго любіць?*
*За немач, за халуйства, за пакору?*

***Паэт***
*За што сваю матулю любіць сын,*
*Які яе яшчэ ў дзяцінстве страціў*
*І век правёў у пошуках адзін.*
*За тое, што яна, напэўна, маці.*

***Д'ябал*** *(здзекліва)*
*Ці мачаха?.. Твой свет пусты — ён з мар.*
*Сапраўдны свет быць мараю не можа.*
*Глядзі, мой верны служка — валадар,*
*Як ён жыве раскошна і прыгожа!*
*Не ведае ні гора, ні бяды.*
*Брывом ён толькі павядзе, і нізка*
*Паклоны б'юць стары і малады,*
*І люд сярмяжны, і паны-міністры.*
*І каб, крый чорт, не пахіснуўся трон.*
*Быць «добранькім» і быць*
*тыранам здатны*
*Бязлітасным, бо нават жонку ён*
*Зусім нядаўна кінуў у вар'ятню.*

***Паэт***
*Ён сам — вар'ят. Не дзенецца нідзе,*
*Дыктатарскія рушацца асновы.*
*Куды, куды народ ён свой вядзе? —*
*Ні котлішчаў дзядоў, ні роднай мовы.*
*Ды ёсць мяжа ўсяму...*

***Д'ябал***
*Няма мяжы.*
*Яму і ноччу ў небе сонца свеціць.*
*Улада, грошы, слава — варта жыць*
*Для радасцяў зямных на гэтым свеце.*
*Ты паслужы мне...*

***Паэт***
*Цемры не служу.*
*З табою на хаўрус не дам я згоды.*
*Служыць гатовы,існа я кажу,*
*Ды толькі не табе — свайму народу.*

***Д'ябал*** *(здзекліва)*
*Народ, народ... Пусты халодны звон,*
*Натужны крык галоднае вароны.*
*Змяніць не можа анічога ён.*
*Пануе валадар. Яго законы.*
*А слова ўладара — і ёсць закон.*

***Паэт***
*Шчэ спіць народ. Глыбокі гэты сон,*
*Ды веру, што з каленяў ён устане,*
*І будзе гэта бура, а не звон!*

***Д'ябал***
*Было. Касцюшкі смелае паўстанне...*
*І Каліноўскага. Ды чым яно тады*
*Закончылася?.. Шыбенічным балем.*
*Паўстанні ўсе — дарога на клады...*
*Адныя — фанатычна іх стваралі,*
*Другія — пажыналі іх плады.*
*Усе мне падуладныя яны...*

***Паэт***
*Даверлівы народ.*

***Д'ябал***
*Народ — дурны.*

***Паэт***
*Ён не вар'ят, хаця і цяжка хворы.*

***Д'ябал*** *(здзекліва)*
*Марыянеткаю ў руках актора,*
*Які за ніткі тузаць мае дар.*
*Народ ты падзялі — і валадар.*
*Ці пасвары....*

***Паэт*** *(іранічна)*
*Спадціху, пакрыёма?*

***Д'ябал***
*Для гэтага ёсць тысячы прыёмаў:*
*Аднаму рай зямны паабяцай,*
*Уладу і шыкоўны дом — другому,*
*Упарціцца хто надта — задушы.*
*Кагось купі, кагось на пыл скрышы.*

***Паэт***
*Дыктатару няма,*
*няма даверу,*
*Калі ён звер...*

***Д'ябал***
*Яшчэ страшнейшага прыдумай звера.*
*Паміж людзьмі нянавісці зярняты*
*Пасей, і ўродзіць ураджай багаты.*

***Паэт***
*Любоў і Вера! Жменька махляроў —*
*Шчэ не народ зусім і не Айчына.*
*Я веру, пераможа ўсё ж дабро!*

***Д'ябал***
*Дабро? Ды гэта проста немагчыма.*
*Нібыта крылы — так дабро і зло:*
*Адно падбі — не ўзнімецца другое.*
*Дабро без зла, як без агню святло,*
*Як неба без шулепніка пустое.*
*І з кожным днём шырэюць рэкі слёз,*
*І новых нараджае свет тыранаў,*
*І Юдаў новых...*

***Паэт***
*Але ёсць Хрыстос,*
*За людства на крыжы раскрыжаваны!*

***Д'ябал***
*А што Хрыстос? Паслухаеш цябе:*
*Служыў ён людзям і служыў Айчыне,*
*І Богу нейкаму, а ў рэшце рэшт — сабе...*
*Не верыць хто — няхай той камень кіне.*

***Паэт***
*Я кіну камень. Сцверджу існасць вам:*
*Хрыстос паэтам быў, ён быў — паэтам,*
*І жыватворны крыж ён выбраў сам...*

***Д'ябал***
*Узвысіцца хацеў ён па-над светам.*
*Вышэй валадара ён быць хацеў.*
*Дзе ён цяпер?*
*(Нейкую хвіліну пільна пазірае на паэта,*
*раптам мяняецца ў твары.)*

***Паэт*** *(ён жа Хрыстос)*
*Я думаў, не прызнаеш.*
*Прызнаў мяне?.. Калоцішся, збялеў...*
*Прапаў я, думаў, назаўсёды дзесьці?*
*Ды я не знік, не згінуў назаўжды,*
*Вярнуўся я, каб слова праўды несці,*
*Любові вырасціць вакол сады.*

***Д'ябал*** *(злосна)*
*Сады любові?*
*Ці не памутніўся*
*Твой розум? Ад жыцця стаміўся ты?*
*Свет і на ёту нават не змяніўся.*
*(Здзекліва.) Вось твой народ,*
*(паказвае на ссохлы сад)*
*Ён, гэты, сад пусты,*
*Квітнець які ніколі ўжо не будзе.*
*Паўсюль, паўсюль развалу тут сляды,*
*Пасля сябе пакінулі іх людзі.*

***Паэт***
*Мінуць часіны смутку і жуды,*
*Свет ажыве, як і людскія душы.*
*Я пасаджу тут новыя сады,*
*І дзе сцяною паўставалі крушні,*
*Сад новы заквітнее, малады.*

***Д'ябал*** *(злосна)*
*Свет памяняць не зможаш ты адзін.*
*Хадзем са мной.*

***Паэт***
*Святлу не перастану*
*Служыць, як і служыў я. Прэч ідзі*
*Ты ў свой сусвет халоднага туману,*
*Пануе дзе адвечнай смерці тло.*
*Ты сееш морак, я нясу — святло:*

***Д'ябал*** *(здзекліва)*
*Святло нясе ў торбіне? Што за ноша?*
*Улада, слава — вось што грэе кроў.*
*Было і будзе так спакон вякоў:*
*Кіруюць тым і гэтым светам — грошы!..*
*(Раптоўна знікае, як і з'явіўся.)*

***Паэт*** *(сам сабе)*
*Тытаны, фараоны, каралі —*
*Ад іх застаўся толькі пыл, не болей.*
*Каштоўнасці існуюць на зямлі*
*Спрадвечныя: народ, Радзіма, воля.*

# Альбер, Чорт і Незвычайная Жанчына

## З кароткай аповесці пра яшчэ карацейшае шчасце



Ігар СІДАРУК

Калі галоўны рэдактар часопіса «Мужчынская годнасьць» (у дужках самавітым ангельскім курсівам было пазначана «Advantage-Men») агульным накладам у сорак пяць асобнікаў паказаў Альберу Храптовічу на дзверы, яму нічога не заставалася рабіць, як пайсці ў краму, узяць чатыры бутэлькі гарэлкі ды надрацца.

Самому. Без усялякае кампаніі й закускі. Закуска, праўда, такая-сякая была. Класічны плаўлены сырок і 200 гэ варанае малочнае каўбасы. З акрайцам хлеба. Ото, пад канец другое пляшачкі (дзве закаркаваныя стаялі адзінокімі генеральскімі дзеючкамі ўбаку ды чакалі свайго часу) гэты акрайчык з апошнім адрэзаным колцам каўбаскі выглядалі на сапраўднае баляванне!..

І Альбер — баляваў! У самотным інтэрнатаўскім пакойчыку, цяперашнім сціплым ягоным прыстанку. Наліўшы ды зноў чокнуўшыся са сваім адбіткам у люстэрку, ён раптам адчуў гарачыню. Захацелася распрануцца. Што Альбер не марудзячы і пачаў рабіць. Пры гэтым не забываў наліваць сабе яшчэ, чокацца, праклінаць свой гарчычны і бздурны лёс, скрыгатаць ды пляваць у люстэрка, клясці й рэдактара часопіса «Advantage-Men»-а, і згрызеныя свае пазногці, і сучасную эканамічна-палітычную сітуацыю, і сваю амаль што былую жонку Гунэту, і перасолены боршч, які ён еў апошні й канчальны, зараза!.., раз, калі ўчора забег да яе за сціплым вузельчыкам сабранае ім самім ніжняй бялізны.

І вось, калі ён, ужо ў цяперашні міг, застаўся перад люстэркам без ніжняй бялізны, яму раптам прыйшоў у голаў шчаслівы імпульс зняць самога сябе на відэа. Голага... Як мог, п'янымі рукамі намацаў мабілу, знайшоў там патрэбныя кнопкі-пімпулечкі ды пачаў здымаць...

Альбер пацягнуўся да трэцяе пляшкі і, не шукаючы болей шклянкі, добра пальнуў гарачае «слязы» адразу з рыльца. Сцяўся, скрывіўся ды пачаў вадзіць пальцам па ўласным пузе...

Раптам яму падалося, што ў люстэрку нешта правалілася, адкрылася чорная дзюрка..., і нібы цяпер ляцеў туды сам.., голы і непрыгожы.

—Як?! Хто?!! — вырачыў вочы ў люстэрка Альбер. — Ты?!.. Безадмоўны касманаўт мальдыйскае гільдыі?! А ну, падстаўляй... свой пускальны... запускальны!.. Зараз!.. зараз, дзядзечка, мы з табой!.. о-о, у такія палёты! У галяктыку!.. Мылаварня нумар Чатыры!.. Закурыш?!.

Альбер пацягнуўся да пачку цыгарэт, што выпаў з кішэні, калі ён сцягваў з сябе штаны, выдзер адтуль адну цыгарэціну, здолеў неяк прыпаліць.

І тут, спачатку ў люстэрку, а потым і наяве перад азызлым, размазаным, страшным тварам Альбера — нарысаваўся... чорт! (Можа быць, гэта быў і не чорт, а нават сам д'ябал?!. Але, у тым стане, да якога дайшоў у трызненні былы журналіст Альбер, адрозніць першага ад другога яму не выпадала аніякае рэальнае магчымасці).

—Ты хто?!

—Не бачыш? Сам!.. — чорт выхапіў цыгарэту Альбера, смачна, працягла зацягнуўся.

—А-а!.. Значыць, і праўда!.. Ля-а-а-а-цім!!! — аднак дабегчы да вакна, каб адправіцца ў той самы меркаваны палёт з трэцяга паверху ў галактыку Мылаварня №4, Альбер не паспеў. Бо чорт гэтак жа хвацка, як і хвілю таму цыгарэту, выхапіў самазванага кандыдата ў касманаўты мальдыйскае гільдыі з праёма вакна ды з усяго размаху, шчыра і не шкадуючы трэснуў яму рогам у лабэшню.

— А-а!.. За што?!

— Ага! Ачуньваеш? Добра!.. — Чорт падхапіў Альбера, бы недарэчную ляльку пад пашкі, і павалок у душ. Там, крутануўшы рукаявітку халоднае вады, паставіў абапітага журналіста пад такі ж халодны, нават ледзяны струмень, не даючы яму вырвацца са сваіх учэпістых лапаў. Пры гэтым рагаты раз-пораз даваў кухталя Альберу пад бок. Апошні гвакаў, гекаў, пускаў чырвона-зялёныя соплі, аднак — паступова-такі цверазеў.

На ўсю сваю радыкальную і даволі жорсткую працэдуру чорту хапіла трынаццаць хвілінаў. Дзіўна было б, каб ён патраціў на тое больш ці, наадварот, менш.

— Ну, і як ты? — спытаў ён для кантролю ў мокрага, дрыжачага Альбера, калі перакрыў ваду.

— Н-намальна... Нармальна! — так-сяк авалодваў чалавечаю моваю той.

— Ага! — рагаты зноў павалок Альбера. Гэтым разам — наадварот: з залітага вадою душа ў пакой, дзе яшчэ нядаўна баляваў п'яны журналіст. — Ну то, давай! — кінуў яму чорт сціплае адзенне.

А потым, паназіраўшы, як няўклюдна апранаецца ягоны ўратаванец, спытаў:

— І чаго п'еш? З якога гора?

— Ды ні з якага...

— Ілжэш, дзядзька. Дарма... Ні з якага — так не п'юць.

І тут канчальна цвярозая хваля накрыла Альбера. Ён утапопіўся ў чартоўскі лыч:

— А... дык хто ты?!

— Ты ж бачыш. Не хвалюйся, гэта не белая агнёвачка. Ты ўжо цверазенькі.

— Тады... чаго раптам, і ты?!.. Тут?!.

— А я заўжды тут. Толькі не ўсе бачаць.

— Ну, філосаф!..

— Так, і гэта ёсць. Люблю... Ладна! Калі не баішся, дапамагчы хачу.

— А... чаго мне баяцца?

— Ну ці мала... Шмат хто баіцца, нібы душу забяру.

Чорт рассмяяўся. Альбера перасмыкнула:

— Не забярэш?

— Не!.. Хіба сам пра тое папросіш.

— Дык чаго ты ад мяне хочаш?

— Я? Не, Альбер мой харошы, гэта ты хочаш! Ёсць у цябе запаветная мара?

— Якая яшчэ... запаветная?..

— Ну такая. — Чорт уладкаваўся на краечку стаўца да пакруціў то рукою, ці то капытом у паветры, нібы складваючы адмысловы кукіш.

Толькі цяпер да Альбера дайшло, што рагаты назваў яго па імю. Але гэта яго не ўразіла. Болей уразіла іншае: што запаветная мара так нечакана можа асацыявацца з кукішам...

— А... нальеш? — з надзеяй падаўся Альбер да чорта. Той, аднак, рашуча адсунуў недапітыя пляшкі. — Ладна!.. Мара мая... А... Не ведаю. Няма ў мяне ніякае мары!

— Так не бывае. Ты ж не труп...

— Адкуль табе ведаць, труп ці не труп? — тут Альбер гаротна склаў рукі, хістануўся на стаўцы насупраць.

— Гарэлку бы лысы чорт лыкаеш. Значыць, не труп.

— Ты мяне ў сваю кампанію не пішы! Чалавек я.

— Ага, бачу, калі голым у акно скачаш.

— Э!.. Э!.. — але перад тым, як адкрыць перад чортам сваю запаветную мару, Альбер адчуў, што няёмка звяртацца да такога вось нечаканага візаната ніяк: ні па імю, ні па званні... — А... цябе як зваць?

— Заві Мефіямам. Калі складана, дык і на Фімку крыўдаваць не буду.

— Фімка? Чорт Фімка? А Мефіям — відаць, ад Мефістофеля?.. Ну то слухай, Мефіям!.. Я хачу, каб была... каб побач са мною... такая!.. такая, эх, братка!.. О-о, ну як я табе апішу, якая?! Знаю адно: яна павінна быць... ну проста незвычайнаю!

— Усё ясна. — Чорт перакінуў нагу за нагу, загасіў ў бляшанцы-накрыўцы недапалак. — Жанчына — гэта святое... А што ж твая Гэня?.. — чорт зноў пакруціў у паветры адной канечнасцю, і зноў Альберу падалося, што ён рысуе адмысловы кукіш.

— Што — Гэня? — не зразумеў чартоўскі кіпік Альбер.

— Ну, ты ж калісьці не дарма ўпадабаў яе. Відаць, на руках першым часам насіў, пра шчасце марыў. Ці не так?

— Можа, і так. Толькі... не адчуваецца таго шчасця. Нейкая яна...

— Звычайная, як і ўсе?

— Ага! Я вось артыкулы пішу... пісаў! ...у «Advantage-Men», і ўсё мне было, і ўсяго мне хапала. А чаго не хапала... Дык каб іншым разам, няхай не часта!.. якім толькі вечарам!.. прайсціся з абранніцай сваёй у парк гарадскі... і, мож, упасці там, правалiцца з ёю ў восеньскую лістоту!.. у пахнотную шархотную кучу!.. — а потым гаварыць ёй самыя простыя і цёплыя словы, такія словы, якія можа сказаць толькі закаханы мужчына сваёй жанчыне ці наадварот... І потым — проста ў гэтае кучы — заняцца сэксам, мілавацца, кахацца!.. кахацца так, каб усе дрэвы, усе аблачочкі дзівіліся і зайдросцілі!

— Няблага. А ты ёй прапаноўваў?

— Каму? Гэньцы? Ты што! Ёй гэты рамантычны паэтызм — да вялікае дупы!

— Такі да вялікае?

— Ну я не ведаю, да вялікае ці да малое!.. Ёй, як звычайна, грошы харошыя, ганарары... Хоць і неблагія ў мяне былі ганарары! Была ў нас машына, «гольфік» другой мадэлі. Не, замалая, не надта наваротная!.. Давай, Альберка, паднажмі, падцісні, на Міцубісі-Паджэра збярэш!

— Міцубісі-Паджэра — харошая машына.

— Можа, і харошая! Толькі мне, асабіста мне, — навошта?! Усе гэтыя машынкі, крынкі, дрынчыкі, кілімчыкі, малінерыя, камбайнэрыя!.. Адчуванне шчасця не даюць, разумееш ты, рагаты мой Фіміям?!

— Мефіям... Адчаго ж не даюць? Нармальнае чалавечае шчасце...

— Таму што — не маё! Таму што — у скулу ўсе гэтыя грошы і дабрабыт! Эх, каб я ведаў, што ўсё гэтак з Гэнькай у мяне будзе!..

— Лічы, ужо і не твая... — пасміхнуўся чорт.

— Не мая! Таму што — без работы, без грошай — я ёй сто год не патрэбны.

Мефіям пасунуўся бліжэй да Альбера:

— Вось і глядзі! Першая твая супярэчнасць. Ты не хочаш жыць са звычайнай жанчынай, бо грошы і дабрабыт не даюць табе адчування сапраўднага шчасця. А без грошай — ужо ты сам гэтай звычайнай жанчыне — ні пад якім соўсам не патрэбны. А яшчэ пра незвычайнае марыш...

— Ды не мару я ні пра што! — усё яшчэ неабсохлы Альбер падскочыў са стаўца. — Гэта так, вада лірычная...

— Сядзь! — паказаў на ставец Мефіям, і Альбер зноў сеў. — А другая твая супярэчнасць: ты думаеш, будзеш шчаслівы з незвычайнай жанчынай?.. А як ты знойдзеш яе, калі грошай не маеш? Сённяшняя жанчына — яна любая: добра апранацца і смачна есці захоча.

Альбер зноў падскочыў. І зноў Мефіям асадзіў яго:

— Яшчэ не закончыў! Я сказаў, што дапамагу, значыць, дапамагу!

Альбер крыва пасміхнуўся:

— Як ты мне дапаможаш? Чым?..

— Грошай дам. Дзе жанчыны — там грошы. Гэта закон. Тысячы баксаў хопіць?

— Тысячы?.. — але тут былы журналіст матлянуў галавой. — І ўсё ж, не разумею! Асабіста табе — навошта гэта?!.

— Паўтараю яшчэ раз: хачу дапамагчы.

— І табе сапраўды ад мяне нічога не трэба?

— Толькі падзяка. Твая чалавечая шчырая падзяка.

— І ўсё?..

— І ўсё. Проста, братка, хачу паспаборнічаць з Богам. Таму што, калі дзякуюць Богу, — гэта адно, і гэта нібы так і належыць. Традыцыя!.. А вось калі дзякуюць чорту... Гэта ўжо іншая справа, братка! Карацей, тады чорту — кайф, а Госпаду — фіга!!

— Мефіям паплыў ва ўсмешцы, аднак адразу вярнуўся да рэчаіснасці: — Дык што? Хопіць тысячы?

— Тысячы?.. — усё ніяк не мог годна ацаніць сітуацыю Альбер. — Ды хопіць, бадай... А...

— Што «а»? Жанчыны? — Чорт узняўся з утульнага свайго стаўца. — Жанчыны — гэта ўжо твой шанец! Тут я не ўмешваюся. Што знойдзеш — тваё!

Болей Альбер задаць сваіх пытанняў не паспеў. Бо ў пакоі засмярдзела класічным пахам гарэлае поўсці, збітых капытоў ды серы, і чорт Мефіям... знік.

На стале ляжалі невялікім россыпам роўна дзесяць купюраў — кожная вартасцю ў 100 сапраўдных амерыканскіх даляраў.

Восень сыпала прыгаршчы лісцяў пад ногі, вецер халадната дыхаў у твар, а рэальнасць вяла Альбера... у бліжэйшую безалкагольную кавярню «Ласуха» — паколькі ён адчуваў, што з алкаголем яму сёння лепей ужо не кантачыць...

Не паспеў Храптовіч пацягнуць на сябе дзверы, як недзе з-пад акварыуму ў кутку яго апякло такім паглядам, якім не пяклі нават чортавы зрэнкі. Так, на Альбера глядзела жанчына. Такая жанчына, што...

— Да вас можна? — аблізаў з нейкай прычыны адразу трэснутыя вусны Альбер, калі вырашыў сесці побач.

— Можна, месцаў хапае, — прыязна адказала яна. Аднак крыху пасунулася ў куточак.

Альбер сеў. Насупраць жанчыны, ледзь не паставіўшы свой смародзінавы кактэйль, які ён чамусьці заказаў у апошні момант замест шакаладнага марозіва, міма стала. Аднак утрымаў, хоць потым да яго амаль не дакрануўся...

— Вы адна? — не знайшоў іншага пытання Альбер, разглядваючы твар жанчыны і ўсё,

што ніжэй. Ніжэй былі крыху танкаватая шыя, дзве выразна акрэсленыя ключыцы, а таксама даволі прыгожыя, канкрэтна напятыя грудзі пад сціплай блакітнаю блузкаю, а яшчэ ніжэй… Урэшце, не мог жа ён зазірнуць пад столік, каб годна ацаніць ейныя клубы, ногі і ўсё, што там ніжэй павінна быць. Таму гэтую пачэсную мужчынскую місію пакінуў сабе на потым.

А на твары жанчыны чыталіся прыгожая думка, інтэлект, выхаванне, зацікаўленасць да субяседніка.

—Як бачыце, адна, — пасміхнулася яна на недарэчнае пытанне Альбера. — А вы?

—І я…

—Значыць, будзем сёння разам.

Тут Альбер зразумеў, што можна і панахабнічаць.

— Як доўга?

Жанчына аглядзела Альбера.

—Вось так адразу?!.

—Ну… — Альбер крыху млеў, і жанчына гэта заўважыла. — А як вам хацелася б?

—Ведаеце, з чалавекам можна і доўга быць. Але спачатку трэба хоць крыху ў душу адзін аднаму зазірнуць…

Кранаючы шклянку з кактэйлем, ён зноў ледзь не пракуліў яе. Аднак утрымаў:

—Зазірайце! — Храптовіч ужо і сам не ведаў, што плёў. Усё плыло…

— Хм!.. — пасміхнулася яна. — А вы не такі ўжо і скромнік.

Альбер маўчаў. Адно зноў аблізнуў свае трэснутыя вусны. Здаецца, яна не заўважыла…

— Ладна!.. Проста я ніколі такім чынам не знаёмілася з мужчынамі: у кавярні, сярод дня!..

— Значыць, будзем! Альбер мяне завуць. Я журналіст…

— А я — банкаўскі служачы. Або, калі казаць проста, звычайны клерк… Рэгіна, — працягнула яна сваю руку з прыгожымі і з такімі ж акуратнымі, як і грудкі, пальчыкамі.

— Вельмі прыемна…

І яны пачалі сустракацца.

І з кожным днём Альбер пераконваўся, што ён нарэшце знайшоў сваю Незвычайную Жанчыну! З ёю было цікава, яна шмат ведала, яна захаплялася яго розумам і інтэлектам! А галоўнае, нічога ад яго не патрабавала і не хацела!..

— Ну што? — спытаў наступнае раніцы ў Альбера чорт, калі той прачнуўся.

— Як ты сюды ўвайшоў? — спачатку хацеў здзівіцца Храптовіч, але толькі сустрэў нахабную ўсмешку Фімкі.

— Знайшоў сваю незвычайную?..

— А!.. — скрывіўся Альбер. — Спачатку думаў, што так!.. А потым… — пацягнуўся ён да штанулендыяў, якія халасцяцкім жмутам ляжалі на фатэлі

— А потым яна цябе забалбатала, затрынькадохала ды задрала.

— Ды колькі можна! Планеты, медытацыі, менуэты!..

— Ладна! Што называецца, аб'еўся высокай культураю, — пстрыкнуў чорт сваімі пальцамі. — Колькі грошай засталося?

— Грошай? Ну, баксаў сямсот… сямсот пяцьдзесят.

— Яшчэ сума. З ёю табе ў званы біць рана.

— У якія званы?..

— Гэта я так, вобразна. Ладна, Альбер, пайшоў я! Як знойдзеш сваю эНЖэ — дай знаць: цікава будзе паглядзець. Ну і «дзякуй» тваё мо пачую.

— Якую энжэ?

— Незвычайную Жанчыну. Скарочана.

— А!.. А… як я цябе знайду? Ці сам прыйдзеш?

— А во табе свісток. Калі ўсё ў цябе будзе, і захочаш пабачыць — дзьмухні! Я тады і з'яўлюся…

Першае, што зрабіў Альбер, калі застаўся адзін — гэта з сілаю дзьмухнуў у чортаў свісток.

— Ну і як?

— Што — як? — спытаў ён чорта, калі той нарысаваўся побач. Хоць выдатна разумеў, куды той гне.

— Твая новая жанчына?

— Блін! Дастала!..

— Няўжо такое каханне?! Што ж, віншую!

— Якое каханне?!. За-тра-ха-ла!!! — па складах зрок Храптовіч.

— Хм!.. — пасміхнуўся Фімка. — У наш цяперашні час не кожная й зможа. Чаго панік? То ж і праўда — супер-незвычайшына і шчасце! Любы захоча.

— Яшчэ б!

— Дык гані яе к чорту!

— Ужо…

— Колькі грошай прасраў гэтым разам?

Альбер уздрыгнуў, наморшчыў лоб:

— Многа… Яна ж! Рэстарацыі, парфумы, саўны… Зараз гляну… — Альбер пацягнуўся за партманеткай. — Пяць…

— Што — пяць?

— Пяць баксаў. У мяне засталося пяць баксаў!

— Крута! І што будзеш рабіць?

— Што рабіць?! Усё, конча! Буду канчаць… з жанчынамі сваімі незвычайнымі. Болей няма для мяне такой! Сам казаў: на добрую жанчыну добрыя грошы трэба.

— Я казаў?

— А хто? Калі грошы даваў. Так і сказаў: «Дзе жанчыны — там грошы. Закон!»

— Можа і закон. — Чорт разглядваў зажуранага Храптовіча. — Да жонкі вернешся?

— Да Гэнькі? Ну, не! Як-небудзь… На працу пайду. Пражыву…

— А мара?

Альбер на момант задумаўся.

— У… дупу яе! — адрэзаў.

— Альбер!.. — пачулася блізка, амаль над вухам.

— А?!. — не адразу зразумеў спрасонку Храптовіч. А калі прачнуўся, калі спахапіўся ды вырачыў вочы, забыўся на ўсё, што снілася.

Яшчэ падалося, нібы зноў засмярдзела нечым знаёмым, але ўвагу адцягнула нешта цёмнае і важкае на падлозе. Альбер утаропіўся ў гэтае нешта, пакуль не зразумеў, што перад ім ляжыць стары ды зацёрты кілім.

Храптовіч узняўся з канапы, ступіў колькі крокаў бліжэй. Дакрануўся спачатку нагою, потым прысеў, пачаў раскатваць тоўстую тканіну. А калі раскатаў, калі раскрыў…

Тое, што вырвалася з ягоных грудзей, — нельга назваць ні крыкам, ні енкам, ні хрыпам. Глыбінна-нечалавечы, жахліва-містычны, страшэнны гук разарваў ягоныя грудзі. На падлозе, на старым, ірваным кіліме ляжала…

Урэшце, невядома, хто ляжаў перад ім. Гэта быў труп жанчыны. Абезгалоўлены труп, якога амаль не кранула гніенне. І нават выразныя рысы твару на адсечанай галаве нагадвалі аб былой прыгажосці той, чыя душа калісьці жыла ў гэтым целе.

…Альбер не памятаў, доўга прастаяў ён над целам жанчыны ці не.

Не памятаў, як паволі, марудна нахіляўся, схіляўся над ёю, усё ніжэй і ніжэй.

Як набліжаў свой твар да ейнага, як цяплелі ягоныя вусны, адчуваючы магільны холад вуснаў жанчыны.

Як раптам ледзь дакрануўся да іх сваімі, глыбока ўдыхнуў і… — пацалаваў.

У той жа момант адсечаная галава сама сабою торкнулася, прыцягнулася да шыі і… злілася, зраслася з усім нерухомым целам, якое ўжо не было нерухомым, цяплела, вярталася да жыцця.

— Ах! — дрыганулі яе паружавелыя вусны. — Дзе я?

— Ты?.. У мяне… дома.

—А хто ты?

— Альбер я…

— Альбер… — яна нібы ўсё яшчэ знаходзілася на тым свеце. — І ты… мяне пацалаваў?

— Так… Нельга было?

— Наадварот! Я так доўга чакала гэтай хвіліны! Дзякуй табе!..

— За што? — не мог адарвацца ад яе сваіх шалёных вачэй Альбер.

— За пацалунак. За тое, што не пагрэбаваў…

— Я… Тут… Ты сама… без галавы была, а цяпер… — збіваўся на нейкую лухтэчу Храптовіч.

— А цяпер — ты мой самы казачны прынц.

— Я не казачны… І не прынц, — на шчасце, ён зусім не губляў рэалізму.

— Дык і я не прынцэса. Але сёння — я нарадзілася, я апынулася ў казцы! У рэальнай і самай чароўнай!

— Куды ўжо болей чараў. — Ён са страхам і адначасна з цікавасцю разглядаў ейны пабіты зямлёю твар, пакрытую гніеннем і струпакамі скуру. Нешта падобнае на здагадку варухнулася ў галаве Альбера. — Паслухай, а ты часам Мефіяма не ведаеш?

—¬ Якога… Мефіяма?

— Так, ёсць тут адзін… Добра, не будзем пра іншых. Пра нас будзем… Ты… можаш сказаць, як цябе зваць? <…>

— А, так! Я ўсё ўспомніла! Я… Так! Я добра памятаю, як прыходзіла да цябе. Як ты мне падабаўся! Толькі я не магла… Ты быў студэнцікам, ужо ў канцы другога тысячагоддзя!.. А я — замужняй жанчынай, за першым дарадцам вялікага караля! У мяне было выдатнае жыццё. Я патанала ў раскошы, у золаце, толькі мне… хацелася да цябе.

— Я і не ведаў…

— А мог бы, — усміхнулася яна. — Хоць бы адчуць. — Нахіліўшы галаву, раптам уздрыгнула: места, дзе нядаўна зраслася галава з шыяй, яшчэ смылела і балела…

Альбер змаўчаў, і яна працягвала:

— Не ведаю, якім чынам, але з часам мой разумны муж усё ўведаў. Нехта яму данёс, нібы я сустракаюся з нейкім маладзёнам у студэнцкае апранасе ў закінутым парку, у старой капліцы. Быццам бачылі, як я сяджу ў яго на каленях і кудлачу ягоныя валасы. Урэшце, ён пабачыў сам… Страшны, грозны, уварваўся ў капліцу, студэнт раптам знік… Муж не мог зразумець, куды, раз'юшаны, выхапіў сваю шаблю, перавярнуў і пасек там усё! А потым — накінуўся на мяне. Я абаранялася, спрабавала давесці, што нікога рэальнага тут няма і не было ніколі. Толькі дарэмна! У парыве шалёнай злавосці й гневу ён ударыў мяне па твары, а потым халодным лязом сваёй шаблі адсек галаву. І перад тым, як мая душа канчаткова пакінула зямны свет, з-пад ахвярніку выпаўзла змяя ды прасычэла мне ў вуха: «Ты зноў займееш жыццё, калі цябе пацалуе…» Хто павінен мяне пацалаваць, я не пачула. Паколькі сама Смерць ужо апранала мяне ў падвянечнае плацце…

А яшчэ потым… Шмат, шмат чаго было потым.

Яны шпацыравалі па горадзе, суткамі не вылазілі з ложка, нешта елі… Але адразу забывалі што — сыходзілі далей: у кастрычніцкую мядова-вільготную прастору, у чароўныя шаты кранальнае, хвалюючае інтымнасці, у той свет, дзе пахне каханнем, разняволеннем, вечаровым дробным дажджом…

Толькі не дарма пазначана наша аповесць кароткай.

Яны не лічылі, колькі дзён былі разам: ні яна, ні Альбер.

Але неяк уранні… Ён прачнуўся, з усмешкай павярнуўся на бок. Працягнуў руку, каб знайсці Мільцю побач. Пальцы крануліся… і тут ён падскочыў, бы ўджалены. Выбачайце за сцёрты штамп, але было так: Альбер выскачыў з ложка, бы апараны з лазні ў халодную ваду, бы чорт з партабакі, паколькі… Так, менавіта сам чорт ляжаў на тым месцы, дзе павінна была спаць (ці ўжо прачнуцца) Аміля.

— Ты што тут робіш?!

— Не бачыш? Адпачываю. А тут яшчэ цёпла.

— Дзе Аміля?!

— Як дзе? Няма. — Чорт высунуў голую каленку з-пад коўдры.

— Ты? Гэта ты?.. — на Альбераў твар было немагчыма глядзець.

— Ну вядома, я, — не адмаўляўся чорт.

— Але навошта?! Ты ж сам казаў!.. Каб шчаслівым!.. Яшчэ падзякі хацеў.

— А я цябе падмануў.

— Падмануў? Як падмануў? Навошта?

— З халодным разлікам. Хочаш, каб я зноў вярнуў тваю Амілю?

— Так!

— Яна сапраўды патрэбная табе? Для поўнага шчасця?

— Ну так!

— А мне патрэбная твая душа, — зарагатаў чорт. — Ну што, па руках?

Альбер з жахам глядзеў на Мефіяма. Гэты чорт, гэты лысы, шалёны д'ябал усё ведаў, загадзя ўсё прадумаў. Ад пачатку да самага канца!

— Ведаеш, пайшоў вон!

— Што?..

— Вон, кажу! Прэч адсюль! Уматвай… к чортавай матары!!

— І гэта — людская падзяка! — скрывіўся чорт. — А яшчэ дапамагчы прасіў.

— Нічога я ў цябе не прасіў!

— Значыць, папросіш. Яшчэ як прапросіш! — і чорт, узняўшы падараваны ім свісточак, які да гэтага часу ляжаў на падваконні, патрос яго, свіснуў у яго, паставіў на месца, а потым знік… як і не было. І нават паленай серай — не засмярдзела.

Альбер схапіў званок ды шандарахнуў ім аб падлогу.

Аміля ішла па дарозе… Дакладней, яна ішла па вуліцы. Горад здаваўся ёй вельмі знаёмым, але яна не магла ўспомніць, якім чынам, калі і дзеля чаго апынулася тут.

Насустрач спяшаліся, сустракаліся людзі. Засяроджаныя, маўклівыя твары, ніхто не звяртае на яе ўвагі. Калі яна ім усміхаецца — яны стараюцца праспешыць хаду, адводзяць вочы…

Альбер выйшаў на вуліцу. Ён не ведаў, куды падацца, не ведаў, дзе можна яе адшукаць. Таму крочыў, угледаўся ў натоўп, свідраваў кожны твар: а раптам? Раптам сярод іх мільгане той самы, да болю знаёмы, з радзімкай на левым баку шыі? Раптам яна недзе стаіць і… — …

Здаецца, яна павінна некага дачакацца… Гэта мужчына. Просты. Прыгожы. Гаворыць прыемныя, цёплыя словы. Толькі для яе. Ёй падабаецца слухаць яго, адказваць: на гэтыя словы, дакрананне… Гэты твар… праступае нібы светлым абрысам… яшчэ не акрэсленым, але паступова ўсё болей выразным…

Яна праходзіць міма вітрыны.

Не можа быць, каб яна прапала, знікла, рассыпалася ў прасторы. Яна павінна адчуць, на тым узроўні, на той глыбіні, што злучае чорнае і белае, перададзена імклівай маланкай з вачэй у вочы, прабягае скрозь целы і зноў імкнецца ў Сусвет. Так, яна павінна быць тут!.. магчыма, як любая жанчына, зайшла ў краму, ці побач — разглядае кветкі на клумбе. Яна ж гаварыла, што любіць… а ён… ні разу!.. Аднак, што яшчэ магло б зацікавіць яе?

Крама… Крама ніжняй бялізны. На вітрыне — жаночыя станікі, прыгожыя вабныя трусікі. Панчохі, нацягнутыя на доўгія пластыкавыя ногі-падстаўкі. Тонкія, карункавыя, эратычныя, чорныя, белыя, залатыя, цудоўныя панчошкі. Ёсць такія, што не адарваць вачэй. І зусім не дарага. Пачакай, ён хацеў… ён прасіў…

Яна бачыць у шкле вітрыны, як нечая мужчынская постаць спыняецца побач.

— Шаноўны, паслухайце! — Перад ім нейкі пан у старамодным, крыху пакамечаным капелюшы. — Прабачце, але дзе ў вашым горадзе музей умураваных у мармур ядлоўцаў і стакротак?

— Што? Які музей?..

— Умураваных. У мармур, — гаворыць з роздыхам прысадзісты пан. Ды ўзяўшы пад руку, тэпае з ім далей па тратуары. — Ядлоўцаў. І стакротак.

Толькі цяпер ён разумее, што падобнага музею — не існуе ў прыродзе. І толькі цяпер заўважае, якія доўгія і брудныя пазногці ў пана. Ён вырываецца прэч, кідаецца ў натоўп ды чуе толькі, як недзе за спінаю рагоча, бы трэснуты званок, стары пан.

Калі Аміля адвярнулася ад вітрыны, Альбер ужо змяшаўся з іншымі мінакамі.

**г. Кобрынь**

# Музыка не для тоўстых



Ігар БЯЛОЎ

## Раманс пра яе прыход

*дождж не вярнуўся з пляжу*
*мары смяюцца ў твар*
*ад чатырох зацяжак*
*сыйдзе са шчок загар*

*стрэмны як дым пажару*
*прагрукатаў і знік*
*з фарамі на паўтвару*
*міма цябе цягнік*

*ты прадыктуй мне адрас*
*у тваім багажы*
*беспантовы канабіс*
*мары і боль чужы*

*гільзы ляцяць у паперы*
*падаюць на шашу*
*ў сёмым небе імперыі*
*збілі тваю душу*

*хто з нас не задыхнецца*
*ўвесну новы палёт*
*бачыш як сэрца б'ецца*
*быццам рыба аб лёд*

*не прадамо эрзацу*
*то хоць самі курнём*
*попел цывілізацыі*
*змешваем з тытунём*

*прышласць увішным лёкаем*
*дзверы адчыніць сама*
*ў левым і правым лёгкім*
*вольных месцаў няма*

## На незалежнасць Украіны

***(рымэйк)***

*Дарагі расіянін, бітву ля гастранома*
*ты прайграў да пачатку, не выходзячы з комы.*
*Позна, заліўшы вочы, граміць вітрыны:*
*ты больш не маеш айчыны, тым больш — Украіны.*

*Ты не стаяў месяцамі на ледзяным Майдане,*
*а на канапе жыўцом раскладаўся гадамі,*
*цешыў алімпіядай рэцэптары недалёкія,*
*штучным сочынскім снегам горла*
*забіўшы й лёгкія.*

*Цябе твае паханы нагнулі — у тры пагібелі,*
*а ты не ўбачыў ніводнай, сумленне выбілі.*
*У сны твае не рваліся кубаметры агню*
*і дыму.*
*Што ж, калупай відэльцам чарвівую*
*мякаць Крыму.*

*Мёд, што з экранаў цячэ, не спатоліць голаду.*
*Ты атрымаў па зубах брукаванкай гораду*
*там, дзе над плошчай зімовай на ўсю Украіну*
*круглыя содні гарэла сонца ў парах бензіну.*

*Ты, што раней выклікаў джына*
*адной зацяжкай,*
*рознарабочы анёл з неразменнаю пляшкай,*
*сраць бы не сеў у полі з гаспадарамі дамену,*
*якія вераць, што ім мора Чорнае па калена.*

*Ну, а цяпер, калі ты — удвая старэйшы?*
*Самурая віншуеш у позе гейшы?*
*Мерыш агульным аршынам бойні і путчы,*
*вечным студэнтам у прыцемках*
*мастурбуючы?*

*...Гэта я ўсё і сабе, ад якога — верне:*
*цені, як трупныя плямы на воднай паверхні,*
*моўчкі ляжаць на разваліных чалавека,*
*што выйшаў увесь у тыраж на пачатку века.*

*Выдумкам і размовам, песні і мроі*
*рот заткну трыкалорам — не больш,*
*чым па трое!*
*І раўнавагу ўтрымаю толькі таму, што*
*ў жылах яшчэ бруіцца партвейн «Алушта».*

*Перш, чым з нашае моды выйдуць*
*прагулкі шыхтамі*
*і самурай накрыецца ўласным татамі,*
*скончыцца ўсё — трыванне, грошы і порах,*
*дождж, валідол і рыфмы ў скрадзеных творах.*

*Вось жа, працверазеўшы ад вадкай смерці,*
*вокны сваіх манітораў слязьмі працерці,*
*каб наш параход — які ні ёсць, філасофскі –*
*пусціла на дно падлодка «Іосіф Бродскі».*

## Усход-Захад

*у ейнай кватэры ужо нічога не змесціцца*
*толькі чужога горада пах які мы так*
*і не выпілі*
*ты згадаеш навалачку з выявай паўмесяца*
*у атачэнні зораў якія з абоймы выпалі*

*нам пяе калыханку азія-эўтаназія*
*малако што на вуснах сохне з пякельных лёхаў*
*іржавы корпус еўропы ў пырсках арабскай вязі*
*а каму цяпер лёгка*

*дагарае на поўніцу лета ў падбітым танку*
*і калі яна засынае побач з табой*
*па рацэ плыве знякроўлены тромб світанку*
*і каханне стукае ў скронях разам з крывёй*

*атлас вечнага міру застаўся нам*
*толькі назваю*
*покуль п'еш ты з яе далоняў —*
*двойчы з адной ракі*
*будучае ў мінулым малюнак табе прадказвае*
*высакавольтных ліній яе рукі*

*недапалак на сходах пустых падбярэш —*
*без розніцы*
*на званок цісне ціша — жыве як на хутары*
*толькі яе знаёмыя чачэнкі-смяротніцы*
*часам заходзяць туды пагутарыць*

*а тыя што ў шынялях падзертых*
*выходзілі на разагрэў*
*у каралёў поп-музыкі з іх ванітамі*
*навагоднімі*
*забранзавелі й тусуюцца ў парках між дрэў*
*цэлымі соднямі*

*у горадзе мокрым і сумным люструецца*
*ў бруку дахоўка*
*кружыць блакітнага дыму тытунёвы*
*канвой*
*рускі глобус падпераны экватарам*
*з выбухоўкай*
*круціцца над галавой*

## Паштоўка з Вільні

*шэры кардонны мятлік вылецеўшы з рукі*
*растае ў паветры бразгаючы дзвярыма*
*праз нержавеючы лівень валячы напрасткі*
*час ідзе міма*

*я не дазнаюся ўжо — настолькі почырк размок*
*дзе цябе носіць як ліст у бутэльцы на радасць тапельцам*
*і ў кавярні якой цэпеліна свінцовы бок*
*прабіты нажом і відэльцам*

*пад якімі зорамі твой заблукаў адчай*
*на вачах у разгубленай палавіны вакзалу*
*покуль з дынамікаў льецца праз небакрай*
*першая навальніца са смакам вясны й металу*

*нават па смерці я буду слухаць — ты гавары*
*так вось і будуць гучаць на вуліцы і ў кватэры*
*словы што не абламіліся чаіцам на вятры*
*і не сцяміць што ў запісе а не ў простым этэры*

*за паўночнай мяжой круцяць песню пра боль і страх*
*наступіўшы на горла мору й антыцыклону*
*гэты цягнік імчыцца з Вільні на ўсіх парах*
*жамойцкага самагону*



Ігар Бялоў — паэт, перакладчык паэзіі. Нарадзіўся ў 1975 годзе ў Ленінградзе, з 1988-га жыў у Калінінградзе. У 1997-м скончыў Калінінградскі дзяржаўны ўніверсітэт. Аўтар дзвюх паэтычных кніг «Увесь гэты джаз» (Калінінград, 2004) і «Музыка не для тоўстых» (Калінінград, 2008). Лаўрэат расійскай літаратурнай прэміі «Эўрыка!» (2006 г.), стыпендыят Шведскага інстытута, міністэрства культуры РФ і міністра культуры Польшчы «Gaude Polonia». Перакладае паэзію з беларускай, польскай і ўкраінскай моваў. Вершы Ігара Бялова перакладаліся на беларускую, нямецкую, польскую, украінскую, шведскую, эстонскую мовы. Удзельнік шматлікіх паэтычных фестываляў у розных краінах. Сябра Расійскага ПЭН-цэнтра і Саюза расійскіх пісьменнікаў. Жыве ў Варшаве.

## Апошняе танга ў Варшаве

*нас развозіць ад словаў настоеных на журбе*
*валіць з ног вогненная вада фры-джазу*
*выбачайце панове я футболку здыму з цябе*
*гэта ўсе праблемы здыме адразу*

*колькі свабоды ў музыкі ні пазычай*
*усё забярэ й пакіне табе як смецце*
*толькі нервовых клетах звярыны адчай*
*плюс касякі забітыя не да смерці*

*ці навальніца блізкая ці ў фрызуры бліскае лак*
*нашы нязбыўныя хмары вяртаюцца*
*бумерангам*
*рэшткі жыцця праглынае цямрэча як*
*відэамагнітафон — касету з «Апошнім танга*

*ў Парыжы» і бог майго сну робіць*
*цуды наўпрост*
*за кругласутачным барам і чорнымі*
*гаражамі*
*музыку не для тоўстых творыць*
*у поўны рост*
*значыць будзе яшчэ ў нас дзетка апошняе*
*танга ў Варшаве*

*хай за табою цягнецца стомлены*
*сонны канвой*
*блізкіх табе далёкіх табар цыганскі*
*і памежнік-паляк пашпарт гартае твой*
*нібы спіс донжуанскі*

*іржавая магнітола грае на дне ракі*
*у залі ўключаюць святло і я чую голас*
*амаль забыты —*
*уставай тут Марлон Брандо памёр*
*за твае грахі*
*а ты спіш як забіты*

## Мой чорны сцяг

*Гартуе сталіца свае нажы,*
*заплывае сонца ў афсайд,*
*у лужынах рэдкіх вясёлка ляжыць,*
*амаль закатаная пад асфальт.*
*Як абкумараны санітар,*
*звонку чакае Цветной бульвар.*

*Па горла ў яго залатой журбе*
*плывеш туды, дзе грыміць Калтрэйн,*
*дзе мама-анархія для цябе,*
*зняўшы станік, сцэдзіць партвейн.*
*У гэтай кватэры ноч напралёт*
*чакаеш світання — за годам год.*

*Агарак запалкі ляціць у акно.*
*У лёгкіх клубіцца салодкі дым —*
*і не выходзіць. Партрэт Махно*
*быў чорна-белым, а стаў жывым.*
*Я ўшчыкнуў сябе — сон ці не?*
*«Нестар Іванавіч, Вы да мяне?»*

*А ён мне кажа: «Дасталі, мля!*
*Прасралі краіну. Не брыдка яшчэ?*
*Па карце бітай твая зямля*
*бруднай плямай нафты цячэ.*
*А ў шклянцы віскі, як параход,*
*хістае чырвоны кранштадскі лёд.*

*Дзе сябры твае, адкажы?*
*Зніклі ўсе, аб кім гавару.*
*Няма ні ў свінцовай газетнай ілжы,*
*ні ў аднакласніках кропка ру.*
*Што засталося? Офіс? Планктон?*
*Давай за мною, стоп!*

*Вашых лідэраў гнойных кубло –*
*прэс сіліконавы, сучы брэх.*
*Вось яно, сусветнае зло,*
*газавы кранік хавае ў прарэх,*
*покуль каленам нас б'е ў жывот*
*сябра наш — Чарнаморскі флот.*

*Гэта сістэма гніе з галавы.*
*Што табе, хлопча, з яе даброт?*
*Грызі ёй горла, покуль жывы,*
*покуль сумленне вядзе ў паход.*
*Галоўнае ўзяць без стратаў вакзал.*
*Думай, хлопча. Я ўсё сказаў».*

*І ён сыходзіць скрозь шум вякоў.*
*Вабіць лёс нецвярозай рукой.*
*Шторы шыхтамі чорных сцягоў*
*гарачым шэптам люляюць пакой.*
*І, быццам мазут, плывуць нада мной*
*чорная навалачка з прасцінай.*

*Усё на свеце згубіла пароль,*
*і не па-дзіцячы ламае нас,*
*наш галаўны персанальны боль*
*трушчыць патыліцы, як спецназ.*
*І калісь жыццё саб'е цябе з ног,*
*у кухаль піва схаваўшы клінок.*

*І здарыцца ўсё: агонь, землятрус,*
*і першая конная возьме след.*
*На кожнай спіне — званковы туз.*
*Кароль, потым дама, потым валет,*
*а потым бледны конь з вышыні*
*і верхавец на кані.*

*І дыхаць нам да скančэння вякоў*
*пазалочанай музыкай іх падкоў.*

**Пераклаў з расійскай Андрэй Хадановіч**

# «Непрыдуманыя партрэты»

**На прэзентацыі паэтычнай кнігі Лявона Валасюка, якую склалі ў асноўным адабраныя з папярэдніх зборнікаў вершы, нехта з сяброў, памятаецца, заўважыў: «А што далей?.. Цяпер ёсць сэнс пісаць толькі выбранае».**

Аўтар толькі шматзначна ўсміхнуўся: маўляў, час пакажа. Вершы Лявон і сапраўды на некаторы час адклаў, а зусім нядаўна ў выдавецтве «Брэсцкая друкарня» накладам у 500 экзэмпляраў пабачыла свет яго кніга пра творчую эліту Берасцейшчыны. У ёй добрае слова пра людзей, з якімі тым ці іншым чынам судакрануўся асабісты лёс аўтара: настаўнікаў, калег па працы, сяброў. У кожнага, як піша Лявон Валасюк у кароткай прадмове, ён нечаму вучыўся і вучыцца да гэтага часу.

Трэба сказаць, што выдадзены «Непрыдуманыя партрэты» дыхтоўна: цвёрдая вокладка, глянцавая папера, шырокі фармат, высокая якасць здымкаў. Аўтару "дапамагалі" такія вядомыя мастакі і фотамайстры, як Аляксей Андраюк, Леў Вайткоўскі, Георгій Грыцук, Аляксей Ганчук, Юрый Кускоў і Георгій Ліхтаровіч.

Найбольшы па аб'ёме першы раздзел — «Мастакі» (60 «партрэтаў»). І гэта зразумела: аўтар — сябар Беларускага саюза мастакоў, закончыў архітэктурны факультэт Інжынерна-будаўнічага інстытута, працяглы час працаваў у навукова-метадычным цэнтры культасветработы і народнай творчасці. З асаблівай пашанай расказвае Лявон Валасюк пра свайго інстытуцкага выкладчыка і «настаўніка па жыцці» Міхаіла Талмачова, патрыярхаў берасцейскай мастацкай школы Івана Рудчыка, Мікалая Чурабу, Пятра Данэлію, такіх самабытных творцаў, як Мікалай Селяшчук, Мікалай Кузьміч, Леў Алімаў, Іосіф Крупскі... У кнізе змешчаны рэпрадукцыі знакавых для кожнага з мастакоў твораў жывапісу.

Не абыдзены ўвагай аўтара і берасцейскія пісьменнікі. Уладзімір Калеснік, Ніна Мацяш, Алесь Каско, Мікола Пракаповіч, Аляксей Філатаў, Анатоль Крэйдзіч... Усяго больш за трыццаць літаратурных партрэтаў прапануецца ўвазе чытача, а «давескам» да кожнага сталі вершы і кароткія апавяданні аўтараў.

Два раздзелы «Народныя майстры» і «Пазнавальныя асобы» прысвечаны такім вядомым на Берасцейшчыне людзям, як майстар саломапляценнея Вера Гаўрылюк, знакаміты разьбяр са Століншчыны Іван Супрунчук...

У кнізе змешчаны біяграфічныя звесткі пра кожнага з яе герояў, аднак выданне — не энцыклапедычнае: «партрэты» найперш перадаюць аўтарскае бачанне ролі творчай асобы ў культурным жыцці Беларусі.

Выданне падобнага кшталту на Берасцейшчыне выйшла ўпершыню, і яе з цікавасцю прачытаюць усе, хто адчувае сваю далучанасць да духоўнага жыцця роднага краю.

**Мікола Сянкевіч**

# Канцэпцыя негвалтоўнага супраціву

**Чытаеш ваенную паэзію Валярыны Куставай (часопіс «Дзеяслоў», №69) і разумееш, што ёсць у паэткі няўмольная сіла — жыць. Кустава для мяне цяпер не інакш як Дзяўчына-Кіеў, якая ратуе свабоду.**

Як сталася так, што летуценка-Валярына пачала пісаць пра вайну? Паэтка расказала, што яшчэ ў 2006-м, калі была школьніцай, і ў 2010-м, калі вучылася ва ўніверсітэце — напісала вершы «У маёй краіне вайна» і «Ці прыйдуць яны за табой...». А «Генералы маёй краіны» быў натхнёны Майданам, на які ўсё ж трапіла Валярына.

Яе верш «Сат'ягpaxa» — негвалтоўная канцэпцыя, у якой, усё ж такі, здзяйсняецца гвалт. Не рукамі паэткі, а кімсьці іншым, асобай, чыё імя не агучваецца. Негатыўныя канатацыі толькі ўзрастаюць ад паўтарэння дзеяслова «ляснуць».

*Дружа,*
*калі ты вырасцеш,*
*цябе ляснуць аб ходнік,*
*будзь ты дзяўчынка ці хлопчык,*
*цябе абавязкова*
*ляснуць*
*аб ходнік.*

У вачах паэткі паўстае найвялікшае пытанне: што выбраць? Свабоду альбо смерць? Валярына Кустава ўяўляецца мне асновай шаляў, воссю, на якой трымаецца цвержа. Дзяўчына выбірае свабоду. Свабоду альбо смерць. І паэтка такая свабодная і лёгкая, Зефірам любімая, стаіць, нібыта «Родина-Мать» на вяршыні Кіева і не можа і не сканаць, і не стаць цалкам свабоднай. Бо яе рукі занятыя тым, што трымаюць неўгамонныя шалі. Рэвалюцыйныя шалі трымаюць! Толькі зварухнешся, і — адбудзецца. Толькі што? Свабода, альбо смерць? А раптам свабода праз смерць? Тады негвалтоўная канцэпцыя станецца цалкам гвалтоўнай, дзе абодва бакі нясуць толькі гора. Гвалт пойдзе на гвалт? Ды не! Шалі ахоўвае дзяўчына, а сэрца дзявоцкае, як вядома, поўніцца дабрынёю і любоўю. І паэтцы зноў нічога не застаецца, як толькі расхістаць цвержу, свет. Робіць гэта яна не адна. Шматзначна кажа:

*мы будзем расхістваць цвердзь,*
*мы будзем расхістваць свет,*
*як круты Чэ, як святы Z.*

Хто схаваны ў займенніку «мы»? Напэўна, свабодалюбівыя, што сталіся супрацівам гвалтаўнікам, якія хочуць ляснуць аб ходнік і дзяўчынку, і хлопчыка. І тут з вуснаў Куставай вырываецца пінкфлойдаўская настойлівасць (яна нават нічым не прыхаваная):

*We will we will rock you*
*we will we will clap*
*Будзем, будзем хлопаць,*
*мы пакінем след.*

Шматлікія дзеясловы будучага часу кажуць пра тое, што дзяўчына-паэтка здавацца не будзе нават у самы цяжкі час. Яна паказвае сваё бунтарства. Сваё несарамяжлівае бунтарства, якім кіруе добрая самавітасць. Бо несамавітасці ў Куставай цяпер не можа быць!

Валярына нібыта кажа, што часы, калі дзяўчына-паэтка думала і пісала толькі пра каханне — прайшлі. Яе настрой змяніўся на рэвалюцыйны. А на вайне як на вайне: тут і супраціў, і адваяванне свабоды, тэрыторыі, і таго ж кахання, якое трансфармавалася ў сусветную любоў да ўсяго жывога. І гэтае новае каханне мае новую форму, яно ператварылася ў праўду, якая маўчыць вачыма.

Дружа,
мярзоты большае,
але большае,
большае й згоды.
Вачыма маўчыць праўда,
авацыі ладзіць свабода.

«Вачыма маўчыць праўда», — гэта радок адсылае да кампазіцыі «The eyes of Truth» музычнага праекта «Enigma». Як музыка можа быць вачыма ісціны, так і ўдала падабраны паэтычны радок можа стаць тым пражэктарам, які высвеціць праўду з прасторы, дзе «мярзоты большае».

У гатоўнасці пераносіць боль і пакуты — і ёсць асноўная ідэя ва ўздзеянні на праціўніка, чаго прытрымліваўся Махатма Гандзі, адзін з кіраўнікоў і ідэолаг нацыянальна-вызваленчага руху Індыі. Гатоўнасць пераносіць боль і пакуты выказвае і Валярына Кустава:

А мы ведалі,
што толькі тыя,
каго будуць
біць у сэрцы
і біць па твары,
здолеюць узняцца
і здзейсніць свае
мары.

Усё сказанае паэткай — сказана далёка наперад. Але сказана так, нібыта гэта не мара, а ісціна, якая рана ці позна здзейсніцца. Пытанне часу.

**Марына Яўсейчык**

# «Каб не звесці агонь»

**Для нас усіх ад самага пачатку жыцця вельмі важна вучыцца жыць на досведзе тых, хто шмат чаго пабачыў, шмат праз што паспеў прайсці.**

Толькі дурань вучыцца на сваіх памылках. Для таго, напэўна, і існуюць кнігі. Добрая кніга — гэта не проста ўспамін ці метафарычная гульня — суцяшэнне ўласнага чалавечага гонару. Гэта ўзнаўленне Лёсу і свайго жыцця дзеля адкрыцця яго перад светам і людзьмі. Як і жыццё, думкі не могуць быць толькі добрымі ці толькі дрэннымі...

Новы зборнік Марыі Вайцяшонак атрымаўся не надта аптымістычным. У тым сэнсе, што чытач тут не знойдзе таго звыклага, амаль энцыклапедычнага шчасця, якое вельмі часта сустракаецца ў паэтычных тэкстах нашых сучаснікаў. Вершы са зборніка «Гняздо агню» (Мінск, выдавецтва Хурсіка, 2014) — сур'ёзны філасофскі роздум пра жыццё чалавека. Вершы ахопліваюць шырокае праблемнае кола: ад узаемаадносін з людзьмі да пошукаў сэнсу жыцця і месца чалавека ў грамадстве і свеце. Амаль на кожнай старонцы можна назіраць непрыхаваную барацьбу адвечных Дабра і Зла:

*Усе ўжо тут,*
*цёплы*
*пясок,*
*а я запазнілася,*
*мейсца*
*шукаю*
*лёгка,*
*без суму,*
*быццам спрабую прысесці*
*да столу;*
*ішла*
*на клады,*
*а трапіла*
*да сваіх*
*у бяседу*

Чытаць такія вершы трэба не спяшаючыся, удумліва, быццам п'еш сцюдзёную ваду з глыбокага калодзежа ў ліпеньскую спёку і ніяк не можаш спатоліць сваю смагу.

Цудоўныя метафарычныя выразы напаўняюць і пейзажную лірыку зборніка:

*Спаўзае па шкле*
*на сонцы лядак*
*зляжалай*
*зімовай*
*хмарай*
*талая вада*
*амаль па твары*
*аблізваю на вуснах*
*вясновую*
*слодыч*

Адметная прысутнасць твораў, прысвечаных каханню. Агулам апошні па часе зборнік паэткі ў гэтым плане вылучаецца з шэрагу сваіх папярэднікаў. Інтымнасць у ім набывае адценне лёгкасці і радаснага чакання сустрэчы з тым мінулым, якое па-добраму застаецца ў памяці на ўсё жыццё:

*Не нашу*
*а толькі час ад часу*
*перабіраю на каленях*
*пацеркі*
*пярсцёнкі*
*зноў выпускаю*
*з рук*
*праменні*
*каменняў*
*на зямлю*
*хаваю ў гарах*
*на марскім дне*
*пакуль не ўзнікне*
*жаданне*
*кахання*

Яшчэ адным прывабным месцам у творчасці пісьменніцы з'яўляюцца яе вершы аб прыродзе, але напоўненыя трошкі іншым гучаннем, чым звычайная пейзажная лірыка. Гэта вершы кшталту апісання ўнутранага стану чалавека праз нейкія з'явы прыроды ці пэўныя варункі такой дарагой для Марыі Антонаўны вёскі:

*Зімовую*
*самоту*
*дасылае*
*сад асенні*
*напроці ў раме ваконнай,*
*не кратаецца*
*ліст,*
*мастак*
*кастрычнік —*
*ні чалавек,*
*ні птах;*
*я пэндзаль зламаны*
*трымаю*
*ў руках,*
*падняўшы з долу*
*галінку*
*яблыні*

Такія радкі з кожным новым прачытаннем адкрываюць новыя сэнсы. Я называю іх «строфамі навырост», якія трэба час ад часу перачытваць і разам з імі сталець, набіраючыся жыццёвай мудрасці слова. Гэта тычыцца не толькі вершаў Марыі Вайцяшонак, але і (асабліва) яе прозы. Падобныя творы па сутнасці — лёс выбітных людзей, якія, шмат ведаючы з уласнага вопыту і маючы боскі паэтычны дар, перадаюць нам сутнасць свайго зямнога выраку праз высокае мастацкае слова:

*Блукаю*
*ў пацёмках*
*дня,*
*пакуль не злоўлена*
*імгненне —*
*адзін радок,*
*а быццам бы*
*здабыў*
*агонь,*
*агонь*
*натхнення*

Як кажуць у такіх выпадках, дзякуй аўтарцы за кніжку і дай ёй Бог здароўя і далейшага творчага плёну.

**Крысціна Бандурына, студэнтка ГДУ**



# У смерці яна просіць смерці



Валер САНЬКО

## I

Галіна Кудрук прасіла ў Бога аднаго — смерці. Самага паданнага і дарагога для яе цяпер — смерці. Спярша прасіла лёгкай, апошнія два гады — любой, хоць і цяжкай, абы неадкладнай.

Зязюлькавая падкідаха ў сям'ю доктара Васіля Радзюка першага дзіцяці, мілай немаўляткі Веры, вырачэнка абаіх наступных, хацела памерці. Не з самагубства. Жыццёвая каламутніца несвядома баялася парушыць адзін з асноўных законаў быцця, волю Бога — не сам чалавек нарадзіўся, не сам перапыняе лінію існавання, струмень плоцевасці. Самагубца на Тым свеце пазайздросціць чарвяку на распаленай скавародцы…

Не проста надакучыла жыць Галіне Кудрук, згідзела. Стамілася прасіць Бога, каб прыбраў яе з Гэтага свету. Першы муж Іван некалі сказаў: я памру, а хто цябе, мая жоначка і нянька, глядзець будзе. Чулася, не верылася. Маладая была, здаровая, калі тая старасць…

Магла не выпусціць Ваньку з Пінска пад Ашмяну, на Гродзеншчыну, дзе краёўцы яго ўтупалі, магла з ім, каханым і паслухмяным упарцікам, нараджаць дзесяць дзяцей, раявала б, шмат магла чаго. Усё праляцела, адшугавела. Шукае цяпер смерць.

Васьмідзесяцігадовай бабулі саступаюць дарогу малыя, сталыя, старыя. Неахаю з лаянкаю аб'язджаюць аўтамабілі. Яе даўно баяцца закрануць суседзі, прахожыя, не хочуць пачуць ад маршчыністай азызлатварай сухені вокрык, а то і лаянку.

Выпавольвае Кудручыха з аўтобуса, яе перачэкваюць пасажыры, а яна раз-пораз выгалошвае «Не падганяйце мяне! Не штурхайцеся».

Працягне якому малому цукерку, нават гурочак, — маці сутаргава адцягвае дзіцянё ад старой ванючкі. Зойдзе Галіна у царкву ці касцёл (для яе цяпер аніводзін храм не свяціўся ў сэрцы) — абыходзяць яе чыстыя акуратныя дзеткі, дальняцца ўхрыстосаваныя прыбраныя сталыя людзі, састарэлыя.

Пастýпова цялесныя балячкі Галіны паглушэлі, душэўныя ўзраслі. Лекі не прымала. Некалі цяміла: як ад холаду абязвожваецца цела, так ад самых маленькіх дозаў алкаголю яно разбураецца, таксама з непазбежнай хуткасцю, цяміла, не магла супыніцца.

Цяпер можа неўздаль магазіна/лаўкі, старых і дзятвы бессаромна прысесці, задраць спадніцу. Яе ўжо не трымаюць у бальніцы, прыходзяць у кватэру медыкі з паліклінікі і хуткай дапамогі, ведаюць яе таблеткі; стандартна і хутка робяць уколы, просяць залішне не стагнаць.

Нядольная, скручаная ў дугу Галіна іх чуе, не чуе. На людзях і адзінотна моліць смерць: прыдзі, забяры, дай аблёгку. Нарэшце выпрастаецца спіна, у труне.

Суседзі, колішнія знаёмцы, незнаёмкі даюць часам вопратку, Галіна дабрачнікам адмоўнічае, у яе ўсё ёсць. Ад прадуктаў не адмаўляецца. На пенсіі яна чацвёрты год. Дачы не мела, не мае, раней падахвочвалася той ці іншай знаёмцы што-кольвечы зрабіць на агародзе. Апошнія гады ад усяго і ўсіх адмовілася. Седнем сядзіць у кватэры, з тэлевізарам адзіноціць рэдкія небалючыя гадзіны, вычэквае смерць.

Нагрувашчванні крыку і боляў, часта шалопілася старой, можа супыніць на любым гарадскім крыжаванні. Удар перарэжа ланцуг пакутаў; але шафёр завінаваціцца, сям'і яго, бацькам балецьме, не гадзіцца перакрыжаванне. Узабрацца на вышэйшы паверх новабуду, цяпер іх у Пінску нямала, перакуліцца з парэнчы; свіст, задыха, болю не чуеш.

Самагубства Галіна, як усе вакол беларусы, не прымала. Якою б грэшніцаю ні была зняверанка, парушаць законы божай існасці грэх, самахоць істота не можа супыніць дадзены Богам ручай пакутаў.

Не хоча забыць першага і адзінага мужыка Івана. Меў ён рацыю ва ўсім. Маладая вясковая дзеўка не цаніла займелае шчасце, капрызіла. Тое не так, гэта не сюды, таго мала. Не ўтрымала Іваньку бліз сябе, не кемілася капрызулі, што зарабляла не мітрэнгі: зневажэнне, адзіноцтва, пакуты.

Хочацца зноў паспрабаваць з'ездзіць да Сяргея і Віты, дзеці нарэшце адумаюцца, не выганяць дурную матку.

Навошта ехаць? Выгналі, тройчы родныя дзеткі выперлі дарагую матулю. У Лунінцы Вікторыя на парог не пусціла, у Віцебску — Сяргей. На судзе Галіна ўясніла: збліжэння з імі ніколі не будзе. Віка перад усімі судзейскімі згразіла: калі гэтая жанчына яшчэ хоць раз заявіцца перад вачыма ўнукаў — пракляне яе, каўтуны павырывае.

«Лепш бы ты не нарадзіла мяне», — рэзнула дачка ўсенародна, з адчаем вар'яткі.

Сяргей проста аб'явіў: заявішся — прыб'ю. Пайду на суд, а такую родную маму засяку.

— Ты сама пакарала сябе, — адпіліла дачка.

Тое ж паўтарыў сын.

— Такія бацькі ўсё жыццё папрашаі. Самі здыхаюць і нас у ганьбу цягнуць, — адсырычыў маці па тэлефоне ў Віцебску. — Ты не маці. Нічому не навучыць алкашу ўнукаў. Не прыязджай да нас, ніколі; не трэба тваё выхаванне і цукеркі.

Жанчына нічому не навучыла ўласных дзяцей. З садаўскага ўзросту Сяргей і Віта былі на выхаванні дзяржавы: дзіцячы дом, інтэрнаты, інтэрнаты. Ім сорамна было, што ў іх мацярынскае прозвішча, што яны не ведаюць, хто іх бацькі, што бацькоўства ў іх рознае. Змалку хлопчык і дзяўчынка чырванелі за распусную жанчыну, якая зрэдку прыносіла ім карамелькі і хуценька казала «расціце харошымі», штораз падкрэслівала: яна іхняя матка.

З гадамі дзеці выехалі з Пінска. У іх з'явіліся свае сем'і. Галіна пэўнілася спадзеяю: пасталеюць — паразумнеюць, памякчэюць, даруюць. Прыязджала да іх у Віцебск і Лунінец. Толку не было. Сяргей і Віта не пускалі матку на парог.

— Я працавала ўсё жыццё…

— Дзеля чаго — каб нас навучыць? Бацькі дзецям пакідаюць спадчыну, духоўнае ці матэрыяльнае. З-за гэтага цэняць іх дзеці. Проста так нічога не бывае ні ў чужых, ні ў крэўнікаў. Дзеля чаго ты працавала, і як працавала?

— Хіба бабка навучыць дрэнnamу ўнукаў? — спрабавала з другога боку пад'ехаць няшчасная жанчына гадоў праз колькі.

— Бабкі нешта ўжо ведаюць, а не самі вучацца ў дзяцей і ўнукаў. Не лезьце ў нашыя сем'і, — выштурхваў са сваёй кватэры Галю Кудрук сын з той жа нахабнасцю, як зрабіла гэта нядаўна яго сястра. — Чаму ў нас няма ні бабулькаў ні дзядоў, калі ты добрая? Поўныя дзетдомаўцы і сіраты шчаслівейшыя ад нас.

Галіна нарэшце скарылася. Грубасць грубасцю не пераб'еш, не бачыла дзяцей малымі, не давядзецца бачыць і сталымі.

## II

Як пакацілася снегавіна з гары, шапкаю не ўтрымаеш. З другім мужам, а пасля з трэцім, ужо не ўзаконеным загсаўскім штампам, жытка ў маладзіцы не склалася. Дарагія да вар'яцтва хлопцы аказаліся падлякамі, як большасць мужыкоў у адносінах да адзінокіх няшчасных баб. На саступлівасць, пяшчоту ці маўчанне жанчыны трыгладзіты не звярталі ўвагі. Чым мацней баба з імі перамоўчваецца, тым алкашным тупакам лепей. Абы карміла, чарку прастаўляла, у ложак клала.

Дзеці зненавідзелі матку: ухажоры хадзілі цугам, яны елі мамін час, дабрыню, супакой. З-за іх мама дзяцей не бачыла, адно штурмавала. Усё дзеткі рабілі не так, пыталі не тое, паводзіліся абы-як, вучыліся слаба.

Гульнётнічанні маці не перашкаджалі дзетсадаўцам Сяргею і Вікторыі з адчаем і добрасцю гаротных дзетак любіць «залатую» матульку. Прыедзе Галіна ў дзіцячы дом раз на месяц — дзеткі суняць маме ў рукі цукеркі: гэта вы нам дасце пры дзецях. Нікому не кажыце пра вылечванне ў ЛТП.

Дзеткі месяцамі, гадамі чакалі матулю. У выхадныя стаялі ў вокнах. Выглядвалі. Яны не горшыя, у іх ёсць родзічка, не хто-небудзь — мама, матулька, сонейка. Некалькі разоў іх, кемкіх працавіцікаў, бралі ў сем'і. Сяргей і Віка не згаджаліся, верылі словам мамы. Яна вернецца, прыедзе, абавязкова іх забярэ ў сваю кватэру.

Гады праляцелі восеньскімі птушкамі. Бацька Сяргейкі, наўскручны выпівоха з сіберным характарам, у п'янай бойцы паскорыў уласны пералёт на клады. Бацька дзяўчаці адрокся ад малой і мамы, з'ехаў у сваё Заўралле. Ні дапамогі, ні пісьма, нават адрас не паведаміў. Росшукі бескарысныя.

Задумалася пра малышню жанчына пазнавата, у прафтэхвучылішчах абое вожыкамі сустракалі маму. Адчувала, яшчэ не позна, душы падлеткаў можна прытуліць да сваёй. Занятая пошукам шчасця — грошаў, сэксу і гарэлкі — Галіна не паспрабавала перацягнуць на свой бок доўгатрывалых сірот. Час з'ядаў чарговы кабель, чарговы алкаш, працоўныя няўладкі.

Куды ісці Галіне, куды?

Узрост выяўляўся адным: перастала ганяцца за гарэлкаю, дастаткова было віна, нават самаробнага ці проста бражкі. Працу мяняла часта. У Пінску працавала на хлебазаводзе, макароннай фабрыцы, гарбарным заводзе, на прыстані, аўтабазе… Бухгалтарскія навыкі пастýпова забыла, бухгалтарскую акуратнасць растраціла. Стала касіркаю. Была на розных работах.

Хаўрусавала з усё горшымі кампаніямі. Ва ўсіх сваіх учынках хворая раздражнёная жанчына сыходзіла з аднаго: чаму ёй павінна быць горш, чым другім? Была б яе воля, шчасце іншым ніколі не даравала б. Усе былі б роўныя.

Бясконцыя сустрэчы, радасці знаёмстваў, парывы нянавісці да выпадковых знаёмцаў, сваркі з імі, пошукі праблескаў кахання… Змізарнелая няшчасная жанчына са старым зношаным тварам раптам, пад сорак гадоў, зрабіла страшнае для жанчыны яе поглядаў адкрыццё: яна можа выклікаць павагу, а не любоў, можа адчуваць каханне, а не выклікаць яго.

Хваробы печані і ныркаў дакаалі. Было ёй амаль пяцьдзясят, калі вырашыла супыніцца. Не змагла. Пінскім знаёмцам і кампаніям не было ніякай справы да яе фізічных балячкаў, душэўных хістанняў, рашэнняў завязаць з гарэлкай. Запрашалі, прыходзілі.

Сцяжына выснавалася нечакана. У труну, хутчэй у труну. Абы не бачыць пагарджэнняў і з'еды шкадобнікаў, абразы незнаёмых, не гнісці жывой.

На шчасце падвярнулася мінчанка Алена, з ёю Галіна працавала ў адным са смаленскіх саўгасаў на лёне. Там расцэнкі ў пяць-сем разоў большыя, чым у беларускіх калгасах і саўгасах. Міністэрства сельскагаспадарчае ў краіне адно, а расцэнкі для беларусаў, украінцаў, узбекаў на сваіх землях — мізэрнасць у параўнанні з расійскімі. За дзень стараннікі на рассцеле трасты на Смаленшчыне маглі зарабіць па сорак рублёў, а не шэсць, як у Беларусі.

«Тут, у Мінску, шмат медыкаў, прыязджай, пагасцюй», — напісала Алена таварышцы. Галіна доўга не думала. Кватэру на замок і ў аўтобус. Голы збірайся — голы гатоў.

Гучнаструнілі ўспаміны даўнейшых часоў, калі пачувалася ўпраўнаю і спраўнаю, калі лячылася ў Мінску ў дзіўнай доктаркі Ядзі.

Вымагала некалі грошы ў пінскіх медыкаў за нявыказ тайны ўдачкавання. Змусіла іх пераехаць пад Слуцак. Дайшло ўсё роўна да суда. Слуцкія суддзі знесправядлівілі. Мала што сабралі ўсе паперкі пра ад'ём дзяржавай у Галіны абаіх дзяцей у Пінску, мала што сарамацілі яе ў слуцкім судзе, даўмеліся паслаць выпіскі ў дзве пінскія канторы.

Пашкадавалі не беднага няшчаснага чалавека Галіну Кудрук, а заможных таўсцялёў медыкаў.

Ніхто не цяміць, як млосна старой адзіноціцца. Па кватэры рэдка ходзіць. Поўзае, пераступае, баіцца ўпасці. Упадзе — ніхто не пачуе, не ўбачыць. Ляжацьме на падлозе, ніхто не ўзніме. Ключ у суседкі ёсць, ходзіць рэдка, прысунецца ўвечары, захоча падняць, будзе позна. Магла Галіна быць спраўнай і рушнай, як большасць беларусак яе ўзросту, а выглядае васьмідзесяцігадовай разваліннай, стогніцай, плаксай.

...А як усё добра пачыналася! Якая выдатная была жыццёвая раніца з Іванькам. Ды й вечар выпадаў неблагі, з Алесем. Можна было прынаравіцца, саступаць мужчынку, слухацца. Было цяпло, спачуванне, утульнасць. Што яшчэ трэба хварабітнай. Не ўтрымала, не зберагла.

Вынік сумны. Каторы ўжо год Галіна старою прабабуляю поўзае па вуліцах старабытнага Пінску, шукае смерці на гожых вуліцах. Не знаходзіць.

## III

Колішнія няўдачы з абаронаю доктарскай, укараненнем уласных распрацовак выліліся ў Алеся Мітрафанавіча Мальца, былога выкладчыка ВНУ, а цяпер ціхага алкаголіка, у сціплую турботу пра ўседлівага кватаранта, будучага вялікага глебазнаўца Ігара Бадановіча.

Некалі паслухмяненькі перад ідэолагамі кемкі дацэнт Малец з доказнай класнасцю асаджваў аспірантаў, кандыдатаў навук, нават дактарам навук паказваў іх некамуністычнасць. Усямерна выказваў уласную адданасць камідзэям. Вучыў савецкай адданасці.

Часам пакрыўджаныя цвердзілі: навуковы дагматызм дацэнту Мальцу адаб'ецца бедамі, горшымі за рассыланае самім на іншых. Крыўды няўдакаў і кастрыбалацікаў не западалі ў свядомасць Мальца. Глупства пагрозы, наракання.

Ажно раздаваныя самім аплявушыны вярнуліся Алесю Мальцу, неўзаметку і подла вярнуліся — уведаннем слодычнасці вінца і гарэліцы.

Гонар за кватаранта Ігара Бадановіча, спагада да нялёгкай працы навукоўца, нашмат цяжэйшай за любую іншую на зямлі, у Алеся Мальца выказвалася адным: неўмяшаннем. Нават калі прыходзілі на панадворак такія ж алкаголікі, як і сам, спрабавалі ад нямачагорабіць «завесці» аспіранта, палаяць навуку і вучоных, бяздарнае хрушчоўскае кіраўніцтва, а то і проста пачасаць языкі пра савецкія непарадкі (добрую працу ніхто не бачыць, вакол адны тарбахваты), — нават тады Малец не даваў у крыўду Ігара Бадановіча.

Новую жонку бацькі, Галіну Іванаўну Кудрук, такую ж алкагалічку, як і ён сам, дзеці Мальца не ўзлюбілі адразу. Не раз і не два намякалі кватаранту Бадановічу, што ён да пришлячкі павінен мець гэткія ж пачуцці, як і ў іх саміх.

— Ваша, гэтая, жанчына, так нідзе і не робіць?

Алесь Малец справядліва пакрыўдзіўся. Як жа, Галя працуе. Не прапісана ў Мінску, дык яна і не хоча. У вялікім горадзе мноства працы часовай, толькі рукі і галаву май, а ў яе усё ў парадку. У Пінску без працы не была, і тут на чужой шыі не сядзіць.

— Яна гарэлька. Дзеці выраслі такія — горш маіх. У яе не жыццё — суцэльны раман. Вялікі яна чалавек, і баба яшчэ падхадзяшча, — выціскаў Малец.

На правакацыі сямейнікаў кватарант не даўся, у рэдкіх сутычках дзяцей Мальца з Галінаю Кудрук не ўдзельнічаў, і гэтым, хоць перамаглі дзеці, заслужыў поўную павагу і давер новай гаспадыні і старога гаспадара.

## IV

Рашэнне супыніцца не з адною гарэлкаю, а вінцом і піўцом было не яе рашэннем. Так распарадзіліся хворая пячонка і яшчэ слабейшыя ныркі.

У такі час фізічнай нямогласці і душэўнай нерашучасці яна і адазвалася на ліст Алены, прыехала ў Мінск.

Стары нягеглы Алесь Малец спадабаўся маладой яшчэ, як сябе лічыла, жанчыне і таму, што лёс былога дацэнта — своеасаблівая копія яе ўласнага: уніз з прыступкі на прыступку, з лужы ў лужу, з калатнечы ў калатнечу.

Маўклівасць і зодум нестарой яшчэ жанчыны ўкінуліся ў вока алкаголіку і баламутніку Алесю. З жонкай хоць і разышоўся, але пакуль яна жыла, — званіла, ушчувала, папярэджвала, — Алесь трымаўся. Пасля яе смерці пакаціўся... Мусіў працаваць дыспетчарам, вартаўніком ці сантэхнікам у домакіраўніцтве, балазе меў умелыя рукі. А то й нідзе не працаваў. Кабызіўся па жыцці, як восеньскі ліст на слотнай зямлі.

У агародзе адной невялічкай прыватнай хаціны ўскраіны Мінска, паміж Камароўкаю і Зялёным Лугам, у сельгаспасёлку, усё часцей бачылі мужчыну і паслухмяную яму жанчыну. Цікаўным, як і ўсюды, суседзям Мальца карцела дацца ў роспыты. Не атрымлівалася. Яны ведалі буйны характар аціхлага буяна, асцерагаліся загаварыць. Неаднойчы Малец з пасябручкамі, паасобку і сумесна, вырашалі суседскія праблемы энергічна-лаканічным пасылам мужчын, жанчын ці дзяўчат, заадно і ўсіх іхніх родзічаў, на далёкія хутары, а то і кідком камня ці паляжкі. Не раз у цікаўнага суседа беспрычынна гінула яблыня, ламаўся ноччу плот, вымазваліся дзёгцем дзверы. Нічога даказаць ніколі не ўдавалася. Суседзі абыходзілі помслівага Мальца.

Выклікі міліцыі для Алеся настолькі прывычныя, наколькі нястрашныя. Не ён баяўся ўчастковага, а той абыходзіў выпівохнага аргументоўца.

Восень, зіму і вясну праліпелі мужчына і жанчына адно бліз другога. Старасць і адзінота піхнулі аднаго насустрач другой, турбота і ўзаемадапамога, боязнасць паўтарыць колішнія прыкрыя памылкі надзейна іх звязвалі, трымалі поруч.

## V

Позны зольны ліпеньскі вечар. Галіна ў хаце. За гэтыя месяцы пагладчэла, набыла ўпэўненасць і санавітасць.

— Пайду ў пограб, бульбу прынясу, — завіхтаваўся раптам Алесь.

— Дробнай не бяры...

— Павучы, — прабубнеў ён у сенцах.

Гаспадыня рыхтавала вячэру, глядзела тэлевізар. Мужыка не было, не хвалявалася. Сустрэў якога пасябручка, пацёгся ў кампанію. Так было ці раз? Цісне пячонка, а гарэлачкі не выракаецца.

Часам жанчыне неспакойнела. Трэба заглянуць у пограб, і не магла адарвацца ад тэлесерыяла. З сябе смяялася. Пограб ад ганку шэсць метраў, нічога з вопытным мужыком здарыцца ў ім не можа, а пайсці па вуліцах шукаць Алеся — што ў мора. Усе пазавуголлі і дворы сельгаспасёлка не абыдзеш.

«Трэба схадзіць у пограб», — зноў непрывычна клопатная думка. Мужна адганяла. Здзяцінела баба, цвярозаму мужыку паўвядра бульбы прынесці не даверае. Абыякаўства і гультайства валодала ёю.

Прачнулася як ад рэзкага штуршка. Дзе Алесь? Трэба выйсці на вуліцу, мо' напіўся і валяецца поруч весніцаў? Не, нікуды не пойдзе. Хай намерзнецца, п'яніца, даўжэй піць не будзе. П'яніцу не шкадавала п'янтоска.

Двойчы прачыналася, ніколі так не бяссоніла, ні разу не выплыла з хаціны.

За дзвесце кіламетраў адтуль на доследнай станцыі глебазнаўцаў «Падалессе» на Гомельшчыне прачнуўся Ігар Бадановіч. Гаспадар клікаў яго. «Шкада, я далёка. Што з ім?» — занепакоіўся Бадановіч. Заўтра пазвоніць у Мінск, папытае.

А Алесь тым часам паміраў, цяжка і недарэчна паміраў. У пограбе. Зношаны хварабітны мужчынка пакаўзнуўся скураным тапкам на аслізлай драўлянай прыступцы, не ўхваціўся за парэнчу, не ўтрымаўся за шурпатую слізкую сценку, зрэзмаху стаў падаць. Інстынктыўна вопытны да падзенняў чалавек бярог галаву: утуліў у плечы, абшчаперыў рукамі.

Галаву збярог, не стукнуўся аб разгародку, сценку ці падлогу. Пяцідзесяцівасьмігадовому мужчыну ўсё роўна не пашанцавала. Бокам нанізаўся на вострыя доўгія зубы металічных грабляў.

Немы страшэнны боль, і бяссілле, нярухнасць. Спрабаваў крычаць. Сам сябе не ўчуў. Дбайна зачыненыя дзверы пограба і прыгрэбіцы надзейна глушылі голас.

Зацісную раны, сцяўся. Зараз прыйдзе Галя, пакліча медыкаў... Заўзгадваліся выпадкі, калі сам не памог людзям. Хацця просьма прасілі. Нямала навукоўцаў ён асадзіў — з артыкуламі, дысертацыямі, працай, кар'ерай. Верылася, усё правільна, нічога страшнага, сыйдзе.

Не сыйшло. Гніў, а цяпер зусім паміраe, надта рана, да пенсіі не дажыў.

Ачнуўся Алесь праз гадзіну. Ад зацяплелaсці. Кеміў, адыходзіць. Крыві нацякло... Выкрыкваца чалавек не мог, шаптаць таксама. Сківіцы ў спазме.

Спрабаваў выбрацца з праклятага пограба. Тады кіне чым у вакно, лядачая курва адарвецца ад тэлевізара, гляне, дзе мужык.

Малец ускарабкаўся на ногі — і асеў ад слабасці. Закружылася галава.

— Галю! Няўжо не чуеш! — «Божа, праведны...». Заядлы атэіст узгадаў Бога.

«Як усё рана». І другая думка: «Палова ягоных пасябрукоў-сабутэльцаў, якіх старанна распойваў, даўно зямлю парацць».

Хацеў паўзці па прыступках уверх. Не здолеў. Не змог і лаўчэй прымасціцца на падлозе...

## VI

Праляцелі гады. Новая восень. На вуліцах Пінска часта шкрэбаецца адзінокая панылая постаць сівой неахайнай жанчыны.

Колішняя алкагаліца Галіна Кудрук ідзе і мармыча бязладныя словы. Яе немагчыма зняважыць крыкам, штуршком, пасміхам.

Плакала з-за сябе і кінутых дзяцей, ростані з Алесем. Яна дзецям даравала, перад усімі выбачалася, Алесю даравала раннюю смерць, па яе віне. Усе ваколішнія рана сыходзяць, адна яна затрымалася. Гневаецца на смерць. Чаму не не забірае ў апраметную?

Пасля доўгіх гадоў барацьбы з усімі на свеце яна перамагла адну сябе. Не змаўляючыся з першым мужам Іванам і апошнім Алесем, паўтарае іх словы. Кліча смерць, не дакліча.

— Няўжо добрую смерць трэба заслужыць? — выстогнівае жанчына горка-горка.

Разумее, некалі паводзілася дурніцаю, нічога з плоцевасцю парабіць не магла, дый не жадалася, — ёй слодычна, прыемна, астатнее нуль, наплявaць...

Памылялася, ну памылялася, вышэптвала цяпер.

Галіна Кудрук забівала сябе — рыўкамі і паступова, хвілінамі і тыднямі. Забівала ўласны дух і цела. Стала не проста шлюндраю — васцянкаю, тваннаю жывой, ванючай.

Яе не шкадуюць староння. Каго выракліся ўласныя дзеці, таго не сагрэюць чужыя. Хіба хто з заезджых спачуўна азірнецца на агідную постаць напаўжабрачкі ў смярдлівых лахманах. З усіх можных грахоў, даступных жаночай істоце, Галіна зрабіла амаль усе.

Прырода і Бог узнагароджваюць і караюць строга па заслугах: за зробленае і незробленае. Асабліва цяжка на тых вагах жанчыне, першай асобе жывога ў прыродзе — за ненараджэнне дзяцей, невыхаванне. Галіна зневажэнне крэўных і чужых зарабіла. Поўнасцю.

Уся трагедыя яе была ў тым, што васцянка і алкагалічка, як бы не выжальбоўвалася, як бы не лаяла ўладу і парадкі, камуністаў і дэмакратаў, выдатна ведала: апрача ўсіхнае пагарды нічога не дачакаецца. Не заслужыла. Сілы неба і падземнасці ўплываюць на кожнага. Яна ж выбрала не проста цемру — апраметную цемру...

*29 жніўня аўтару — Валеру Аляксеевічу Санько — споўнілася 75 гадоў. Жадаем яму трываласці і аптымізму!*

# У вянок памяці

**7 жніўня ў Празе памёр дзеяч беларускага замежжа спадар Юрка Станкевіч.**

Ён нарадзіўся 18 сакавіка 1928 г. у Вільні ў сям'і вядомага беларускага мовазнаўцы Яна Станкевіча і чэшкі Марыі Новакавай. Эміграваў у Нямеччыну, затым пераехаў у ЗША. Працаваў інжынерам. Выдаваў часапісы "Belarusian Review" і "Крывія". У 1999-ым пераехаў у Прагу.

Ён быў сябрам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, заснавальнікам суполкі беларусаў у Чэхіі «Пагоня», напісаў падручнік па гісторыі Беларусі для беларускіх школ за мяжою, уклаў беларускую чытанку.

Быў шчырым, сардэчным, душэўным – сапраўдным беларусам.

Дзеяч беларускай дыяспары ў ЗША, дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку Вітаўт Кіпель такімі словамі адгукнуўся на адыход свайго сябра: «Юрка Станкевіч – гэта частка майго пакалення. Пакалення людзей, якія перажылі Другую сусветную вайну і апынуліся на Захадзе... Ён служыў беларускаму грамадству, перш за ўсё арганізоўваючы школы і розныя калектывы грамадскага профілю. І гэта быў ягоны ўклад у справу адраджэння Беларусі».

А паэт Сяргей Панізьнік узгадаў, як 13 кастрычніка 1990 года спадар Юрка Станкевіч захацеў наведаць Смаргоншчыну. Разам з Сяргеем Шупам яны разам пабывалі ў Крэве, Гальшанах, на замчышчы ў Лоску. У Арлянятах



На здымку Сяргея Панізьніка Юрка Станкевіч — на замчышчы ў Лоску...

пакланіліся сімвалічнай магіле кс. Адама Станкевіча. ...І згадаў свой верш, прысвечаны яшчэ жывому і сонечнаму сябру:

### Крэўская муроўка

*(Верш ад імя Юркі Станкевіча са зборніка "Пры сьвячэньні..." Сяргея Панізьніка)*

*«Па маці я – чэх. Беларус напалову.*
*Я верны даверу, прызнальнаму слову.*
*А што ў нас упоўну? Вярнуўшыся з лову*
*хто балт напалову, крывіч напалову...*
*Вякі прасявалі мякіну-палову.*
*Я ў стоптаным жыце жывы напалову:*
*направа, налева лажылі галовы...*
*Да трэці мы ў згубе, а то да паловы.*
*І толькі дзе Крэва акрэсліла змову, –*
*муроў час пакінуў папраўдзе палову.*
*А колькі свабоды век даў на дамову*
*ўдзяржавіць астатнюю Крэва палову?*
*Мы Дом умацуем глыжамі і цэглаю...*
*Мы – нацыя!*
*Будзьма сціяною с у ц э л ь н а ю!»*

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 8 (96) | 29 жніўня 2014 | № 32 (401) Новы Час



Эдыт НЭСБІТ
(1858–1924)

# Апошні цмок



Ты, канечне, ведаеш, што калісьці цмокі былі такія ж звычайныя, як у наш час аўтобусы, і амаль такія ж небяспечныя. Але паколькі кожнаму добра выхаванаму прынцу належала забіць цмока-змея і выратаваць прынцэсу, колькасць тых істотаў усё памяншалася ды памяншалася, і таму часта прынцэсе бывала не так ужо і лёгка знайсці таго цмока, ад якога прынц мусіў яе ўратаваць. Урэшце цмокі зваліся і ў Францыі, і ў Германіі, і ў Гішпаніі, і ў Італіі, і ў Расіі. Некалькі, праўда, засталося ў Кітаі — яны і цяпер там ёсць, але тамтэйшыя цмокі халодныя і бронзавыя, а ў Амерыцы, як вядома, цмокаў дык і ўвогуле зроду не бывала.

Апошні сапраўдны жывы цмок жыў у Англіі — зразумела, гэта было вельмі даўно, яшчэ да таго, як пачалася так званая Гісторыя Англіі. Жыў ён у вялізных пячорах корнуэльскіх скалаў і быў вельмі прыемным цмокам. Даўжыня яго была амаль сямнаццаць футаў ад кончыка страшэннага носа і да вастрыя жудаснага хваста. Ён выдыхаў дым і полымя і перасоўваўся з ляскатам, бо яго панцыр быў з жалезнай лускі. Яго крылы былі як палавінкі парасона або як крылы кажана, толькі большыя ў тысячы разоў. Усе яго вельмі баяліся — і так яно і мусіла быць.

У караля Корнуэла была адзіная дачка, і ў шаснаццаць гадоў яна, зразумела, мусіла сустрэцца з цмокам: каралеўскім дзецям заўсёды расказвалі нанач казкі пра гэта, так што Прынцэса ведала, што яе чакае. Канечне, цмок не з'еў бы Прынцэсу, бо на паратунак прыйшоў бы прынц. І ўсё ж яна не магла пазбавіцца думкі, што нашмат прыемней было б увогуле не мець з цмокам ніякіх справаў — нават ратавацца ад яго яна не хацела.

— Усе прынцы, якіх я ведаю, такія бесталковыя! — казала яна бацьку. — Няўжо гэта так абавязкова, каб мяне ратаваў прынц?

— Так заўсёды было, мая любая, — сказаў Кароль, здымаючы карону і кладучы яе побач з сабой на траву: яны былі адны ў садзе, а каралям таксама трэба калі-нікалі расслабіцца.

— Мілы бацька, — сказала Прынцэса, даплёўшы рамонкавы вянок і ўсклаўшы яго на галаву Караля замест кароны. — Мілы бацька, а ніяк нельга адправіць да цмока замест мяне каго-небудзь з гэтых бесталковых прынцаў? А я б потым прыйшла, забіла цмока і ўратавала яго. Я валодаю мячом нашмат лепш за любога са знаёмых мне прынцаў.

— Ну, хіба выхаваныя людзі... я хацеў сказаць, лэдзі, так гавораць? — сказаў Кароль, надзяваючы карону, бо якраз заўважыў, што да іх ідзе Міністр і нясе цэлую кучу свежаспечаных законапраектаў на подпіс. — І думаць забудзь, дзіця маё. Я ўратаваў тваю маці ад цмока, і, спадзяюся, ты не захочаш паставіць сябе вышэй за яе?

— Але ж гэты цмок апошні. Ён не такі, як іншыя цмокі.

— Чаму?

— Бо ён такі адзін, — сказала прынцэса і пайшла на ўрок фехтавання, якім займалася з вялікай стараннасцю. На іншых занятках яна таксама была вельмі старраннай, бо заставалася вернай свайму жаданню памерацца сіламі з цмокам. Старанне яе было такім вялікім, што яна зрабілася самай моцнай, адважнай, умелай і разважнай прынцэсай у Еўропе. А самай прыгожай і мілай яна і так заўсёды была.

Міналі дні і гады, і ўрэшце настаў дзень перад тым, калі Прынцэса мусіла быць уратаванай ад цмока. Прынц, якому прызначалася здзейсніць гэты подзвіг, быў бледны, з вялікімі вачыма; галава яго была забітая матэматыкай ды філасофіяй, але да фехтавання ён, на жаль, быў зусім абыякавы. Гэтую ноч ён мусіў правесці ў палацы Караля, дзе зладзілі банкет.

Пасля вячэры Прынцэса адаслала да Прынца свайго папугайчыка з такой запіскай:

«Прашу цябе, Прынц, выйдзі да мяне на тэрасу. Я хачу пагаварыць з табой так, каб нас не чулі. Прынцэса».

І Прынц, безумоўна, выйшаў. Ён здалёк убачыў яе срэбную сукню між ценяў, што падалі ад дрэваў: яна ззяла, нібыта вада ў зіхаценні зораў. Падышоўшы да Прынцэсы, ён сказаў:

— Я да тваіх паслугаў, Прынцэса, — і, апусціўшыся на схаванае пад парчой калена, ён прыклаў руку да свайго схаванага пад парчой сэрца.

— Як думаеш, — проста спытала Прынцэса, — зможаш ты забіць цмока?

— Я заб'ю яго, — рашуча адказаў Прынц, — або загіну ў бойцы!

— Які толк, што ты загінеш? — спытала Прынцэса.

— Гэта найменшае, што я магу зрабіць, — адгукнуўся Прынц.

— Баюся я, гэта будзе найбольшым, што ты зможаш зрабіць, — запярэчыла Прынцэса.

— Гэта адзінае, што мне застанецца, калі я не заб'ю цмока, — сказаў Прынц.

— Чаго я не разумею, дык гэта навошта табе ўвогуле для мяне штосьці рабіць, — сказала Прынцэса.

— Але я сам гэтага хачу, — сказаў ён. — Таму што я люблю цябе больш за ўсё ў свеце!

З гэтымі словамі ён так ласкава паглядзеў на Прынцэсу, што нават пачаў ёй крыху падабацца.

— Слухай, — сказала яна. — Заўтра на двор ніхто выходзіць не будзе. Яны прывяжуць мяне да скалы і пакінуць, а самі хуценька разбягуцца па дамах, пазачыняюць аканіцы і будуць сядзець там, пакуль ты, абвяшчаючы сваю перамогу над цмокам, з трыумфам не праедзеш праз горад, і ззаду за табой, рыдаючы ад шчасця, на кані не буду сядзець я.

— Я чуў, што так яно і бывае, — сказаў Прынц.

— Тады скажы, ці кахаеш ты мяне настолькі, каб як найхутчэй прыйсці і развязаць мяне? І тады мы разам пабіліся б з цмокам.

— Гэта для цябе небяспечна!

— Для нас абодвух будзе нашмат бяспечней, калі я буду вольная і з мячом у руцэ, а не звязаная і бездапаможная. Ну што, згода?

Прынц не мог ёй адмовіць ні ў чым. І ён згадзіўся. А наступным днём усё было так, як Прынцэса і апісвала.

Ён абрэзаў вяроўкі, якімі яна была прывязаная да скалы, і вызваліў яе. Яны стаялі на самотным горным схіле, гледзячы адно на аднаго.

— Як на мяне, — сказаў Прынц, — усю гэтую цырымонію можна было б зладзіць і без цмока.

— Яно можна б, — згадзілася Прынцэса, — але калі ўжо цмок быў заўсёды...

— Шкада неяк забіваць яго. Усё ж ён апошні ў свеце, — сказаў Прынц.

— Ну дык і не будзем забіваць, — сказала Прынцэса. — Давай лепш яго прыручым, каб ён еў не прынцэс, а ласункі з іх рук. Кажуць, дабрынёй можна ўтаймаваць любога.

— Каб утаймаваць кагосьці дабрынёй, трэба яго чым-небудзь пачаставаць, — сказаў Прынц. — У цябе ёсць што-небудзь з ежы?

У яе нічога не было, але Прынц успомніў, што ў яго з сабой ёсць пару печывак.

— Мы снедалі так рана, — патлумачыў ён, — і я падумаў, што ты можаш прагаладацца пасля бойкі.

— А ты галава, — сказала Прынцэса, і кожны ўзяў у руку па печыўку. Яны зірнулі туды, зірнулі сюды — але цмока не было і знаку.

— Але вунь жа ягоны хвост! — крыкнуў Прынц і паказаў туды, дзе пашкрэбаная і пашарпаная скала ўтварала сцяжыну, што вяла ў цёмную пячору. Гэта было падобна да каляінаў на якой-небудзь сасэкскай дарозе разам са слядамі чаек на марскім беразе. — Бачыш, вунь там ён цягнуў свой медны хвост і чапляўся стальнымі кіпцюрамі.

— Давай лепей не думаць, якія цвёрдыя ў яго кіпцюры і хвост, — сказала Прынцэса, — а то я так і палохацца пачну... а я ведаю, што калі некага баішся, то яго ніяк не ўтаймуеш, нават дабрынёй. Давай жа! Цяпер ці ніколі.

Яна ўзяла Прынца за руку, і яны пабеглі сцяжынай насустрач цёмнай пашчы пячоры. Але ў саму пячору яны не ўвайшлі. Там і праўда было ну вельмі цёмна.

Дык вось, яны спыніліся перад пячорай, і Прынц гукнуў:

— Эгэй! Цмок! Гэй там, у пячоры!

Яны пачулі, як з пячоры нехта адазваўся, адтуль пачулася рыпенне і гучны грукат. Гучала гэта ўсё так, нібыта там прачыналася, пацягваючыся пасля сну, вялізная прадзільная фабрыка.

Прынц і Прынцэса задрыжалі, але адважна засталіся стаяць.

— Цмок! Гэй, цмок! — гукнула Прынцэса. — Выходзь, нам трэба пагутарыць. Мы прынеслі табе падарунак.

— Ну-ну, як жа, знаю я вашыя падарункі, — грымотным голасам зароў цмок. — Зноў нябось адна з вашых задавастых прынцэсак! А мне зноў ісці з ёй біцца! Дык вось, зарубіце сабе на носе: я і з месца не скрануся! Ад сумленнай бойкі я б не адмаўляўся — я згодны біцца на роўных, але ўдзельнічаць у гэтай вашай паказушнай гульні, дзе ты ўсё адно павінен прайграць, — ну не! Я вам вось што скажу. Калі б я хацеў прынцэсу, я б прыйшоў і забраў бы яе — тады, калі мне зручна. Толькі я не хачу. Вось скажыце, ну забраў бы я яе — і што б я з ёй потым рабіў?

— З'еў бы, а што яшчэ? — крыху дрыготкім голасам адказала Прынцэса.

— З'еў бы? Ды яна ж жорсткая як смык! — даволі груба запярэчыў цмок. — Ніколі б і не дакрануўся да такой брыдоты.

Голас Прынцэсы зрабіўся больш упэўненым.

— А печыва ты любіш? — спытала яна.

— Не, — прарычэў цмок.

— А такія маленькія і прыгожанькія дарагія печыўкі з цукрам наверсе?

— Не, — прарычэў цмок.

— Дык а што ты любіш? — спытаў Прынц.

— Ідзіце прэч і не турбуйце мяне больш! — рыкнуў на іх цмок, і было чуваць, як ён пераварочваецца ў сваёй пячоры, і грукат ды ляск ад гэтага пераварочвання адбіваліся рэхам ад пячорных сценаў, быццам там працавалі паравыя молаты вулвічскага Арсеналу .

Прынц і Прынцэса пераглянуліся. Што ім цяпер рабіць? Вярнуцца і расказаць Каралю, што цмок не захацеў змагацца за Прынцэсу? Гэта не мела ніякага сэнсу: Яго Вялікасць быў вельмі старамодным і нізашто б не паверыў, што навамодны цмок мог быць зусім не такі, як старамодны. Увайсці ў пячору і забіць цмока яны таксама ніяк не маглі. Пакуль ён не нападзе на Прынцэсу, яго ўвогуле забіваць было б неяк несумленна.

— Ну нешта ж ён мусіць любіць! — прашаптала Прынцэса і пачала клікаць цмока голасам салодкім, як мёд і цукровы трыснёг: — Цмок! Міленькі цмок!

— ШТО? — усклікнуў цмок. — Скажы так яшчэ раз!

І яны пачулі, як цмок паўзе да іх праз цемру пячоры. Прынцэса затрымцела і гукнула яшчэ раз тоненькім-тоненькім галаском:

— Цмок! Мілы цмок!

І тады цмок выйшаў. Прынц выцягнуў свой меч, а прынцэса — свой (гэта быў вельмі прыгожы меч са срэбным тронкам, які Прынц прывёз сюды на сваім аўтамабілі). Але яны не напалі. Яны павольна адыходзілі назад, пакуль цмок вылазіў з пячоры на ўсю сваю аграмадную лускаватую даўжыню і, напаўразгарнуўшы вялізныя крылы, уладкоўваўся на скале ў сваім зыркім срабрыстым убранні, што пераліваліся на сонцы, як дыяменты. Урэшце Прынцу і Прынцэсе не засталося куды адступаць: іх спыніла

цёмная скала, што ўзвышалася за імі. Прыціснуўшыся да яе спінамі, яны застылі ў чаканні, сціснуўшы ў руках мячы.

Цмок падпаўзаў усё бліжэй і бліжэй. Цяпер яны бачылі, што ён не дыхае агнём і дымам, як яны думалі. Ён падпаўзаў да іх павольна, крыху выгінаючыся, як гэта робяць шчанюкі, калі хочуць, каб з імі пагулялі, але не зусім упэўненыя, ці не прагоняць іх.

І тады яны ўбачылі буйныя слёзы, што каціліся па медных шчоках цмока.

— Што з табой? — спытаў Прынц.

— Ніхто яшчэ, — усхліпваючы, прамармытаў цмок, — не называў мяне мілым!

— Не плач, мілы цмок, — сказала Прынцэса. — Мы будзем называць цябе так, колькі захочаш. Мы хочам прыручыць цябе.

— Я і так ручны, — сказаў цмок, — праўда! Толькі ніхто, апроч вас, пра гэта не ведае. Я такі ручны, што гатовы есці з вашых рук.

— Што есці, мілы цмок? — спытала Прынцэса. — Печыва ж ты не любіш?

Цмок марудна пахітаў цяжкай галавой.

— А што б ты з'еў, калі не печыва, мілы цмок? — пяшчотна спытала Прынцэса.

— Вашая дабрыня мяне проста абяззбройвае! — сказаў цмок. — Раней ні ў кога з нас яшчэ не пыталі, што б мы хацелі з'есці. Заўсёды нам падсоўвалі ахвярных прынцэс, а потым іх ратавалі. І ніхто ні разу не спытаў: «А што б ты хацеў выпіць за здароўе нашага Караля?» Гэта так жорстка, так несправядліва! — і цмок расплакаўся зноў.

— А што б ты хацеў выпіць за нашае здароўе? — пацікавіўся Прынц. — Мы сёння збіраемся ажаніцца — праўда, Прынцэса?

Прынцэса адказала, што таксама так думае.

— Што б я выпіў за вашае здароўе? — перапытаў цмок. — Ах, вы проста сапраўдны джэнтльмен, сэр! Адмаўляцца не стану, сэр. Для мяне было б гонарам выпіць за здароўе вас і вашай цудоўнай нявесты зусім маленькую кропельку… — тут ён спатыкнуўся, — калі ўжо вы так ласкава мяне просіце… — прамармытаў ён. — Сэр, я б хацеў толькі маленечкую к-к-кропельку б-б-бензіну, — гэта вельмі к-к-карысна для цмокаў, сэр…

— У мяне шмат у машыне, — сказаў Прынц і стралою кінуўся да падножжа гары. Ён выдатна разбіраўся ў характарах і ведаў, што з гэтым цмокам Прынцэсе нічога не пагражае.

— Дазволю сабе смеласць вас папрасіць, — сказаў цмок, — пакуль джэнтльмена няма, ці не маглі б вы — проста каб заняць чымсьці час — зрабіць такую ласку і назваць мяне мілым яшчэ раз? А калі б вы яшчэ паціснулі лапу старому няшчаснаму цмоку, які ніколі не быў нікому ворагам, апрача самога сябе, то гэта быў бы найвялікшы гонар, якога толькі ўдастойваліся цмокі з часоў свайго з'яўлення.

Ён працягнуў сваю аграмадную лапу, і сталёвыя крукаватыя кіпцюры абхапілі ручку Прынцэсы так пяшчотна, як кіпцюры гімалайскага мядзведзя ў Заалагічным садзе маглі б абхапіць кавалак булачкі, які вы сунеце яму праз краты.



Прынц і Прынцэса вярталіся ў палац з трыумфам, а следам за імі, рыхтык паслухмяны сабачка, ішоў цмок. І на вяселлі ніхто не піў за здароўе маладых так шчыра, як ручны цмок Прынцэсы, якому яна адразу ж прыдумала мянушку Фіда.

А калі шчаслівая пара пачала кіраваць уласным каралеўствам, Фіда прыйшоў да іх з просьбай, каб яму таксама знайшлі занятак.

— Можа, вы што-небудзь прыдумаеце і для мяне? — сказаў ён, грукочучы крыламі і выцягваючы кіпцюры. — Мае крылы, і кіпцюры, і ўсё астатняе мусяць прыносіць нейкую карысць — не кажучы пра маё поўнае ўдзячнасці сэрца.

Тады Прынц загадаў зрабіць для цмока спецыяльнае сядло накшталт паланкіна — яно было вельмі доўгае і нагадвала счэпленыя адна з адной верхнія часткі трамвайных вагонаў. У гэтым сядле было сто пяцьдзясят месцаў, і цмок, чым найвялікшым задавальненнем цяпер было прыносіць радасць іншым, ахвотна вазіў да мора групы дзяцей.

Ён лёгка ляцеў у паветры з усімі сваімі ста пяцідзесяццю маленькімі пасажырамі, а потым ляжаў на пляжным пяску, цярпліва чакаючы, калі яны будуць гатовыя вярнуцца. Дзеці былі ад яго ў захапленні і ўвесь час называлі мілым, і ад гэтага слова на вачах цмока кожны раз выступалі слёзы ўзрушэння і ўдзячнасці.

Так ён і жыў, усім карысны і ўсімі паважаны, да таго самага дня, калі некаму собіла згадаць пры ім, што цмокі ўжо выйшлі з моды і што цяпер з'яўляецца ўсё больш сучасных машын. Цмока гэта так засмуціла, што ён папрасіў Караля ператварыць яго ў што-небудзь менш старамоднае, і лагодны манарх адразу ж ператварыў яго ў механічную вынаходку. Так апошні ў свеце цмок стаў першым у свеце аэрапланам.

**Пераклад з ангельскай мовы Алесі Башарымавай**



# Трэба сказаць

***Неўзабаве дачка пойдзе ў першы клас, і скончыцца яе першае дашкольнае жыццё, а маё — другое. Колькі імгненняў з гэтай непаўторнай вечнасці, знітаваных найперш са словам, прапаную чытачам «Літаратурнай Беларусі». Кожная жанчына мусіць нарадзіць хаця б адну чытачку…***

*Аксана СПРЫНЧАН*

### Гром і гром

За вакном навальніца. Маланкі і грымоты. Альжбэта кажа: «Гром». І я пачынаю ёй тлумачыць, што па-беларуску больш слушна «грымоты», а «гром» — больш расейскае слова.

— Ты што, мама, па-беларуску «ГРОМ» (вымаўляецца фрыкатыўны г), а па-расейску ж нейкі «грёём» (вымаўляецца выбухны г)!

І вось тут мама разумее ўсю моц беларускіх грымотаў.

### Дзяды і M&M's

Селі памянуць продкаў, паставілі талерку з ежай, цукерку налілі. Паглядзела на гэта Альжбэта і сказала:

— Хачу, каб нашыя продкі елі ўсё найсмачнейшае, што ў нас ёсць. — І паклала ім банану, зефіру ў шакаладзе, мядзьведзікаў з сухога сняданку, шакаладкі… А пасля знайшла M&M's: — Раней ж такога не было, няхай пакаштуюць.

### Подых зямлі

Як ідзем дваром, Альжбэта раз-пораз спыняецца і робіць у снезе паглыбленні з тлумачэннем: «трэба ж дапамагаць зямлі дыхаць, раптам яна душыцца».

### Трэба сказаць

— Мама, а хіба беларусам прыгожа размаўляць па-расейску?

— Ну… не прыгожа…

— Дык трэба ім сказаць пра гэта.

І што тут скажаш…

### Альжбэта рэдагуе

Напісала я верш «Вожык і ножык»:

*Ціха, дзеці, прыйдзе вожык.*
*Прынясе ён востры ножык*
*І адкроіць скрылік сала.*
*І яшчэ, як будзе мала.*
*І нашчыкае цыбулі,*
*Што гадуецца бабуляй.*
*Дзед жа абярэ часнык,*
*Апетыт каб ваш не знік.*
*А як скажаце: «Не хочам!»,*
*Вожык голкай джыгне ўночы.*

— Ведаеш, мама, перапішы канцоўку, каб вожык не калоўся.

— Навошта?

— А раптам я захачу сала без цыбулі і часныку.

Перапісваю, і дачка ўхваляе:
А як скажаце вы: «Хочам!»,
Вожык вас не ўколе ўночы.

### Жадунак

— Мамачка! Я так хачу, каб грошыкі падалі з неба. І ты не працавала, а чытала мне кніжкі.

### Першыя слёзы ад чытання

Альжбэта вучыцца чытаць. Прыехалі на магілу ейнай прапрабабулі Любові. Глядзіць Альжбэта на шыльдачку, а потым як заплача:

— Чаму на расейскай мове напісана?! Яна ж нашая!

Супакойвала, што на нашых з ёю магілах будзе нашай моваю напісана.

### Трусы вушастыя

Чытаю Альжбэце (пасля таго, як яна сама навучылася чытаць) і адразу замяняю словы кшталту «магазін» і «трусы» на «краму» і «майткі». Слухае-слухае дачка, а потым і кажа:

— Ну, чытай ты, мама, ужо як напісана.

— А скуль жа ты ведаеш, як там напісана?

— Ну я ж сама чытаць умею, у нашых пісьменнікаў заўсёды не «майткі», а «трусы» вушастыя.

### Мы жывем на праспекце Касцюшкі-смяшарыкаў

Ідзем з Альжбэтай з вуліцы Кірава на Энгельса і Маркса.

— Мама, а хто такі Энгельс?

— Нямецкі філосаф, эканаміст.

— Не беларус?

— Не.

— А Кіраў беларус?

— Не.

— А Маркс?

— Не.

— Я хачу, каб былі беларусы.

— Вырасцеш — пераназавеш.

— А я і зараз пераназаву: Кірава — Аксаны Спрынчан, Энгельса — Яраша Малішэўскага, а Маркса — Альжбэты Малішэўскай-Спрынчан.

— Дачушка, дык няможна называць вуліцы імёнамі тых, хто жывы, трэба тых, хто памёр.

— Ну добра, тады вуліца Дзеда Браніслава, Бабы Любы і Бабы Светы. Мама, а ты наш праспект Пераможцаў не хочаш пераназваць?

— Хачу. Можаш прыдумаць, як мы яго называць будзем.

— Калі ў нас паважны настрой, дык няхай будзе праспект Касцюшкі, а калі нам весела — хай будзе праспект Смяшарыкаў.

### Мова і дах

Дом суседу на лецішчы будуюць будаўнікі з Украіны. Папрасіла іх адрапараваць дах свайго лецішча. Альжбэта на арэлях сядзіць з кніжкаю і кліча мяне. Падыходжу:

— Мама, а на якой мове яны размаўляюць? На ўкраінскай ці расейскай?

— На ўкраінскай.

— Ну тады няхай рапаруюць, — дае дазвол дачка.

### Непрыстойная памылка

Альжбэта знайшла памылку ў кнізе Людмілы Рублеўскай пра мышку Пік-Пік: замест «і» ў кнізе «и». Сядзіць і разважае:

— Мама, а як ты мяркуеш, усёткі гэта надта непрыстойная памылка?

— Чаму?

— Ну, ведаеш, было б больш прыстойна рабіць памылкі беларускімі літарамі.

### Хлебная тэма

«Хлеб — найгалоўны, без хлеба не выжыць», — спрабую ўвесь час давесці Альжбэце. Але як тут давядзеш гэтую традыцыю, калі яна можа і не есці хлеба — стае ўсяго, і суп без хлеба есць, і каўбасу, хіба што такая з'ява, як канапка, патрабуе хлеба, і тое дачка вымагае, каб не было «хлебных дзірак», то бок хлеб мусібыць цалкам затулены каўбасою.

Неяк дачка і кажа:

— Мама, ты ведаеш, я зразумела: раней галоўны быў Хлеб, а цяпер Беларусь і Сям'я.

Выбар не такі і кепскі, але я спрабую зноў апавесці пра цудоўны Хлеб.

— Мама, ты паглядзі нават на малюнкі ў кнігах: там хлеб сапраўды найгалоўны, прыгожы, няма цяпер такога.

### Паэтычная парада ад Альжбэты

Нават пяцюдзесяццю тысячамі драбінаў не дабярэшся да неба. Таму не трэба лазіць. Трэба лятаць.

### Малітва за Беларусь

Наведалі на Вербніцу бажніцу. Выйшлі, Альжбэта кажа:

— Мама, а я малілася, каб усе беларусы па-беларуску размаўлялі і каб Беларусь за сябе змагалася.

— А за сябе ты памалілася?

— За сябе — не, у мяне і так усё добра.

# Першая кніга на англійскай мове за 1 860 000$

**На аўкцыёне ў Лондане пайшло з малатка выданне, апублікаванае ў 1474 годзе.**

У сталіцы Вялікабрытаніі адбыўся аўкцыён Sotheby's, на якім вызначылі ўладальніка выдання рамана Рауля Лефеўра «Апавяданні з гісторыі Троі».

Кніга ў перакладзе з французскай з'яўляецца першым асобнікам, надрукаваным на англійскай мове. Гэта адбылося ў горадзе Бругге. У той час амаль усе кнігі ў Еўропе выдаваліся на латыні.

Друкарня ў лонданскім Вестмінстары з'явілася на два гады пазней, у 1476-м. Выхад першай ангельскай друкаванай кнігі датуецца 1477 годам (гэта была кніга «Выказванні філосафаў», якая змяшчала разважанні і цытаты вялікіх мудрацоў).

Прадстаўнікі аўкцыёна паведамілі, што за кнігу спаборнічалі трое калекцыянераў, і канчатковы кошт — 1 860 000 $ — амаль у паўтара разы павысіўся ў параўнанні са стартавай стаўкай.

# Кнігі ўкраінскіх пісьменнікаў вывозяць з Севастопаля

**Пасля анексіі Крыма Расіяй з бібліятэкі Чарнаморскага вышэйшага ваенна-марскога вучылішча, размешчанага ў Севастопалі, былі канфіскаваныя 10 000 тамоў украінскай літаратуры.**

Замяніць кнігі вядомых аўтараў, якія сталі класікамі ўкраінскай літаратуры, плануюць зборамі твораў Пушкіна і Цютчава. Па словах Мікалая Арлова, старшыні Санкт-Пецярбургскага Марскога сходу, вучылішчу ўжо адпраўлена першая партыя ў 1670 тамоў; у бліжэйшы час будучым ваенным маракам паступіць яшчэ 3000 кніг.

Акрамя мастацкіх твораў, бібліятэцы Чарнаморскага вышэйшага ваенна-марскога вучылішча з Санкт-Пецярбурга плануецца перадаць працы Мікалая Карамзіна і Пятра Сямёнава-Цян-Шанскага, кнігі пра фінскую вайну 1939–1940 гадоў, мемуары расійскіх паэтаў, пісьменнікаў, гісторыкаў. М. Арлоў выказаўся пра кнігі ўкраінскіх класікаў дастаткова вызначана: на іх творах «немагчыма падрыхтаваць расійскага флоцкага афіцэра». Куды менавіта адпраўлена ўкраінская літаратура, пакуль не паведамляюць; старшыня Санкт-Пецярбургскага Марскога сходу сказаў толькі, што кнігі перададуць Кіеву, аднак, спаслаўшыся на крайнюю занятасць, працэс і тэрміны перадачы «непрыдатных» твораў каментаваць адмовіўся.

# Сяргей Даўлатаў — у тапаніміцы Пецярбурга

**Намеснік старшыні камісіі па гарадской гаспадарцы, горадабудаўніцтву і зямельных пытаннях Санкт-Пецярбурга Барыс Вішнеўскі гатовы асабіста выступіць з ініцыятывай пра прысваенне імя Сяргея Даўлатава адной з лакацый горада. Імя пісьменніка можа быць прысвоена скверу ў цэнтры горада.**



Фота: slovopres.com

Крыху раней рашэнне пра прысваенне імя расійскага пісьменніка-эмігранта адной з вуліц Нью-Ёрка было прынята ў ЗША. Шыльды «Sergei Dovlatov Way» дададуць да старой назвы вуліцы «63rd Drive» у Форэст-Хілз у раёне Куінс на выспе Лонг-Айленд. Сяргей Даўлатаў пасяліўся ў доме на рагу «108 Street» і «63 Drive» праз два гады пасля пераезду ў Нью-Ёрк у 1979 годзе. Тут пісьменнік пражыў да самай смерці і быў пахаваны на раённых могілках. Сям'я Даўлатава жыве на «63rd Drive» дагэтуль. Улады амерыканскага горада пагадзіліся разгледзець анлайн-петыцыю пра прысваенне вуліцы новай назвы пасля таго, як былі сабраныя 17 тысячаў подпісаў. Гарадская рада Нью-Ёрка не стала чакаць неабходных 20 тысячаў, прыняўшы да ўвагі шырокую грамадскую падтрымку ініцыятывы. 10 ліпеня распараджэнне было падпісана мэрам горада Білам дэ Блазіо. Афіцыйная цырымонія адкрыцця пройдзе ў сярэдзіне верасня.

Мемарыяльныя шыльды ў памяць пра Даўлатава усталяваны ў Санкт-Пецярбургу, Таліне і Уфе. У чэрвені гэтага года ў Пскоўскай вобласці Расіі адкрыўся музей Даўлатава.

# «120 дзён Садома» — нацыянальны здабытак Францыі

**«Сто дваццаць дзён Садома» сталі першым сур'ёзным творам дэ Сада. Навэла была напісана ў 1785 годзе ў Бастыліі, куды маркіз быў змешчаны за разбэшчаныя паводзіны.**



Баючыся канфіскацыі рукапіса, дэ Сад перапісаў свае чарнавікі дробным почыркам на рулоне паперы, даўжыня якога склала 12 метраў. Гэтая праца заняла ў яго 37 дзён.

У 1789 годзе ўлады ахопленай рэвалюцыйнымі настроямі Францыі прынялі рашэнне перавесці дэ Сада за межы Парыжа. У спешцы ён быў вымушаны пакінуць усе свае запісы ў камеры. Да самай смерці дэ Сад быў перакананы, што рукапіс знік падчас разграблення Бастыліі раз'юшаным натоўпам, і вельмі шкадаваў. Аднак, як высветлілася значна пазней, «Сто дваццаць дзён Садома» захаваліся. Напрацягу некалькіх пакаленняў раман захоўваўся ў нашчадкаў арыстакратычнага роду Вільнеў-тран. У першай палове XX стагоддзя рукапіс перайшоў у архівы ўжо нашчадкаў маркіза дэ Сада. Але ў 1982 годзе ён быў незаконна прададзены ў калекцыю вядомага збіральніка рэдкіх літаратурных твораў Жэрара Нордмана ў Швейцарыю, дзе і заставаўся да нядаўняга часу.

Арыгінал навэлы маркіза дэ Сада выкупіў французскі бібліяфіл Жэрар Лерыцье. Перамовы аб вяртанні рукапісу на радзіму дэ Сада вяліся тры гады. Неўзабаве Лерыцье мае намер падаць заяву, каб унесці манускрыпт у спіс нацыянальнага здабытку, пасля чаго, магчыма, ён будзе перададзены ў калекцыю Нацыянальнай бібліятэкі Францыі.

# Чытанне дзецям услых — карыснае для развіцця



**Амерыканская акадэмія педыятрыі абвесціла новыя прынцыпы, паводле якіх дактарам рэкамендуюць гаварыць з бацькамі не толькі пра карысць здаровага харчавання і прафілактыкі захворванняў, але і пра тое, што чытанне дзецям услых і размовы з дзецьмі з першых дзён жыцця малога карысныя для развіцця.**

Гэтыя меры былі прынятыя ў выніку сумеснай ініцыятывы Фонда Клінтана і праграмы «Next Generation», накіраванай на скарачэнне «слоўнага разрыву» і павышэння якасці жыцця дзяцей.

Даследаванне паказала, што 5-гадовыя дзеці з сем'яў, якія знаходзяцца ў цяжкім матэрыяльным становішчы, чуюць на 30 мільёнаў слоў менш у параўнанні з малымі са шчаслівых сем'яў. Улічваўся і той факт, што колькасць слоў, пачутая ад бацькоў, уплывае на слоўнікавы запас дзяцей, што ў далейшым уплывае на поспехі ў вучобе.

Педыятры ў ЗША аглядаюць за год каля 16 мільёнаў дзяцей ва ўзросце да 5 гадоў. Менавіта таму інфармаванне бацькоў праз дактароў дазволіць дасягнуць добрых вынікаў у прапагандзе чытання дзецям услых.

Даследаванне таксама паказала, што дзеці, якім бацькі чыталі кожны дзень, пасля таго, як былі здольныя чытаць самі, шмат часу праводзілі з кнігай. У сувязі з гэтым прэзідэнт ЗША нядаўна выступіў за падтрымку гэтай ініцыятывы. Барак Абама мяркуе, што ў бліжэйшы час неабходна ўнесці змены ў адукацыйныя праграмы для дзяцей дашкольнага ўзросту.

# Помнік Высоцкаму ў Магадане

**Помнік паэту, спеваку і акцёру Уладзіміру Высоцкаму адкрылі ў Магадане.**



Жанравая скульптура Юрыя Рудэнкі пад назвай «Я распавяду табе пра Магадан» усталявана ў раёне назіральнай пляцоўкі ў бухце Нагаева.

Помнік уяўляе сабою скульптурную постаць Высоцкага ў натуральную велічыню з гітарай у руках. Яго адкрыццё было прымеркавана да 75-годдзя Магадана.

«Наш горад валодае адмысловай магіяй і сілай прыцягнення. Невыпадкова нават моцна занятыя ў тэатры і кіно Уладзімір Высоцкі знайшоў шчыліну ў цвёрдым графіку і «махнуў» сюды, у Магадан. І пакінуў у спадчыну чалавецтву пранізлівыя песні пра наш горад», — адзначыў на цырымоніі адкрыцця помніка губернатар Магаданскай вобласці Уладзімір Печаны.

У Магадане, у газеце «Магаданскі комсомолец» працаваў журналістам вядомы паэт-песеннік Ігар Каханоўскі, які быў сябрам, аднакласнікам і аднакурснікам Высоцкага па МІСІ. Яго ад'езду з Масквы ў 1964 годзе прысвечана песня «Мой сябар з'ехаў у Магадан». У 1968 годзе Высоцкі сам пабываў у горадзе і напісаў пра яго яшчэ некалькі вядомых песняў.

# Прэмія імя Шукшына

**Шукшынская літаратурная прэмія сёлета ўпершыню прысуджана пісьменніку з Алтая.**

Пераможцам стаў Анатоль Кірылін з кнігай «Пасля гонга».

А тым часам кватэра ўдавы Васіля Шукшына, вядомай актрысы Лідзіі Федасеевай-Шукшыной, была абрабавана невядомымі. Злодзеі выкралі каштоўнасці, грошы, а таксама некаторыя рукапісы Шукшына. Менавіта ў гэтай кватэры на вуліцы Бочкава, у доме № 5, у апошнія гады жыў Васіль Шукшын. На доме нават ёсць памятная шыльда...

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў The Guardian, Daily Express, Deutsche Welle, Positime, The Bookseller, prostokniga.com.ua, BBC, vsiknygy.net.**

Літаратурная Беларусь

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

TV

## 7 ВЕРАСНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.20** Меладрама «Раман у лістах» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна). Заключная серыя.
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.10** Каробка перадач.
**13.45** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**14.45** Нашы.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Прыгодніцкая камедыя «Астэрыкс і Абелікс ў Брытаніі» (Францыя).
**17.30** Меладрама «Мядовая каханне» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Камедыйная меладрама «Француз» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**00.15** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна). Заключная серыя.

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. Пін-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.20** Премьра. «Эдуард Хіль. Абдымаючы неба...».
**11.20** Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**11.45** Мастацкі фільм «Не было смутку..».
**13.00** Прыгодніцкі фільм «Неверлэнд».
**14.10** Драма «Вось я які».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Жыхары акіянаў».
**17.20** Камедыя «Замарожаны».
**18.50** «Я люблю Беларусь».
**20.00** Контуры.
**21.05** Прэм'ера сезона. «Ледніковы перыяд».
**23.50** Камедыя «Далей ад цябе».

### СТВ

**06.00** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**07.35** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.55** Фільме «Няпрошаныя госці» (ЗША, 2005).
**10.00** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Тэрыторыя памылак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**13.40** Фільм «Гангстэры ў акіяне» (СССР - Паўднёвая Карэя - ЗША, 1991 г.).
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Канцэрт М.Задорнава.
**18.25** СТВ прадстаўляе: вячэрні шоу «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Эпідэмія» (ЗША, 1995).
**23.00** Шоу «Арганізацыя Вызначаных Нацый».
**00.30** Фільм «Трэцяя зорка» (Вялікабрытанія, 2010 г.).
**02.00** «Дакументальны спецпраект».

### Беларусь 2

**07.05** Мастацкі фільм «Казка падарожжаў» (СССР - Чэхаславакія).
**08.50** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**10.05** Мазгавы штурм.
**10.40** Тэлебарометр.
**10.45** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**11.20** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**12.55** Псіхалагічны дэтэктыў «Метад Фрэйда» (Расія).
**15.05** Вышэй за дах.
**15.45** Баявік крымінальным баявіку «SWAT: Спецназ горада анёлаў» (ЗША).
**18.05** «Comedy Баттл. Без межаў». Забаўляльная шоу-праграма (Расія).
**19.15** Суперлато.
**20.05** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Мазгавы штурм.
**21.45** Серыял «Універ. Новы інтэрнат».
**23.20** Псіхалагічны дэтэктыў «Метад Фрэйда» (Расія).

### Беларусь 3

**07.35** «Калейдаскоп».
**07.45, 12.50** «Галасы з мінулага». Да 95-годдзя з дня нараджэння заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь, пісьменніка Алеся Асіпенкі.
**07.50** «Тысячагадовы Заслаўль». Дак. фільм.
**08.20** «Капітан Фракас». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**10.35** «Размаўляем па-беларуску».
**10.40** «Подых струн». Музычная праграма.
**11.20** «Наперад у мінулае».
**11.45** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**12.35** «Калейдаскоп».
**12.55** «Навукаманія». Праз церні да зорак.
**13.20** «Лёсы палонных генералаў». «Уманская яма». Дакументальны фільм.
**14.05** «Старыя казкі». Гісторыя стварэння дзіцячага прыгодніцкага фільма «Корцік».
**14.30** Дзіцячае кіно. «Корцік». 1-я - 3-я серыі.
**18.00** «Калейдаскоп».
**18.10** «Галасы з мінулага». Да 95-годдзя з дня нараджэння заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь, пісьменніка Алеся Асіпенкі.
**18.20** «Культурныя коды». Дак. фільм, прысвечаны ўзнікненню славянскага пісьменства.
**18.45** «Культпрасвет».
**19.15** Сусветнае кіно. «Іванава дзяцінства».
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.20** Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-2014». Паэтычная гасцёўня «Каб любіць Беларусь...».
**22.10** «Я, Францыск Скарына». Мастацкі фільм.
**23.45** «Культпрасвет».
**00.15** «Калейдаскоп».
**00.25** «Тысячагадовы Заслаўль». Дак. фільм.

### Беларусь 5

**07.50** Футбол. Суперкубак Іспаніі. «Атлетыка» (Мадрыд) - «Рэал» (Мадрыд).
**09.50** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Плэй-оф. «Вайводзіна» (Сербія) - «Татран» (Славакія).
**11.20** Пляжны футбол. Кваліфікацыя да ЧС-2015. Беларусь - Грузія.
**12.30** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Плэй-оф. БГК ім. Мяшкова (Беларусь) - «Таргес-Бево» (Нідэрланды).
**14.00** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Рыга) - «Дынама» (Мінск).
**15.55** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Плэй-оф. Прамая трансляцыя.
**17.30** Пляжны футбол. Кваліфікацыя да ЧС-2015. Расія - Беларусь. Прамая трансляцыя.
**18.30** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Плэй-оф. Прамая трансляцыя.
**20.15** Аўтаспорт. Чэмпіянат Беларусі. 4-ы этап.
**21.15** Пляжны футбол. Кваліфікацыя да ЧС-2015. Расія - Беларусь.
**22.30, 23.55** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Плэй-оф.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Прыгоды і паходы», «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі», «Ліс Леон».
**07.45** «Зорны пірат», тэлесерыял: 6 серыя.
**08.15** Свабода без гальштукаў!
**08.40** «Апантаныя», дак. цыкл: Для дзетак.
**09.00** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**09.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.40** «Ядвабныя шляхі. Дарогі сустрэчаў», дак. фільм, 1997 г., Кітай–Турцыя.
**10.50** «Традыцыйная кітайская медыцына», дак. фільм, 2003 г., Канада–Германія.
**11.30** Аўтаспынам па Беларусі.
**11.45** Моўнік (лінгвістычная праграма): Дзяржаў ці дзяржаваў, моў ці моваў?
**12.00** Казкі для дзетак: «Прыгоды і паходы», «Аповеды таты Бабра», «Вынаходлівы ўнучок».
**12.35** «Зорны пірат», тэлесерыял: 6 серыя.
**13.00** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: канцэрт гурта «B:N:».
**13.25** «Крызіс у раі», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**14.25** «Дамова з Гітлерам», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**15.25** «Барбурка», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**16.35** «Два каханні», маст. фільм, 2002 г., Польшча–Германія.
**18.05** «Курапаты – шлях сумлення», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**18.35** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**18.40** Калыханка для самых маленькіх: «Ліс Леон».
**18.50** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**19.10** «Апошнія дні СССР», дак. фільм, 2011 г., Францыя.
**20.05** «Ізгоі», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.15** Фільматэка майстроў: «Бывайце, дзеці..», маст. фільм, 1987 г., Францыя.
**23.00** Лета з дэтэктывам: «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял 5 серыя.
**23.45** «Прыехалі ўланы», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**00.40** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: канцэрт гурта «B:N:».

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234 .**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА
ф. ПС 112
**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**
ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)
(сумма цифрами) (сумма прописью)
ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926
КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)
ОТПРАВИТЕЛЬ
почтовый код, адрес отправителя, телефон)
АДРЕС
Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное
(назначение платежа)
(письменное сообщение)
Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ___________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. **Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ
ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)
Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926
(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня ________
Кассир Всего ________

# Іспанія маладая

**У іспанскіх партыях рэвалюцыя генерацый — арганізацыі паўсюль узначальваюць людзі ва ўзросце 35–40 гадоў. Пра прычыны феномену і сітуацыю ў Іспаніі журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з прафесарам універсітэта Севільі Альвара Раарувез.**



***— За апошні месяц «памаладзелі» лідары ў такіх аўтарытэтных партыях, як Іспанская сацыялістычная аб'яднаная рабочая партыя (PSOE) і Аб'яднаная левая (IU). Прэса гаворыць, што гэта толькі пачатак. З чым гэта звязана?***

— З выхадам на палітычную сцэну праекту Podemos. На майскіх выбарах у Еўрапарламент гэтае аб'яднанне, што, дарэчы, нарадзілася толькі 5 месяцаў таму, атрымала больш за мільён галасоў. Усяго за іх галасавала каля 8 працэнтаў іспанцаў, што дазволіла Podemos адправіць у Брусэль пяць дэпутатаў. Кіраўніцтва Podemos складаюць вельмі маладыя для сур'ёзнай палітыкі асобы. Так, яе лідару Пабла Турыёну ўсяго 36 гадоў.

Праект Podemos не паўстаў на голым месцы. Яго генезіс звязаны з моладзевым рухам M25, які пару гадоў таму выступаў супраць беспрацоўя праз акупацыю цэнтральных плошчаў гарадоў. Сам рух паступова сканаў, аднак праз нейкі час яго актыў зноў заявіў пра сябе ў апошніх пратэстах супраць прыватызацыі. Кансерватыўны ўрад зараз прапануе прыватызацыю публічных школ і шпіталяў, што выклікала акцыі пратэсту настаўнікаў і медыкаў. Таксама вялікі маштаб мае рух супраць спекуляцый жыллём. З-за крызісу шмат іспанцаў не ў стане выплачваць іпатэку, што пагражае ім высяленнем на вуліцы. Podemos стаў інфармацыйна-каардынацыйным цэнтрам «хваляў» — так называюць гэтыя пратэсты. Другая прычына запыту на такую палітсілу — крызіс даверу да старой палітычнай эліты, якая моцна звязаная з банкаўскім бізнэсам. Прычым гэта не падабаецца нават кансерватыўнаму выбаршчыку. Так, у Мадрыдзе 10 працэнтаў электарату кансерватыўнай Народнай партыі (PP) галасавалі за Podemos. Тая ж тэндэнцыя сярод выбаршчыкаў сацыялістаў. Апошнія выбары таксама ўвайшлі ў гісторыю, паколькі ўпершыню з часоў дыктатуры дзве вядучыя нацыянальныя партыі PSOE і PP разам сабралі менш за палову галасоў тых, хто прагаласаваў.

***— Прадстаўнікі Народнай партыі запусцілі ў прэсу інфармацыю пра тое, што Podemos атрымлівае грошы з Каракаса.***

— Пабла Турыён, сапраўды, прымаў удзел у нейкіх гуманітарных праграмах у Венесуэле. Гэта вельмі папулярна сярод іспанскай моладзі — паехаць у Венесуэлу і на правах валанцёра працаваць у нейкім сацыяльным цэнтры, якія Чавес шмат будаваў апошнім часам. Калі б Венесуэла падтрымлівала Podemos, бюджэт іх выбарчай кампаніі быў бы значна большы за тыя 20 тысяч еўра, якія яны інвеставалі ў выбары. Акрамя таго, рыторыка Podemos адрозніваецца ад праграм левых партый як Венесуэлы, так і Іспаніі. Тут больш кажуць пра неабходнасць развіваць гарызантальную сетку сацыяльных праектаў, грамадзянскіх ініцыятыў, якія будуць займацца маніторынгам дзейнасці банкаў, энергетычных кампаній. Вялікую ўвагу Podemos надае практыцы інтэрнэт-галасавання па найбольш важных і актуальных для краіны пытаннях.

***— Як Podemos ставіцца да ідэі незалежнасці Каталоніі?***

— Podemos, сыходзячы з прынцыпаў базавай дэмакратыі, прызнае права каталонцаў самім вызначаць лёс сваёй айчыны. Іншая справа, што сам рэферэндум можа не адбыцца. Каталонская ўрадавая партыя «Канвергенцыя і саюз» (CiU), якая лабіравала ідэю рэферэндуму, аказалася ў крызісе. Высветлілася, што адзін з яе лідараў доўгі час сыходзіў ад выплаты падаткаў. У дадатак у партыі пачаўся бунт, паколькі частка яе чальцоў выступае супраць рэферэндуму. Гэта фракцыя лічыць, што буйной каталонскай буржуазіі, інтарэсы якой прадстаўляе CiU, лепш і далей жыць па старой формуле адносін з Мадрыдам. Паводле гэтай формулы, цэнтр дае Каталоніі шмат грошай, каб яна заставалася ў складзе іспанскай дзяржавы. Іншымі словамі, лёс рэферэндуму пад пытаннем.

***— Як людзі ставяцца да ракіроўкі на іспанскім каралеўскім троне? Ці падняўся давер да манархіі пасля таго, як Хуан Карлас перадаў карону свайму сыну Філіпу?***

— Папулярнасць Бурбонаў і інстытуту манархіі застаецца стабільнай. Ёсць сегмент іспанцаў, якім прыемна, што ў краіне манархія з яе ўсякімі шыкоўнымі рытуаламі, сямейнымі скандаламі. Ёсць сегмент, які лічыць, што манархія — гэта артэфакт часоў дыктатуры, які гвалтоўна навязалі іспанцам. Магчыма, падыходы да манархіі будуць мяняцца пасля заканчэння судовага працэсу над мужам сястры караля, якога падазраюць у выкраданні сродкаў з публічных фондаў.

***— Вы жывяце ў Андалузіі, якая была адным з вядучых экспарцёраў апельсінаў і лімонаў на расійскі рынак. Што кажуць людзі пра наступствы пуцінскага эмбарга?***

— Пакуль эканоміка рэгіёну не адчула наступстваў. Сярод простых людзей ёсць вялікая надзея на кампенсацыі з Брусэля і на тое, што ўкраінскі канфлікт хутка скончыцца. У любым выпадку, я б не казаў, што эмбарга Пуціна нанясе смяротны ўдар па нашай эканоміцы і па людзях. Асноўнае падзенне ўзроўню жыцця мы ўжо перажылі.

***— Па суседству з Андалузіяй знаходзіцца брытанская калонія Гібралтар. Падчас выбарчай кампаніі Народная партыя абяцала вярнуць яго ў склад Іспаніі. Ёсць нейкія зрухі ў гэтай сферы?***

— Сёння мала каго цікавіць Гібралтар як частка Іспаніі. Гэта пытанне гучала ў часы дыктатуры. Цяпер Гібралтар — гэта частка Еўрасаюзу, куды ўваходзіць таксама Іспанія. Для простых іспанцаў лепш захаваць статус-кво, паколькі праз Гібралтар ідзе шмат кантрабанды, і тыя ж цыгарэты можна купіць там удвая танней. Што тычыцца палітыкаў, то іх непакоіць хутчэй тое, што гэта адзін з самых буйных афшораў у свеце. У Гібралтары з насельніцтвам каля 30 тысяч чалавек зарэгістравана каля 100 тысяч фірмаў. Прыкладна палова капіталу сыходзіць з Іспаніі ў шэрыя банкаўскія зоны, і Гібралтар — ледзь не галоўны канал для такіх трансфераў.

***— Ці чакаюць Іспанію якія-небудзь буйныя палітычныя падзеі?***

— Зараз ідуць кансультацыі паміж Podemos, экс-камуністамі і сацыял-дэмакратамі. Галоўная інтрыга — ці сфармуюць яны кааліцыю напярэдадні муніцыпальных выбараў, што пройдуць увесну. Гэта будзе рэпетыцыя выбараў у парламент. Прыход гэтага блоку да ўлады можна будзе параўнаць з перамогай Народнага фронту ў 1936-м. У такім выпадку, як і тады, Іспанію чакаюць вялікія перамены. Думаю, першым крокам стане федэралізацыя краіны.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Як паказваюць СМІ, важную ролю ў арганізацыі сустрэчы Парашэнкі і Пуціна адыграў гаспадар мінскага саміту Мытнага саюза Аляксандр Лукашэнка. Цікавасць Лукашэнкі празрыстая. Незалежна ад выніку, ён выходзіць на першы план, дэманструючы гатоўнасць узяць на сябе ролю пасярэдніка ў канфлікце паміж дзвюма вядучымі дзяржавамі на постсавецкай прасторы. Гэта сур'ёзна падымае яго як палітыка міжнароднага ўзроўню і дае выйгрыш для іміджу ўнутры краіны. Яна (Беларусь) становіцца пляцоўкай для камунікацыі паміж цэлымі групамі дзяржаў. Для Мінска гэта вялікі поспех, шанец пабудаваць шматвектарную палітыку, умацаваць сваю незалежнасць, павысіць міжнародны аўтарытэт, заваяваць альтэрнатыўныя рынкі.

**«BBC» (Вялікабрытанія)**

Сітуацыя ва Украіне гуляе на руку Лукашэнку. У параўнанні з Уладзімірам Пуціным, ён ужо не выглядае «апошнім дыктатарам Еўропы», як яго называюць на Захадзе. Адносіны паміж Беларуссю і ЕС пачынаюць размарожвaецца. Прадстаўнікі МЗС Беларусі на ўзроўні намеснікаў міністра і самога міністра пачалі сустракацца з амбасадарамі краін ЕС, аднавіліся кансультацыі аб спрашчэнні візавага рэжыму паміж Беларуссю і ЕС. Урэшце, хто б мог уявіць яшчэ паўгода таму, што ў Мінск прыляцяць адразу тры камісары? Нядаўна кіраўнікі вядучых кампаній з нямецкім капіталам далі ацэнку інвестыцыйнай прывабнасці Беларусі, і яна апынулася вышэй, чым ва Украіны і Расіі. Самы высокі бал атрымаў пункт «палітычная стабільнасць», хоць раней немцы невысока ацэньвалі беларускі рэжым у кантэксце інвестыцыйнай прывабнасці.

**«Украинская правда» (Украіна)**

Яшчэ ў мінулым годзе лідары беларускай апазіцыі сышліся ў меркаванні, што на выбары–2015 варта вылучыць адзінага кандыдата ад дэмакратычных сіл, каб не паўтарыць сітуацыю 2010 года. Тады апазіцыйныя лідары пайшлі на выбары «табуном», і з Аляксандрам Лукашэнкам сапернічалі адразу дзевяць кандыдатаў ад розных апазіцыйных груп. Было вырашана, што адзіны кандыдат ад апазіцыі павінен абапірацца на рэсурсы і актывістаў усіх дэмакратычных рухаў — гэта дазволіла б яму скласці рэальную канкурэнцыю Лукашэнку, які нязменна кіруе краінай ужо больш за 20 гадоў. Аднак дамовіцца лідары апазіцыі так да гэтага часу і не змаглі. У выніку ўсё больш назіральнікаў прыходзяць да высновы, што кангрэс хутчэй за ўсё наогул не адбудзецца.

**«Русская планета» (Расія)**

Сёння ўкраінскі крызіс аслабляе адносіны Расіі з партнёрамі па Мытным саюзе. Нягледзячы на тое, што ў руках Лукашэнкі не так шмат козыраў, ён ведае, што без удзелу Беларусі праект будзе пахаваны. Пазіцыя Назарбаева мацней: яго козыр, у першую чаргу, гэта Пекін, з якім ён падтрымлівае добрыя эканоміка-палітычныя адносіны. Відавочна, што абодва партнёра бачаць у ЕАЭС не спосаб умацаваць Расію, а хутчэй спосаб умацаваць сябе праз супрацоўніцтва з Расіяй. Немалаважныя і эканамічныя інтарэсы. У красавіку Расіі давялося пайсці на саступкі партнёрам у выглядзе 33 мільярдаў долараў штогод. А гэта значная сума. На думку некаторых экспертаў, яна нават занадта вялікая для расійскай эканомікі.

**«Parlamentnilisty» (Чэхія)**

Літаральна праз некалькі дзён пасля ўвядзення Расіяй эмбарга на сельгаспрадукцыю з ЕС, кіраўнік Рассельгаснагляду заявіў пра спробу рээкспарту забароненых еўрапейскіх гародніны і садавіны праз Беларусь. Эксперты лічаць, што гаворка ідзе зноў пра шэрыя схемы, якімі беларусы карыстаюцца з пачатку 1990-х гадоў. На думку аналітыкаў, падобны бізнэс не можа квітнець без падтрымкі дзяржаўных інстытутаў.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Бландзінкі і ісламскі тэрарызм

Брытанскі часопіс «New Stateman» нейкім чынам атрымаў доступ да кампутараў грамадзян Аб'яднанага Каралеўства Юсуфа Сарвара і Махамеда Ахмеда, якія адправіліся ваяваць на Блізкі Усход, дзе зрабілі сабе кар'еру ў апараце Ісламскай дзяржавы Сірыі і Іраку (ISIS). Таксама высветлілася, што напярэдадні адпраўкі на фронт Юсуф і Махамед замовілі праз інтэрнэт-краму кнігі «Іслам для чайнікаў» і «Каран для чайнікаў». Іншымі словамі, у ісламскіх дактрынах яны не надта разбіраліся. Гэта на першы погляд камедыйная гісторыя дазволіла сацыёлагам па-іншаму паглядзець на з'яву радыкальнага ісламізму на Захадзе. Відавочна, што рэлігійны радыкалізм у дадзеным выпадку з'яўляецца формай пошуку новай «крутой» ідэнтычнасці. Але самае незвычайнае, што шматлікія радыкальныя ісламісты перад сыходам у тэрарызм мелі раман з еўрапейскімі светлавалосымі дзяўчатамі. Выданне задаецца пытаннем — магчыма, арганізацыяй тэрактаў мужчыны хацелі ўзняць свой аўтарытэт у вачах сяброваk?

**Паводле брытанскай прэсы**

### БАШКІРЫЯ. Бежанцы павінны вывучыць башкірскую мову

Незвычайная гісторыя адбылася з групай бежанцаў з Данбасу, што пераехалі жыць у Башкірыю. Тут іх цёпла сустрэлі і, натуральна, далі магчымасць публічна ў СМІ выказаць свае думкі накошт апошніх падзей ва Украіне. Падчас інтэрв'ю перасяленцы вельмі моцна крытыкавалі культурную палітыку Кіева, якая праяўлялася ў прымусовай украінізацыі рускамоўнага насельніцтва Данбасу. Які ж у іх быў шок, калі стала вядома, што дзеці бежанцаў у верасні павінны будуць вучыць башкірскую мову. Арганізацыі перасяленцаў звярнуліся з просьбай да Міндукацыі аўтаномнай рэспублікі — вызваліць дзяцей ад прадмета. Аднак міністэрства засталося вельмі суровым. У спецыяльным дакуменце яно заявіла, што ўсе дзеці, якія вучацца ў школах аўтаноміі, павінны вучыцца пісаць і размаўляць па-башкірску.

**Паводле расійскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Цалаваць забаронена




У фокусе грамадскіх дэбатаў Казахстана — змест рэкламнага банера, што з'явіўся ў мясцовым сеціве 24 жніўня. На банеры, які рэкламуе нейкі фестываль рэкламы, выяўлены класік рускай літаратуры Аляксандр Пушкін і вядомы казахскі кампазітар Курмангазы Сагырбайулы, якія цалуюць адзін аднаго. На наступны дзень пасля дэманстрацыі банера ў краіне пачаўся скандал. Нашчадкі кампазітара заявілі, што меў месца замах на іх гонар, а тутэйшыя патрыёты ўвогуле кажуць, што пацалунак пісьменніка і музыкі — атака на казахскую традыцыю. Хаця аўтары банера аператыўна прынеслі прабачэнні за свой учынак, хутка за імі выехала міліцыя. Цяпер лёс мастакоў-дызайнераў не вядомы, а творчая грамадскасць Казахстану баіцца пачатку рэпрэсій за любую арт-правакацыю. Між тым, некаторыя нацыяналісты віталі гэты банер. На іх думку, Пушкін выяўлены на банеры як нябожчык, што метафарычна сімвалізуе смерць Расійскай імперыі. Таму пацалунак жывога казаха і мёртвага рускага класіка дэманструе перамогу маладой нацыі над былымі каланізатарамі.

**Паводле казахскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Вялікая перамога незалежнікаў

Баскскія нацыяналісты гучна святкуюць рашэнне Міжнароднай федэрацыі па перацягванні каната (TWIF) прыняць баскаў у свае шэрагі ў якасці асобнага сябра. Усяго ў сусветную федэрацыю ўваходзяць 17 краін. Іспанскай секцыі ў TWIF няма, аднак у арганізацыі прадстаўлены краіны, урады якіх таксама баяцца сепаратызму. Таму баскаў прынялі ў TWIF не аднагалосна. Супраць іх прыёму галасавала чатыры краіны. Тым не менш галасоў «за» хапіла, каб аматары перацягвання канату з Краіны Баскаў змаглі атрымаць статус сябра. Зборная рэгіёну ўжо на наступным тыдні адправіцца ў штат Вісконсін у ЗША, дзе адбудзецца сусветны чэмпіянат па гэтаму віду спорту.

**Паводле іспанскай прэсы**

# Мінскі саміт: усё толькі пачынаецца

*Алег НОВІКАЎ*

**Дазволю сабе гіпотэзу пра тое, што на гэтым тыдні ў свеце быў пабіты абсалютны рэкорд па колькасці публікацый са словамі «Мінск» і «Беларусь».**




Пра Беларусь (прычым на вокладках і галоўных старонках інтэрнэт-сайтаў) згадвала практычна кожнае вядучае выданне ў свеце. Прэса і экспертная супольнасць актыўна каментуюць вынікі мінскага саміту.

А вось што тычыцца тону матэрыялаў пра вынікі мінскага саміту, то, на жаль, большасць з іх маюць песімістычны прысмак: перамовы, як прызнаюць шматлікія аналітыкі, не далі канструктыву, і перш за ўсё ў пытанні міру на Данбасе.

Праўда, практычна ўсе напярэдадні прызнавалі, што такі варыянт падзей быў бы фантастычным. У Мінску ўкраінцы ні пры якіх умовах не перайшлі б чырвоную лінію — не адмовіліся б ад Крыма і не пагадзіліся б прызнаць самаабвешчаныя рэспублікі Данбасу суб'ектамі перамоўнага працэсу. Менавіта гэта і трэба Маскве.

Таму расійская тактыка ў Мінску, як піша нямецкі «Die Welt», заключалася ў тым, каб увогуле асабліва тэму Данбасу і Крыму не чапаць. У расійскай аналітычнай супольнасці папулярная думка пра тое, што зрух у перамоўным працэсе паміж Расіяй і Украінай накошт Крыму і Данбасу магчымы пасля таго, як зменіцца пазіцыя ўкраінскіх эліт і пазіцыя насельніцтва. А для такіх пераменаў час яшчэ не прыйшоў.

Магчыма, таму накошт тэмы вайны на ўсходзе Украіны Пуцін на агульнай сустрэчы абмежаваўся толькі заявай аб тым, што сітуацыю «нельга вырашыць шляхам далейшай эскалацыі сілавога сцэнару без уліку надзённых інтарэсаў паўднёва-ўсходніх рэгіёнаў краіны і без мірнага дыялогу з іх прадстаўнікамі». Значна больш ён казаў пра неабходнасць захаваць рынак Мытнага саюзу ад тавараў з ЕС, які пойдуць сюды пасля далучэння Украіны да асацыяцыі з Еўрасаюзам. Парашэнка ж, наадварот, больш гаварыў пра важнасць палітычнага ўрэгулявання ваеннага крызісу, чым пра эканоміку.

Так ці інакш, ключавым вынікам саміту стала рашэнне аднавіць дыялог па газавым пытанні. Перамовы па энергетычных пытаннях з удзелам міністраў паліва і энергетыкі Украіны, Расіі і Еўрапейскага саюза адбудуцца 6 верасня. Таксама бакі дамовіліся да 12 верасня сфармуляваць пытанні, якія ў Расіі і краін Мытнага саюза ўзнікаюць з нагоды асацыяцыі Украіны і ЕС. Парашэнка таксама нешта сказаў пра дарожную карту да міру на Данбасе, аднак публіцы нават тэзісна пра яе змест не распавёў.

Нягледзячы на такі сціплы і ўзаемнапрымальны афіцыйны вынік сустрэчы, ура-патрыёты абедзвюх краінаў пабачылі ў яе выніках поўны і адназначны канфуз сваіх супернікаў.

Так, «Украінская праўда» піша: «Парашэнка выкарыстаў перамовы ў Мінску для непасрэдных кантактаў і ўплыву на прэзідэнтаў Беларусі і Казахстана, таксама незадаволеных эканамічнай экспансіяй Масквы. Пад носам у Пуціна Парашэнка правёў дэманстрацыю новых магчымасцяў Украіны, якую падтрымлівае эканамічна магутны Еўрасаюз. Рэакцыя Назарбаева была красамоўнай — казах заявіў, што не бачыць пагрозы для сваёй краіны ў супрацоўніцтве Брусэля і Кіева. Пасля правядзення перамоў у Мінску знікаюць неафіцыйныя прычыны затрымкі ратыфікацыі Дамовы аб асацыяцыі з Еўрасаюзам. Камісары ЕС прынялі ўдзел у перамовах з краінамі Мытнага саюза, і гэта нейтралізуе аргументы прарасійскага лобі ў Еўропе пра нібыта шкоду асацыяцыі з Украінай для еўрапейскага бізнэсу ў Расіі. Ну і план Пуцін—Меркель, як гэта часта бывае, апынуўся фікцыяй».

У Кіеве лічаць перамогай ужо само з'яўленне Парашэнкі ў мінскім Палацы незалежнасці. «Напярэдадні саміту ў Мінску Уладзімір Пуцін рабіў усё для таго, каб сарваць прыезд туды ўкраінскага прэзідэнта», — пра гэта ў эфіры «5 канала» сказаў былы надзвычайны і паўнамоцны пасол Украіны Раман Бяссмертны. «Расія выскоквала з штаноў, спрабуючы сарваць візіт прэзідэнта Парашэнкі ў Мінск», — сказаў дыпламат. У прыватнасці, паводле яго слоў, такую мэту мела спроба атакі Марыупаля. «Само з'яўленне Парашэнкі прывяло Пуціна ў шок. Гэта было відаць, ён толкам не можа прачытаць тэкст. Відавочна, што прэзідэнт Пуцін здзіўлены пазіцыяй Еўрапейскага саюза і Украіны і з'яўленнем Парашэнкі ў Мінску», — адзначыў ён.

Славянафільскі лагер таксама святкуе перамогу. «Мяркуючы па тым, што Парашэнка не захацеў удзельнічаць у сумеснай прэс-канферэнцыі па выніках сустрэчы, яго настолькі ўразілі маштабы страт Украіны, што ён уцёк пагаварыць з Кэтрын Эштан» («Аргументы и Факты»).

«Падкрэсленым сыходам ад абмеркавання палітычнага складніку ўкраінскага крызісу Пуцін паказаў, што не лічыць Парашэнку раўнапраўным партнёрам для вырашэння пытанняў вайны і міру, бо гэта прадмет для перамоваў Масквы і Вашынгтона. У той жа час зараз адміністрацыя Барака Абамы не гатовая да прамых расійска-амерыканскіх перамоваў на гэтую тэму» («РБК»).

Больш салідныя СМІ акцэнтуюць увагу на самім факце пачатку дыялогу. «Пуцін і Парашэнка сустрэліся, абмяняліся інфармацыяй. Гэта было галоўным зместам сустрэчы ў Мінску. Першы крок зроблены, а значыць, за ім будуць і іншыя крокі» («Deutsche Welle»). Прарывам, на думку нямецкага агенцтва, з'яўляецца той факт, што бакі ў ходзе перамоваў пагадзіліся, што сітуацыя на паўднёвым усходзе Украіны — гэта гуманітарная катастрофа.

Амерыканскі канал «Fox News» увогуле лічыць, што паразуменне паміж краінамі непазбежнае, паколькі бакі адразу слушна пачалі абмяркоўваць не абстрактныя рэчы, а казаць пра эканоміку, якая ляжыць у аснове канфлікту. «Галоўны вынік мінскай сустрэчы Парашэнкі і Пуціна — прызнанне важнасці пытання аб гандлі. Урэшце, менавіта канфлікт двух гандлёвых саюзаў стаў перадумовай вайны на Украіне», — упэўнены адзін з экспертаў, які пракаментаваў для канала вынік саміту.

Наколькі рэалістычныя такія прагнозы, мы даведаемся дастаткова хутка. Саміт толькі закончыўся, і яго абмеркаванне, па выніках якога будзе фармулявацца павестка дня наступнай сустрэчы, толькі пачалося.

# Што задумаў Саакашвілі?

Алег НОВІКАЎ

**Створаны Міхаілам Саакашвілі ў Кіеве «Штаб вызвалення Грузіі» поўным ходам рыхтуе паўтор рэвалюцыі ружаў. Наколькі рэальныя планы экс-прэзідэнта вярнуцца ў Тбілісі на белым кані?**



**Пракуратура капае пад Саакашвілі па шэрагу спраў: разгон апазіцыйнай акцыі ў лістападзе 2007-га, неправавы захоп тэлестудыі «Імедзі»...**

24 ліпеня экс-прэзідэнт Грузіі Міхаіл Саакашвілі стварыў у Кіеве «Штаб вызвалення Грузіі». У штаб акрамя яго ўвайшлі дэпутаты ад партыі «Нацыянальны рух», а таксама шэраг былых чыноўнікаў ягонай адміністрацыі.

Неабходнасць стварэння штабу, па словах яго аўтараў, звязаная з відавочнымі геапалітычнымі праваламі новага рэжыму ў Тбілісі. Нагадаем, што цяпер усе галіны грузінскай улады сканцэнтраваныя ў руках партыі «Грузінская мара», нефармальным патронам якой ёсць алігарх Іванішвілі.

Як лічаць у штабе, каманда Іванішвілі цягне Грузію да страты суверэнітэту. І першым крокам у гэтым накірунку стала здрада Украіне. Новы грузінскі ўрад трымаецца нейтралітэту ва ўкраінскім пытанні. «Нягледзячы на тое, што ва Украіне адбываюцца вельмі цяжкія падзеі, у адносінах з Расіяй Грузія павінна быць «арыентавана на ўласныя інтарэсы»,— заявіў прэм'ер краіны Іраклій Гарыбашвілі. Такім чынам, на думку нацыяналаў (так часта называюць прыхільнікаў апазіцыі), быў разбураны адзіны антырасійскі фронт, які доўга будавалі Тбілісі і Кіеў.

Па-другое, дыстанцыя ад украінскага канфлікту яшчэ больш аддаляе тэрмін рэінтэграцыі Абхазіі і Паўднёвай Асеціі. Грузія мела шанс аб'яднаць абхазскае і асецінскае пытанне ў міжнародным прававаым кантэксце з актуальнай для Захаду праблемай Крыму, аднак чамусьці гэтага не зрабіла.

Нарэшце, па словах атачэння Саакашвілі, у Крамлі даўно існуе план акупацыі Грузіі, першай фазай рэалізацыі якога ёсць стварэнне ў грузінскім грамадстве ілюзіі міралюбнасці Масквы. Адсюль спакойнае стаўленне Масквы да нядаўняга падпісання Грузіяй дамовы пра Асацыяцыю з ЕС. «Расія рана ці позна абавязкова зоймецца Грузіяй, але, на жаль, пазіцыя нашага ўраду спрыяе таму, што да таго часу мы апынемся ўжо без належнай падтрымкі міжнароднай супольнасці»,— кажа адзін з прыхільнікаў Саакашвілі.

Выратаваць Грузію ад пераходу пад маскоўскі пратэктарат Саакашвілі збіраецца далёка не парламенцкімі сродкамі. Польская прэса са спасылкай на грузінскія крыніцы піша пра планы арганізаваць грузінскі Майдан. А расійская «Незалежная газета» адзначае, што мэта «штаба» — палітычная актывізацыя ў Грузіі ўжо ўвосень гэтага года.

З часоў прэзідэнцтва Ючшанкі Украіну і Грузію звязваюць асаблівыя, вельмі цёплыя адносіны. Кіеў і Тбілісі нават намагаліся стварыць альтэрнатыву СНД. Партнёрства паміж краінамі захавалася і ў часы Януковіча. Аднак цяпер у ім намеціліся відавочныя расколіны. Немагчыма ўявіць, каб нейкая дзяржава давала пляцоўку для падрыхтоўкі перавароту на тэрыторыі краіны-саюзніцы. Адносіны пастутова пагаршаюцца.

Прыкладам пагаршэння грузінска-ўкраінскіх адносін стаў нядаўні візіт у Грузію памочніка прэзідэнта Украіны, экс-міністра МУС Юрыя Луцэнкі, які прысутнічаў на пасяджэнні апеляцыйнага суду па справе свайго сябра, былога прэм'ера Вано Мерабішвілі. Раней Мерабішвілі быў прысуджаны да 5 гадоў турмы за розныя эканамічныя махінацыі. Пазней яго пакаралі яшчэ на 4,5 гадоў турмы за перавышэнне паўнамоцтваў пры жорсткім падаўленні мітынгу апазіцыі ў 2011 годзе.

Падчас працэсу прысутны ў зале Луцэнка дазволіў сабе шэраг эмацыйных каментараў на адрас суддзі. Ацэнку гэтым пасажам даў асабіста прэм'ер Грузіі Іраклій Гарыбашвілі. Па яго словах, «такія заявы катэгарычна непрымальныя. У Луцэнкі няма ніякіх правоў абражаць суддзю незалежнага суда суверэннай дзяржавы».

Яшчэ адной праявай антыўкраінскай лініі можна лічыць гісторыю вакол фестывалю «Казанціп», які штогод праходзіў у Крыме. Пасля анексіі Крыму мерапрыемства вырашылі перанесці ў Грузію. Аднак тут яго чакаў вельмі халодны прыём. Праваслаўныя актывісты пікетуюць пляцоўку фестывалю, а іх патрулі не даюць аўдыторыі распаволена адпачыць, напрыклад, забараняюць публічна цалавацца. Як пішуць у блогах, грузінскія ўлады заплюшчваюць вочы на ўчынкі прыхільнікаў праваслаўнай маралі. Арганізатары грузінскага «Казанціпу» ўжо падумваюць пра вяртанне ў Крым, што, безумоўна, з'яўляецца перамогай Расіі ў прапагандысцкай вайне з Украінай.

Увогуле, першай рэакцыяй грузінскіх уладаў на навіны пра планы «Штаба вызвалення Грузіі» стала інтэнсіўнае навешванне артыкулаў на экс-гаранта. Пракуратура капае пад Саакашвілі па шэрагу спраў: разгон апазіцыйнай акцыі ў лістападзе 2007-га, неправавы захоп тэлестудыі «Імедзі», перапісванне на сваё імя асабняка аднаго з памерлых грузінскіх алігархаў у Лондане. Як і трэба было чакаць, Саакашвілі не збіраецца супрацоўнічаць са следствам. На сваім акаўнце ў Фэйсбуку ён напісаў, што не верыць судовым і следчым органам Грузіі, а вярнуцца на радзіму плануе ў хуткім часе, «калі ў яго будзе патрэба».

Наколькі рэалістычна вяртанне Саакашвілі? Палітолагі крытычна ставяцца да такога сцэнару. Без падтрымкі Захаду новы Майдан у Тбілісі не мае шансаў. Аднак, калі меркаваць па большасці каментараў у заходняй прэсе, Саакашвілі ўспрымаюць як палітыка ўчорашняга дня. Як піша газета «Newland»: «Акрамя ўкраінскага «плацдарма», у Саакашвілі і нацыяналаў скласіся нядрэнныя адносіны з шэрагам еўрапейскіх палітыкаў з Народнай партыі (правацэнтрысцкае аб'яднанне партый Еўропы) і з некалькімі сенатарамі і кангрэсменамі, сярод іх самы вядомы Маккейн. Але, мабыць, гэта ўсё. Ці можна лічыць гэтую падтрымку звонку дастатковай для вяртання да ўлады ў Грузіі? Наўрад ці». Прынамсі, прэса Польшчы, МЗС якой, як вядома, актыўна сочыць за працэсамі ў краінах СНД, дае вельмі адмоўную ацэнку пражэктам Саакашвілі.

Таму дзейнасць Штабу ў Кіеве можна смела спісаць на падвышаную актыўнасць Саакашвілі. Праблема хіба ў тым, што актыўная гульня Саакашвілі ў Напалеона на Эльбе яўна спрыяе эрозіі грузінска-ўкраінскай Антанты, у якой былі практычныя напрацоўкі па стварэнні альтэрнатыўнага Маскве цэнтра каардынацыі краін СНД.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Шымон Ахаён



Ветэран ізраільскай палітыкі, дэпутат, сябра правай партыі «Наш дом Ізраіль» падаў на разгляд Кнесета законапраект аб адмене параграфа закону аб абавязковай публікацыі ўсіх афіцыйных дакументаў на арабскай мове. Дадзены ўказ быў прыняты ў часы брытанскага мандата ў Палесціне і аўтаматычна зацверджаны часовым заканадаўчым сходам Ізраіля ў 1948 годзе. Адмена ўказу прывядзе дэ-факта да пазбаўлення арабскай мовы статусу дзяржаўнай, захаваўшы гэты статус толькі за іўрытам. Цікава, што да пачатку апошняй фазы канфрантацыі паміж Ізраілем і «Хамас» Кнесет разглядаў абсалютна іншыя законапраекты. Напрыклад, у чэрвені прайшло пасяджэнне, на якім абмяркоўвалася магчымасць змены тэксту гімна краіны і формы дзяржаўнага сцягу. Удзельнікі форуму прапанавалі, сярод іншага, замяніць у тэксце дзяржаўнага гімна словы «яўрэйская душа» на «ізраільская душа», каб кампазіцыя больш пасавала ізраільцянам арабскага паходжання. Агучвалася нават ідэя ўзяць прыклад з Канады і напісаць тэкст гімну Ізраіля на арабскай мове, каб з гімнам магло салідарызавацца і арабскае насельніцтва краіны. Яшчэ адной ініцыятывай было ўнясенне ў бела-блакітны сцяг Ізраіля дадатковай лініі фарбаў палесцінскага сцяга. Цяпер пра тыя ініцыятывы забыліся.

### Клаус Ваверайт



Мэр Берліна ад германскай сацыял-дэмакратычнай партыі (SPD), першы гарадскі кіраўнік, які адкрыта прызнаўся ў тым, што ён гей, абвясціў пра свой сыход у адстаўку. Ён кіраваў мэрыяй Берліна з 2001 года спачатку разам з экс-камуністамі, а пасля ў кааліцыі з хрысціянскімі дэмакратамі. У прынцыпе, з улікам таго, што палітыку споўнілася не так даўно ўжо 60 гадоў, крок выглядае лагічным. Аднак усім зразумела, што галоўнай прычынай сталі праблемы пры будаўніцтве новага гарадскога аэрапорта. Першапачатковы кошт праекту ў 1,7 мільярда еўра па ходу рэалізацыі даваўся пераглядаць. Аказалася, што для новага аэрапорту патрэбна яшчэ амаль 3 мільярды. Пасля таго, як іх узялі з бюджэта горада, давялося прыпыніць рамонт метро, што прывяло да сапраўднага транспартнага калапсу. Рэйтынг Ваверайта цяпер вельмі нізкі. Так ці інакш, у берлінскай секцыі SPD, якая мае самую вялікую фракцыю ў гарсавеце, пачынаецца гонка за права стаць пераемнікам Ваверайта. Найбольшыя шансы, як піша прэса, мае шэф рэгіянальнай партарганізацыі Ян Штос.



### Арсень Яцэнюк

Прэм'ер Украіны ўзначаліў групу раскольнікаў у партыі «Бацькивщина». Пасля таго, як Юлія Цімашэнка асабіста адмовілася ўключыць яго ў топ выбарчага спісу «Бацькивщины» на парламенцкіх выбарах, Яцэнюк з шэрагам прыхільнікаў пакінуў структуру. Разам з ім партбілеты паклалі на стол спікер Вярхоўнай Рады Турчынаў, былы кіраўнік Саўбезу Парубій, дырэктар МУС Авакаў і іншыя вядомыя палітыкі. Раскольнікам, быццам, не спадабалася ідэя Цімашэнка ісці на выбары пад лозунгам апазіцыі Пятру Парашэнку. Замест гэтага яны прапанавалі шукаць з камандай прэзідэнта агульную мову і загадзя падпісаць з ёй пакт аб міры. Цяпер не зразумела, што будуць рабіць Яцэнюк і кампанія, якія, безумоўна, маюць намер застацца ў палітыцы. Стварыць свой асабісты партпраект у іх мала часу, з улікам таго, што выбарчая кампанія стартавала ўжо 28 жніўня. Застацца ісці ў «Салідарнасць» — партыю Парашэнкі, аднак там ужо складзены свой варыянт выбарчага спісу. Так ці інакш, раскол «Батькивщины» робіць сітуацыю напярэдадні выбараў у парламент вельмі незразумелай. Палітолагі баяцца, што гучныя разборкі ва ўкраінскай палітычнай эліце могуць выклікаць рост недаверу выбаршчыка да каманды Майдану і падарваць адзінства грамадства.

# Рок-князёўна Кася Камоцкая

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Кася Камоцкая не толькі стаяла ля вытокаў беларускага року, яна і сёння з'яўляецца адным з прыкладаў таго, што сапраўдны спявак ніколі не бывае «былым».**





**У дзяцінстве Кася гуляла ў «партызаны»: яны лезлі пад накрыты абрусам стол. Гэта была «зямлянка». Туды ставілі самавар вады, акрайчык хлеба і салонку**

## Песні дзяцінства

Магчыма, некаторым гэта падасца даволі спрэчным, але сама Кася Камоцкая прынцыпова лічыць, што чалавек спачатку пачынае спяваць, а потым размаўляць. І не толькі калі дзіця плача. Яе «першая песня» прагучала 22 чэрвеня 1963 года ў адным з мінскіх раддомаў.

Маці будучай спявачкі — Ада Яўгенаўна і бацька — Альфрэд Васільевіч пазнаёміліся яшчэ ў дзяцінстве. Сябравалі. Разам сталі студэнтамі фізфаку БДУ. Вучыліся разам са Станіславам Шушкевічам. Бацька потым увесь час з ім працаваў ва ўніверсітэце. Маці, калі зразумела, што фізіка — гэта не яе, перайшла на тэлебачанне. Спачатку вяла навукова-папулярныя перадачы, потым жаночыя. Працавала там вельмі доўга.

Прозвішча бацькоў — Чалей. Вельмі распаўсюджанае. Перш за ўсё на Беласточчыне. Зразумела, што яно было і дзявочым Касі, чыё імя з'яўляецца старажытным беларускім сінонімам больш вядомай Кацярыны.

Бацькоўскі дом Касі (яшчэ Чалей) месціцца на галоўным праспекце беларускай сталіцы, насупраць цырка. Яго будавалі палонныя немцы. Раней там месціліся камуналкі.

З самага дзяцінства жыццёвыя прыярытэты Касі былі крыху змешчаны ў бок «моцнага полу». У футбол дзяўчынка не гуляла, але лялькі заўсёды разбірала на анатамічныя запчасткі.

Самай важнай гульнёй для яе былі «партызаны». Сутнасць у наступным. Дзеці лезлі пад стол. Стол накрывалі шчыльным абрусам. Гэта была «зямлянка». Туды ставілі амаль вядзёрны самавар вады, акрайчык хлеба і салонку з соллю.

Часам рабіліся вылазкі — паўзком да бліжэйшага акна. Мабыць, нешта ў гэтым адпавядала рэчаіснасці, таму што маці Касі са сваімі бацькамі сапраўды была ў партызанах, і хутчэй за ўсё, за дзіцячай гульнёй стаялі ўспаміны.

У «партызаны» Кася гуляла толькі ўдзвюх з сяброўкай Кацяй. Дзяўчаткі ніколі не палохалі цацачнай зброяй, не бралі ў палон. Проста сядзелі пад сталом і пілі ваду з хлебам.

Яшчэ яны любілі праехацца на каньках па паркеце (калідор быў доўгім), што ў іншых жыхароў камуналкі не выклікала ніякіх пытанняў. Ніхто не звяртаў увагі, што робіцца з паркетам. «Нічыйная» тэрыторыя нікога не хвалявала.

Потым была СШ №24, што спецыялізавалася на нямецкай мове, якая ў Камоцкай даволі неблагая і зараз. Настолькі, што дазваляе чытаць нямецкія тэксты не карыстаючыся слоўнікам.

І ўвогуле, вучылася дзяўчынка ў школе добра. У атэстаце было толькі некалькі чацвёрак. Адна з іх па фізіцы, дарэчы. Настаўнік вельмі здзіўляўся: бацька з маці — фізікі, а дачка пайшла не ў іх.

Пасля школы вырашыла паступаць на гістфак БДУ. Чаму? Адказ вельмі рацыянальны. Як тлумачыць сама Кася, на той час яна была вельмі хітрая. Прыйшла ў БДУ і паглядзела, куды трэба паступаць, каб не было ніякіх лабараторных, кантрольных і г.д. Таму і абрала гістарычны факультэт. Маўляў, галоўнае — вывучыць даты, а ўсё астатняе — «бла-бла-бла». Звычайная гаворка.

Пра той выбар не шкадуе па гэты дзень, хаця ніколі сур'ёзна і не захаплялася гісторыяй. Проста некаторыя рэчы з таго часу сталі больш яснымі і асэнсаванымі.

Яна ўвогуле лічыла, што вучыцца — глупства. А паступіць вырашыла, каб быць «як усе». З яе класа без вышэйшай адукацыі засталіся толькі два чалавекі.

Пасля скончэння ў 1985 годзе БДУ Кася, ужо Камоцкая (выйшла замуж) адразу ж перайшла ў аспірантуру ўніверсітэта, бо з трэцяга курсу ў яе ўжо была іншая спецыялізацыя. Зараз гэта называецца паліталогіяй, а раней было навуковым камунізмам.

Калі б абаранілася, стала б кандыдатам філасофскіх навук. Але жыццё змянілася, і сэнсу ў навуковых рэгаліях у тыя (другая палова васьмідзясятых) часы амаль ніякага ўжо не было.

Ведаю, што многія ставяцца да навуковага камунізму вельмі скептычна. Маўляў, цяжка вывучаць навуку, якой не існуе. Не буду ні з кім спрачацца, адзначу толькі, што Касі вельмі пашанцавала з выкладчыкамі. Выкладаючы навуковы камунізм, яны расказвалі дзіўныя рэчы. Напрыклад, пра Кастуся Каліноўскага.

А Адам Пятровіч Мельнікаў вельмі сур'ёзна ілюстраваў свае тэзісы прыкладамі з твораў Васіля Быкава, якія нават «беларуская нацыяналістка» Камоцкая на той час не чытала.

Пасля аспірантуры (скончыла ў 1988 годзе) Камоцкую размеркавалі ў сацыялагічную лабараторыю пры БДУ, аднак працавала яна там кароткі час. Сваё ўзяў рок.

## Першая князёўна

На гітары Кася Камоцкая навучылася граць яшчэ ў дзяцінстве. Самастойна. У музычную школу яе банальна не прынялі. Сказалі — не падыходзіць. Пазней не раз дзякавала за гэта лёс — шкада дзяцей, якія пасля заняткаў у звычайнай школе яшчэ і займаюцца «музыкай».

Пра ўсе акалічнасці яе знаёмства, вяселля і сумеснай творчасці з Алесем Камоцкім напісана шмат і даволі падрабязна, таму паўтараць яшчэ раз — няма сэнсу. Адзначу толькі, што сямейны дуэт доўга не пратрымаўся, бо ў іх былі цалкам розныя галасы.

І яшчэ. Ад гэтага шлюбу нарадзілася дачка. Таксама Кася.

Неўзабаве, Кася Камоцкая (старэйшая) пачала спяваць адна. Каб зрабіць запіс на радыё, муж параіў ёй свайго гітарыста Лявона Шырына. Так пачалося «Новае неба», якое спачатку было цалкам акустычным — дзве гітары, віяланчэль і скрыпка. Потым з'явіліся і электрычныя інструменты.

Дэбютны альбом называўся «Дзеці чорнага гораду». З'явіўся ён у 1991 годзе і хутка стаў класікай беларускай нацыянальнай песні.

У гэтым жа годзе распаўся шлюб Камоцкіх. Каб вярнуць дзявочае прозвішча, трэба было зноў звярнуцца ў ЗАГС, аднак зрабіць гэта яна банальна забылася, а ў 2000 годзе, калі Кася другі раз выходзіла замуж за рэжысёра дакументальнага кіно Віктара Корзуна, высветлілася, што яна афіцыйна не разведзеная, бо адразу пасля разводу не атрымала пасведчанне аб скасаванні шлюбу...

У той час (як і зараз) немагчыма было адначасова быць непрыдворным спеваком і працаваць у дзяржаўнай структуры. Нават у сацыялагічнай лабараторыі.

Прыйшлося звальняцца «па асабістым жаданні». Спачатку Кася Камоцкая была на «вольных хлябах», а потым пайшла працаваць у часопіс «Спадчына», дзе з большасці займалася перакладамі з польскай мовы на беларускую.

Дарэчы, польскую мову яна нідзе не вывучала. Тая прыйшла «сама па сабе». Вельмі дапамагаў Кастусь Тарасаў. Перакладала гістарычныя метрыкі.

Калектыў падабраўся проста цудоўны — Вячорка, Ракіцкі, Чаропка і г.д. Словам, усе свае.

Было гэта ў перыяд чарговай адлігі, і неўзабаве яе ў складзе гурта «Новае неба» запрасілі працаваць у «Белканцэрце» пры філармоніі. Адпаведны запіс захаваўся ў працоўнай кніжцы па наш дзень.

Так і запісана — салістка-вакалістка другой катэгорыі. Чаму не першай? Таму што не было музычнай адукацыі. Каб атрымаць першую катэгорыю, трэба было прайсці пэўную атэстацыю. Як чалавек па прыродзе не амбіцыйны, Кася з задавальненнем пагадзілася і на другую.

Мякка кажучы, гурт «Новае неба» не зусім адпавядаў «класічнаму» профілю «Белканцэрту», таму выступленняў у «музыкаў бунту» амаль не было. За што іх вельмі жорстка крытыкавалі.

Выратоўваў (царства яму нябеснае) аўтарытэтны Віктар Вуячыч. Заўжды падымаўся і з пафасам казаў — маладыя групы павінны быць у творчым пошуку. З «Новым небам» заключылі кантракт на наступны год...

Пратрымалася Кася Камоцкая там даволі доўга, і нават калі прыйшоў Лукашэнка, яе не адразу звольнілі.

У сённяшняй сітуацыі такое немагчыма па вызначэнні.

12 студзеня 1995 года ў Мінскім Альтэрнатыўным тэатры адбылася першая «Рок-каранацыя». Ініцыявалі яе правядзенне музычны выдавец Юрый Цыбін і прадзюсер Генадзь Шульман. Менавіта там Кася Камоцкая і стала першай «Рок-князёўнай» Беларусі. Праз год яна атрымала карону зноў, а яшчэ праз год ад чарговай узнагароды прынцыпова адмовілася. Маўляў, на музычнай сцэне Беларусі ёсць і іншыя вартыя прэтэндэнткі. Выпадак для шоў-бізнэсу амаль унікальны,

бо добраахвотна адмаўляцца ад «медных трубаў» не прывыклі нідзе.

## Сыход, якога не было

У нейкім сэнсе «Новае неба» больш правільна называць агульным праектам, чым рок-гуртом, бо «канстантай» там была толькі Касая Камоцкая. Усе астатнія — «часовыя інгрэдыенты». Прыходзілі, гралі, сыходзілі, зноў вярталіся. У кожнага была свая «нацыянальная кватэра» ў выглядзе вядомай каманды. «N.R.M» альбо «ULIS», напрыклад.

«Новае неба» — тыповая творчая лабараторыя. У сваіх калектывах музыкі былі вымушаны нечага даволі жорстка прытрымлівацца, а тут маглі цалкам «расслабіцца» і пачаць эксперыментаваць.

Словам, калі годам стварэння «Новага неба» дакладна можна лічыць 1991-ы, то вызначыцца з канкрэтным музычным накірункам, стылем іх дзейнасці, вельмі цяжка, бо ў розныя гады ён быў розным. Як і склад гурту. Адназначна сказаць можна толькі тое, што іх апошні альбом выйшаў у 1996 годзе.

Час ад часу прыходзіцца высвятляць у музыкаў агульную колькасць іх альбомаў. І даволі часта сутыкацца з тым, што тыя адразу не могуць назваць канкрэтную лічбу. Кася Камоцкая менавіта з гэтай катэгорыі. Калі прагучала падобнае пытанне, яна адказала так: «Не ведаю. Трэба паглядзець энцыклапедыю Падбярэзскага».

Сапраўдныя творцы менш за ўсё клапоцяцца пра колькасць медалёў на сваім строі. Зміцер Падбярэзкі — мой калега, сусед і сябар і, як адзін з лепшых музыказнаўцаў краіны, аўтарытэтна сведчыць — у Касі Камоцкай восем альбомаў.

Гэта асабістых. Плюс удзел у чатырох «складанках», дзе асобна хочацца выдзеліць легендарны «Народны альбом», які ў 1997 годзе быў задуманы Міхаілам Амнепадыставым.

Ёсць сэнс прыгадаць і альбом «Песні свабоды». Менавіта ў ім упершыню (для шырокай грамадскасці) прагучала адна з найбольш вядомых «візітак» Камоцкай «Белая лебедзь».

Цікава, што спачатку гэта песня не вельмі спадабалася Касі. Нескладаны матыўчык, простыя словы. Запісана яна была толькі дзякуючы Зміцеру Вайцюшкевічу, які фактычна прымусіў зрабіць фіксацыю. Літаральна за руку прывёў Касю Камоцкую ў студыю гуказапісу і ў якасці акампанементу выканаў цудоўнае сола на флейце.

Гэта пра тое, што ў «музычным» свеце пануе не толькі жорсткая канкурэнцыя, але і нешта шчырае, высакароднае.

Тое, што пачалося адбывацца з ёй пасля 1996 года, знаёма шмат каму, але я вырашыў выкарыстаць, што называецца, першакрыніцу. І прыгадаў цытату адной з нашых размоваў.

«Час ад часу, — распавядала Кася, — працягвала выступаць, аднак ужо ў «скарочаным» складзе нашага гурта — гітарыст Слава Корань з «ULIS» і вядомая віяланчалістка Юля Глушыцкая. Далей была пэўная стомленасць ад таго, што адбываецца навокал. Гэта не расчараванне. Гэта нейкая крыўда ад адсутнасці вынікаў. Б’ешся, б’ешся, а нічога не мяняецца.

Зараз па фэйсбуку «гуляе» фразу Андрэя Макарэвіча — такое адчуванне, што жыццё пражытае дарма. Гэта вельмі балюча. Табе здаецца, што нейкім чынам атрымалася змяніць арыенціры, а на самай справе нічога рэальнага не адбылося.

Спачатку музыку трэба самавыяўляцца, прабівацца, а потым хочацца, каб цябе не толькі слухалі, але і ПАЧУЛІ. Тут і разумееш, што ў прынцыпе нічога не змянілася. Гэта і крыўдна.

Безумоўна, спеваку прыемна збіраць цэлыя стадыёны прыхільнікаў, але потым прыходзіць час «Ч», і ты разумееш, што ў людскіх душах нічога не змянілася. Гэта трэба перажыць.

Наколькі я ведаю, мае выступы не забаранілі афіцыйна. Навошта прыцягваць увагу, калі сабатаваць можна і па іншаму. Напрыклад, даць дазвол на канцэрт за дзень да пачатку самога канцэрта. А без яго не тое, што квіткі не прадасі — нават не маеш права рэкламу зрабіць».



> Для чалавека, які мае адносіны да журналістыкі, Кася Камоцкая вельмі не любіць нешта пісаць. Быў такі выпадак. Калі для «Белсату» рабіўся фільм пра Сяргея Вітушку, абавязковай умовай тэлеканалу была наяўнасць сцэнарыя. Зрабілі так: цалкам за свой кошт знялі фільм, зманціравалі яго, а потым ужо напісалі сцэнарый... Так бы мовіць — пастфактум...

## Магія кіно

Другую палову «ліхіх дзевяностых» Кася Камоцкая фактычна нічым не займалася. Толькі журналістыкай. Працавала на радыё «101,2» і радыё «Рацыя», а потым «плаўна» перайшла да дакументальнага кіно. На яе погляд, даступнасць новых спосабаў фіксацыі рэчаіснасці зрабіла дакументалістыку вельмі актуальнай формай выражэння беларускасці.

З большасці для ўсіх фільмаў яна з’яўляецца прадзюсерам, і толькі ў некаторых выступае ў якасці аднаго з аўтараў сцэнарыяў. А яшчэ час ад часу «ў кадры» яна працуе журналістам. Паспрабавала быць рэжысёрам, але хутка зразумела, што гэта, як кажуць, «не яе».

Як гэта не дзіўна для чалавека, які мае адносіны да журналістыкі, Кася Камоцкая вельмі не любіць нешта пісаць. Быў такі выпадак. Калі для «Белсату» рабіўся фільм пра Сяргея Вітушку, абавязковай умовай тэлеканалу была наяўнасць сцэнарыя. Зрабілі так. Цалкам за свой кошт знялі фільм, зманціравалі яго, а потым ужо напісалі сцэнарый... Так бы мовіць — пастфактум...

У сямейнай фільматэцы зараз сем карцін.

Першы фільм выйшаў у 2004-м, праз год пасля смерці знакамітага пісьменніка, і называўся «Васіль Быкаў. Вяртанне». Дарэчы, ён адзін са своеасаблівай трылогіі. Ёсць яшчэ карціны пра Уладзіміра Караткевіча і Рыгора Барадуліна.

Нягледзячы на тое, што пра апошняга было вельмі багата архіўнага матэрыялу (у савецкія часы ў нейкім сэнсе ён быў «паказальны»: гаварылі — а ў нас ёсць Барадулін) праца над карцінай ішла больш звычайнага — амаль два гады. Хацелася расказаць не столькі пра паэта, колькі пра чалавека. Дарэчы, праца над гэтым фільмам пачалася яшчэ да таго, як былі знойдзены першыя сродкі. Так сказаць, «на свой страх і рызыку»...

Такім жа чынам пачыналіся і ўсе астатнія праекты, і гэта вельмі паказальны адказ тым, хто брэша пра апазіцыянераў. Маўляў, жывуць яны як «сыр у масле». На погляд аўтара, галоўным адрозненнем іншадумцаў ад тых, хто думае «правільна», якраз і ёсць творчая рызыка. Першыя (не ўсе, канешне) — рамантыкі. Другія — цынічныя (з большасці) прагматыкі.

Дарэчы, на культурніцкія праекты ўладзе заўсёды значна прасцей знайсці фінансавую падтрымку, чым іх візаві. На мой погляд, падобны падыход заганны па вызначэнні. Ад некаторых кніжак і фільмаў карысці значна больш, чым ад традыцыйных улётак, пікетаў, мітынгаў...

У сучасных беларускіх умовах работа прадзюсера не абмяжоўваецца пошукам сродкаў на здымкі. Самае галоўнае — пошук прывабнай ідэі і канкрэтнае разуменне таго, што ты хочаш зрабіць і для чаго.

У нейкім сэнсе прадзюсер — суаўтар карціны.

Дарэчы, адной з першых работ Касі Камоцкай была карціна пра Чарнобыль. Паспелі застаць яшчэ жывым (загінулага ў аўтакатастрофе) вядомага прафесара Нікітчанку. Падчас здымак ён так і казаў: «Кожны год ад мяне адразаюць нейкую пухліну...»

Мабыць, гэтая вельмі сумная акалічнасць чалавечага жыцця прымушае стваральнікаў дакументальнага кіно ўвесь час моцна спяшацца.

А яшчэ патэнцыйная канкурэнцыя.

Напрыклад, тэму фільма пра былых вязняў ГУЛАГу Камоцкая з Корзунам не толькі, як кажуць, «застаўбілі», але і пачалі рабіць яшчэ да таго, як была атрыманая пэўная падтрымка.

Гэта дазволіла стварыць сапраўдны партрэтны архіў людзей, якія прайшлі праз сталінскія катаванні. У тым ліку і тых, хто на момант афіцыйнага пачатку працы над фільмам ужо пайшоў з жыцця.

## Замест P.S.

Калі гутарка заходзіць пра таленавітага чалавека, звычайна даводзіцца чуць шмат чутак і здагадак. Не абышло гэта і Касю Камоцкую. Большасць размоў вакол яе датычылася настальгіі па сцэне, таму я вырашыў высветліць менавіта гэта. Адказ быў філасофскі, у стылі дыпломнай прафесіі галоўнага носьбіта яе фаміліі і першага мужа:

«Настальгіі па мінулых аншлагах няма. Ёсць настальгія па чалавечых адносінах тых часоў».










Ужо наступныя кампазіцыі «M.G.» з альбома «К чорту гарэлку» могуць распавесці слухачам зусім пра іншы бок творчасці каманды. Асаблівa загалоўная песня на аднайменны верш Ларысы Геніюш. Доўгае, глыбокае intro, здаецца, задумана, каб стварыць атмасферу непрыняцця таго ладу жыцця, які абвяргаўся паэткай

# Пакаленне next: вучні ці канкурэнты?

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Маладыя гурты з зайздроснай рэгулярнасцю пастаўляюць на музычны рынак Беларусі новыя рэлізы. Прапаную агляд дыскаў беларускамоўных гуртоў новай генерацыі.**

### «M.G.» класная класіка

Калі мне ўпершыню давялося паслухаць дэбютны дыск гурта «M.G.» «К чорту гарэлку», то быў прыемна ўзрадаваны дабротным гукам і выканаўчым майстэрствам навагрудскіх музыкантаў. Гітарныя сола (Герман Кулік), партыі ўдарных (Артур Кулік) і баса (Уладзіслаў Мазалеўскі) ствараюць на запісе тое, што ў музыкантаў завецца грувам. Бадай, такія ўражанні можна адчуць пасля першай кампазіцыі гурта «Бульбатрэш». Што ж тычыцца стылістычнай накіраванасці маладых музыкантаў, то іх прыхільнасці палягаюць у захапленні хард-рокам з сучаснымі дамешкамі, кшталту, progressive-metal, alternative-metal, hard-core. Ад гэтага першая кампазіцыя альбома вылучаюцца насычанай энергетыкай і падаецца неардынарнымі з меладычнага пункту гледжання.

Ужо наступныя кампазіцыі «M.G.» з альбома «К чорту гарэлку» могуць распавесці слухачам зусім пра іншы бок творчасці каманды. Асаблівa загалоўная песня на аднайменны верш Ларысы Геніюш. Доўгае, глыбокае intro, здаецца, задумана, каб стварыць атмасферу непрыняцця таго ладу жыцця, які абвяргаўся паэткай. Цяжкія рыфы надаюць кампазіцыі трагічнае адценне, а сэнс кампазіцыі нібы папярэджвае слухача: «У сэрца народу скіраваны выстрал / Досыць нам голаў хлуснёю кружыць!/ Жыць яму заўтра, альбо не жыць...» Безумоўна, кампазіцыя на вострасацыяльную тэму «К чорту гарэлку» — адна з самых эмацыянальных на альбоме і вартая, каб яе змясцілі на новых выпусках складанкі «Жыць для Беларусі» з песнямі паводле лірыкі Геніюш.

Арыгінальным словам у сучаснай музычнай багдановічаніяне можна назваць версію «Пагоні» Максіма Багдановіча. Кампазіцыя распачынаецца лірычнымі гітарнымі пераборамі, якія нагадваюць яшчэ адзін сучасны шэдэўр Багдановіча — кампазіцыю «De la musique avant toute chose» ад мінскага гурта «Dead Marsh». Але ў гурта «M.G.» лірызм плаўна трансфармуецца ў рок-гімн роднаму краю, яго вялікай гісторыі і культуры.

Адзін з варыянтаў «класічнай» песеннай серыі ў выкананні гурта «M.G.» — кампазіцыя «Дзецюкі» (на верш Ларысы Геніюш «Не сумуй»). Гэты твор — працяг таго, што ёсць стрыжнем новай канцэпцыі маладога гурта — і баладнасць, і глыбокае асэнсаванне тэксту твора, яго гарманічнае спалучэнне за мелодыяй, якая пастаянна развіваецца. Праз гэта песня спрыяе ўзнікненню эмоцыі, якая ахінае ўвесь твор, выклікае глыбокую веру ў тое, што наша зямля і краіна будуць вольнымі і незалежнымі. Справядліва будзе адзначыць і вакал У. Мазалеўскага, які дасягае неблагіх вынікаў у агульнай музычнай канве альбому.

Нельга абысці і англамоўныя кампазіцыі гурта «M.G.» («Nail King», «Price of Life»). Ну хаця б таму, што гэта даволі прафесійна спрацаваныя рок-опусы, мэта якіх — наследаваць самым сучасным музычным плыням. Што ж тычыцца іх дапасаванасці да альбому «К чорту гарэлку», то гэтыя кампазіцыі проста выпадаюць з кантэксту дыска (у тым ліку і гукавы эксперымент гурта — кампазіцыя «S.O.U.L.»). Музыкантам патрэбна цвёрдая рука прадзюсера, якія б параіў, як зрабіць чарговы альбом больш канцэптуальным.

### «TlustaLusta»: пераадольваючы сіндром

У музыкантаў існуе сіндром «другога альбома». Другі альбом, звычайна, самы складаны, і таму яго выпуск суправаджаецца вялікай колькасцю творчых і фінансавых праблем. Напрыклад, дэбютны дыск пераможцы «Басовішча–2008», гарадзенскага панк-гурта «TlustaLusta» «Блін першы» заслужыў даволі шмат пазітыўных адзнак, хоць і меў некалькі хібаў, палягаючых у адсутнасці вопыту. І вось, пераадолеўшы псіхалагічныя перашкоды, гурт прапанаваў слухачам свой новы рэліз — альбом «Пераначуеш — больш пачуеш», выдадзены лэйблам БМА group.

Адразу скажу, што гэтая праца гарадзенскіх музыкантаў можа прывабіць слухачоў больш разнастайнай кампазіцыйнай і стылявой палітрай твораў, а таксама больш сур'ёзным падыходам да лірыкі. Ну чаго варты толькі пералік аўтараў, на тэксты якіх былі створаны кампазіцыі альбома: Н. Арсеннева, С. Грахоўскі, А. Глобус, А. Кулінковіч, Ю. Пацюпа, Л. Дранько-Майсюк, нават Ф.-К. Агінскі (у перакладзе В. Сёмухі). Такая разнастайнасць робіць альбом у нейкім сэнсе панарамным.

Альбомны падыход адчуваецца і ў музычным аздабленні песень гурта «TlustaLusta». Адразу слухач звяртае ўвагу на тое, што панк-рок у ёй ужо не дамінуе стоадсоткава, хоць і застаецца адным з асноўных стылістычных складнікаў. Напрыклад, кампазіцыя «DE SAD» (на верш Ю. Пацюпы, з алюзіямі на радкі У. Дубоўкі і Н. Арсенневай) вылучаецца рэтраспектыўным рок-гучаннем, у якім аддаецца шмат увагі аранжыроўкам для духавых інструментаў (Ігар Жэброўскі — трамбон, труба). Да таго ж, рэтра-рытмы мелодый гурта месцамі нагадваць пароды на хіты савецкай эстрады.

«TlustaLusta» цалкам не адмовіўся ад свайго экстрэмальнага крэда: у іншых кампазіцыях гродзенскія музыканты шмат увагі надаюць стылю, з якога пачыналі свой шлях на беларускай рок-сцэне. Так, у кампазіцыях «Душа» (на верш С. Грахоўскага), «Эратаграфія» (аўтарства Л. Галубовіча) падкрэсліваецца адданасць панк-року і яго больш сучасным адгалінаванням — хард-кору, альтэрнатыўнаму року. Гэтаму дапамагаюць і два басісты гурта — Павал Фалейчык і Раман Варошка, а таксама два выканаўцы на ўдарных — Ян Каламыцкі (па сумяшчальніцтве — гітарыст) і Аляксандр Сыраежка.

Адна з самых яскравых кампазіцый альбома «Ён і яна» (на верш Л. Дранько-Майсюка), расквечаная вакалам Т. Беланогай, якая ў саюзе з вакалістам і гітарыстам «TlustaLusta» К. Богушам падкрэсліваюць актуальнасць вечнай тэмы кахання, адносін паміж жанчынай і мужчынам. Трэба адзначыць, што дуэт Беланогая—Богуш — адна з прыемных нечаканасцяў гэтай кружэлкі.

Што ж тычыцца «сіндрому другога альбома», то гродзенскім музыкантам яго ўдалося пераадолець без асаблівых страт: выканаўцы захавалі свой адметны творчы почырк, расквецілі стылістычную палітру сваіх кампазіцый новымі адценнямі, прапанавалі слухачам даволі спелы прадукт — альбом «Пераначуеш — больш пачуеш».

### «Like a Gossamer»: сюіта ў стылі «adult»

Некаторыя з тутэйшых выканаўцаў і гуртоў спярша называюць свае музычныя праекты англамоўнымі назвамі. Адпаведна, і творчасць іх першапачаткова — англамоўная. Але далейшая хада падзей прыводзіць многіх з іх да роднага слова і беларускага культурніцкага кантэксту. Такі шлях пераадолеў і студыйны праект «Like a Gossamer», ініцыятарам якога сталі гітарыст і вакаліст А. Акульчык і басіст Дз. Голін.

Музыканты «Like a Gossamer» прапанавалі слухачам свой першы і ў нечым манументальны рэліз — гадзінную рок-сіюту «Клятва вернасьці». Сапраўды, гэты альбом мае сваю складаную структуру, сваё развіццё і эмацыянальныя ўзлёты і затуханні...

Маю на ўвазе тое, што сюіта ўвабрала ў сваю канву шмат музычных і гукавых сродкаў: тут і фальклорнае выканне (народныя песні «Ой, стаіць бяроза», «Зашумела дубровачка» выконвае салістка гурта «Rokash» П. Дулінец), і гукавыя замалёўкі, якія перадаюць атмасферу беларускага навакольля ў розныя поры года: веснавыя спевы птушак, шум летняга жытняга поля, пошчак восеньскага дажджу, зімняе рыпенне сельскага вазка і капыт гаспадарскага коніка... Быццам, як у Баршчэўскага і Караткевіча, малады этнограф-фалькларыст вандруе па Беларусі ў з мэтай даследаваць легенды і паданні роднай зямлі, прасачыць лёс яе герояў і выдатных людзей — Чарадзея, М.К. Агінскага, Каліноўскага, зафіксаваць іх для будучых пакаленняў беларусаў (кампазіцыі «Зімовым шляхам», «Полем», «Вільня»...). Сярод гэтых акустычных экзерсісаў вылучаецца «Непачуты палянэз», прысвечаны М.К. Агінскаму і яго жыццёваму шляху патрыёта роднай Літвы.

Эмацыянальны цэнтр альбома «Клятва вернасьці» — творы на вершы А. Жукавай, у якіх сплятаюцца не толькі сімвалы мінулага, але і знакі веры продкаў — паганскай культуры і светапогляду нашых продкаў. З гэтага сімвалізму і вынікае і стылістычнае ўвасабленне цэнтральнай часткі рок-сюіты — кампазіцый «Краіна расамах», «Свіцязь», «Клятва вернасьці», «Заклятая гара», «Шведы» і іншых. Яно палягае на мяжы арт-рока і pagan-metal, ствараючы вельмі яскравы вобраз мінулага роднага краю. Адзначу тое, што «разынкай» гэтых кампазіцый з'яўляецца ўнутрыкампазіцыйныя кантрастныя эпізоды: напрыклад, сярод экстрэмальных гітарных рыфаў альтэрнатыўга року ці pagan-metal, харызматычнага гроўла А. Акульчыка, можна пачуць лірычныя спевы П. Дулінец, спакойныя гітарныя пераборы і фартэпіянныя акорды клавішніцы гурта К. Ганчаровай, электронныя імправізацыі ўдзельнікаў гурта, якія быццам бы рыхтуюць слухачоў да наступных трэкаў альбома.

Новую працу музыкантаў можна назваць сучасным увасабленнем забытай «музыкі для дарослых» — adult-rock'а, якая атрымала падмацаванне ў нашай краіне з творчасцю гурта «Like a Gossamer» і працягнула традыцыю «Песні пра зубра» «Сузор'я» і «Сымона-музыкі» ад «Dialectic Soul».

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Ліц. ЛП №02330/19 от 30.04.2004 №93. Замова № 1154

Падпісана да друку 29.08.2014. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.